ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

23 мая 1997 г. № 21/3897 Кошт 3 000 руб.





# "Музы Нясвіжа"

***Два гэтыя словы — нібы назва цудоўнай кнігі. Здаецца, адгорнеш вокладку, а там... Рамантычныя краявіды, легендарныя постаці; подых паданняў ды праўдзівай гісторыі; мелодыі, выявы, галасы...***

***"Музы Нясвіжа" — вядомая ўжо, здаецца, усім назва падзеі, якую і сапраўды можна параўнаць з цудоўнай новай кнігай, якая з'явілася ў нашым беларускім доме год таму і ў якой сёлета дадалося колькі маляўнічых захапляючых старонак.***

Фестываль камернай музыкі, наладжаны па ініцыятыве Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з яго мастацкім кіраўніком М. Фінбергам і падтрыманы Міністэрствам культуры, Беларускім інстытутам праблем культуры ды ўладамі Нясвіжа, прайшоў другі раз. І менавіта пад гэтаю

*(Працяг на стар. 3)*





## ЛМ КОЛА ДЗЁН

***Якім увойдзе ў нашу гісторыю сённяшні дзень — 23 мая 1997 года? Зафіксуецца ў ёй важнай, лёсавырашальнай вехай ці прамільгне шараговай неазначальнай датай, кшталту 2 красавіка 1996 года? Супольнасць... Саюз... Сёння ў Маскве, пасля ўчарашняга ўдакладнення "нюансаў" паасобных палажэнняў, прэзідэнты А. Лукашэнка і Б. Ельцын падпішуць Статут Саюза Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Статут Саюза дзвюх незалежных дзяржаў. Суседніх. Братніх. Толькі ж — ці роўных? Хутчэй — зайца і тыгра, альбо вераб'я і коршака. Прычым другі, невымерна мацнейшы і агрэсіўны партнёр — з нязбытным імперскім норавам. Ці хопіць у яго вытрымкі, выхаванасці, звычайнага такту выслухоўваць і прыслухоўвацца да парад і меркаванняў саюзніка? І калі хопіць, дык ці надоўга? Як кажуць, ёсць пытанні. Нездарма свядомыя беларусы, у тым ліку творчая інтэлігенцыя (яе трывожны з гэтай нагоды зварот да народа так і не дайшоў да народа, праігнараваны СМІ), бачаць у саюзніцкіх гульнях рэальную пагрозу самай вялікай каштоўнасці, якой здабыў наш народ, — незалежнасці, суверэнітэту Беларусі, беларускай дзяржаўнасці наогул. Што ж дзень наступны нам рыхтуе?.. Ёсць спадзяванне, што Аляксандр Рыгоравіч, якія б жорсткія ўмовы ні ставіліся яму Масквой, не прайграе, як і заўсёды, у барацьбе за ўладу, а тым самым у гэтым выпадку — за Беларусь.***

### З'ЕЗД ТЫДНЯ

Два дні, 20 і 21 мая, у сталічнай канцэртнай зале "Мінск" праходзіў устаноўчы з'езд Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. Праходзіў у лепшых колішніх партыйна-камсамольскіх традыцыях: ганаровы прэзідыум на чале з першымі асобамі краіны, пафасныя даклады, гучныя, не вельмі змястоўныя выступленні, дружныя воплескі, што пераходзілі ў авацыі. Што будзе ўяўляць сабою БПСМ і чым ён будзе займацца — пэўна сказаць пакуль што цяжка. У назве новай арганізацыі найбольш пікантнае слова — патрыятычны. Тэлежурналіст папрасіў з дзесятак дэлегатаў (некалькі студэнтаў з розных ВНУ і гарадоў, настаўніца, рабочы, навучэнка) адказаць, што яны разумеюць пад гэтым словам — патрыятызм. Усе дружна гаварылі аб любві да айчыны, праўда, чамусьці не называючы імя гэтай самай айчыны. І ўсе патрыёты гаварылі, само сабою, па-руску. Як, дарэчы, і на з'ездзе.

### ПАДВЫШЭННЕ ТЫДНЯ

На 10 тысяч рублёў узрасла фіксаваная рознічная цана аднаго літра гарэлкі. У выніку кошт паўлітровай пляшкі мінскай "Белай Русі" і брэсцкай "Люкса" пераваліў за паўсотню тысяч. Амаль адначасова падскочылі цэны і на вараныя кілбасы. Пэўна, як вынік павелічэння на трэць закупачных цэн на буйную рагатую жывёлу. Мары электарата аб танных выпіўцы і закусі разбіваюцца аб суровы быт...

### СХОД ТЫДНЯ

У сераду ў Цэнтральным Доме афіцэраў у Мінску адбыўся першы ўсеармейскі афіцэрскі сход Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Мэта сходу, як паведаміў карэспандэнту "Народнай газеты" начальнік упраўлення выхаваўчай работы і інфармацыі Міністэрства абароны палкоўнік У. Сераштан, "згуртаванне афіцэрскага корпуса". Што ж, згуртоўвацца, пэўна, трэба, тым больш, што ёсць вакол каго і дзеля чаго. Трошкі дзіўна іншае: афіцэрскія сходы, як правіла, склікаюцца па месцы службы афіцэраў, у вайсковых частках. А тут — з усёй краіны, ажно 560 удзельнікаў! Ды, зрэшты, былі ў нас сходы, таксама ўсебеларуския, і з пяццю тысячамі дэлегатаў...

### ЛАЎРЭАТ ТЫДНЯ

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнку прысуджана Міжнародная Шолахаўская прэмія 1997 года — "за вялікі ўклад у палітычную публіцыстыку, якая змагаецца за сацыяльную справядлівасць і цеснае яднанне брацкіх славянскіх народаў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі". Камісію па прысуджэнні прэміі ўзначальвае Ю. Бондараў. Прэмія існуе з 1993 года, сярод яе лаўрэатаў — вядомыя пісьменнікі, грамадскія і палітычныя дзеячы. Цяпер вось у іх ліку — і наш Аляксандр Рыгоравіч. Прыемна, вядома. Толькі ўсё ж чамусьці, па нейкай дзіўнай асацыяцыі, прыгадваецца напаўзабытая трылогія аднаго славутага лаўрэата Ленінскай прэміі...

### ПАЖАР ТЫДНЯ

У калгасе "Новае жыццё" Кобрынскага раёна згарэў цялятнік. Пажар, як паведамляецца, усчаўся ўначы, вартаўнік быў дома, падаспелыя пажарныя паспелі выратаваць 20 жывёлін і не пусцілі агонь далей, на іншыя будынкі. А 160 цялят загінулі ў полымі. Бедныя безгаспадарчыя цялякі!

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У Беларусі на сёння выходзіць 905 друкаваных выданняў: 607 недзяржаўных і 298 — дзяржаўных. Лічбы, дайце веры, унушальныя. Вось толькі беларускамоўных з іх — не сотні і нават не дзесяткі, а ўсяго толькі лічаныя адзінкі.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Калі паспрабаваць прадказаць, якая з інтэграцыйных тэндэнцый — раўнапраўны і ўзаемавыгадны саюз дзвюх суверэнных, незалежных дзяржаў ці поўнае зліццё Беларусі і Расіі ў адзінае палітычнае ўтварэнне — возьме верх у выніку рэалізацыі ідэі Саюза ва ўмовах нашага жыцця, наяўнай самасвядомасці народа, той палітычнай гульні, якая вядзецца сёння, дык, на наш погляд, другая — у працэсе "паэтапнай інтэграцыі" Беларусь у канчатковым выніку ўвойдзе ў склад Расійскай Федэрацыі. Гэта непазбежны, заканамерны вынік саюза дзвюх дзяржаў, якія знаходзяцца "ў розных вагавых катэгорыях". Тым больш, што ідэя "поўнай і канчатковай інтэграцыі" прадугледжана ў планах многіх уплывовых расійскіх палітыкаў і закладзена ў Статуце Саюза Беларусі і Расіі. У ім сказана: "Перспектыва развіцця Саюза накіравана на паслядоўны рух да добраахвотнага аб'яднання дзвюх дзяржаў на аснове свабоднага волевыяўлення іх народаў, з захаваннем Канстытуцый дзяржаў-удзельніц, выходзячы з суверэннай роўнасці яго членаў, агульнапрызнаных нормаў і прынцыпаў міжнароднага права". Нягледзячы на туманную дэмакратычную фразеалогію, сутнасць гэтага палажэння відавочная: паслядоўны рух да аб'яднання дзвюх дзяржаў. А хто каго "праглыне", мяркую, ясна".

*(С. Падокшын, "Інтэграцыя і суверэнітэт", "Народная воля", 21 мая 1997 года)*

АДГАЛОСКІ

# Дыяспара: супярэчлівы працяг нацыі

Здарылася так, што ў адзін і той жа дзень сярэдзіны вясны дзве розныя газеты ў розных (пакуль?) дзяржавах надрукавалі матэрыялы, супастаўленне зместу якіх выклікала, з аднаго боку, пачуццё віноватасці і горычы, а з другога — вялікую павагу і разам здзіўленне ад гэтакай высокай праявы чалавечага духу і самаахвярнасці ў імя, здавалася б, такой "нематэрыяльнай" рэчы, як нацыянальная адметнасць і незалежнасць. Маюцца на ўвазе інтэрв'ю маладога польскага беларуса Міраслава Урбановіча ў "ЛіМе" (N20, 97) пад загалоўкам "Нам наўрад ці можна будзе пазайздросціць..." і рэпартаж у расійскай уплывовай газеце "Известия" (N 90, 97) "Аслан Масхадаў: На што мы, чачэнцы, здольныя?"

У абодвух матэрыялах гаворка ідзе пра адносіны дзяржаў да сваіх замежных суродзічаў (дыяспары). А што гэта фактар у жыццядзейнасці любой краіны немалаважны, асабліва ў міжнародных стасунках, яскрава сведчыць сусветны вопыт. Прыкладам хаця б тое, што адносна невялікая па колькасці насельніцтва (5 з нечым мільёнаў чалавек) краіна Ізраіль не толькі здолела атрымаць незалежнасць у шматгадовай крывавай барацьбе з магутнай Брытанскай імперыяй, але мае магчымасць падтрымліваць высокі эканамічны ўзровень сваіх грамадзян і адначасова істотна ўплываць на міжнародныя справы. Даўно таксама вядомая сваёй актыўнасцю на карысць гістарычнай радзімы армянская дыяспара, пачынае аказваць усё больш істотную падтрымку Кіеву ўкраінская, асабліва ў ЗША і Канадзе. Прыклады можна доўжыць.

У той жа час наша, беларуская дыяспара зараз паўсюдна, па звестках, адчувае роспач і вялікую трывогу. Вось як кажа пра ўласнае этнічнае самапачуванне той жа Міраслаў Урбановіч: "Часам я ў сваёй вёсцы (на Беласточчыне, паблізу Белавежскай пушчы — **У. А.**) чую словы: "Пра якую Беларусь ты гаворыш? Паглядзі, што дзеецца ў Мінску!" Але каб заставацца беларусам (звернем асаблівую ўвагу! — **У. А.**), мне непатрэбна Беларусь. Яна патрэбная для іншага — для нашай бяспекі. Калі ўсе будуць ведаць, што існуе моцная незалежная Беларусь, этнічных беларусаў у суседніх краінах ніхто і ніколі не папракне іхнім паходжаннем.. баюся, што на будучай польска-расійскай мяжы апусціцца новая "жалезная заслона" і адновіцца сітуацыя 30-х гадоў..."

Цяпер звернемся да надрукаванага ў "Известиях" "чачэнскага" матэрыялу. Ён прысвечаны сустрэчы А. Масхадава з чачэнскай абшчынай Масквы пасля падпісання мірнай дамовы з Б. Ельцыным, прэзідэнтам магутнай краіны, які яшчэ некалькі месяцаў таму і слухаць не хацеў аб нейкіх увогуле перамовах з "сепаратыстамі" і "тэрарыстамі" з каўказскай ускраіны імперыі. Тым не менеі, гэта адбылося.

На сустрэчы з чачэнскай абшчынай у Маскве, піша карэспандэнт "Известий" І. Дзяменцьева, А. Масхадаў размаўляў на сваёй мове. Хаця, звернем увагу, чачэнцы практычна ўсе валодаюць расійскай моваі, сам А. Масхадаў, у былым — палкоўнік элітных частей РА, увогуле валодае добра. Тым не менеі, размова вялася па-чачэнску і расійскай журналістцы даваліся шукаць перакладчыка.

Сустрэча А. Масхадава з чачэнскай дыяспарай у Маскве, піша І. Дзяменцьева, абяцала быць драматычнай. Сапраўды, тут атабарыліся суродзічы самых розных палітычных поглядаў. Гэта і прадпрымальнікі, якія вывезлі падалей ад вайны свае сем'і, і апазіцыйная Дудаеву інтэлігенцыя, і два прарасійскія эксурады, асабліва заўгаеўскі са сваім апаратам, прыстроеныя расійскім кіраўніцтвам у Маскве. Усе яны маглі чакаць ад новага прэзідэнта Ічкерыі сама менш папрокаў за няўдзел у змаганні за незалежнасць. Аднак нічога гэтага не было.

А. Масхадаў падкрэсліў, што падпісанне мірнага дагавора Чачні з Расіяй — гістарычны дзень, першы дзень Міру. Падпісанне адпаведных дакументаў на самым высокім узроўні — гэта ўпершыню юрыдычна пацверджаны факт, што вайна была і нарэшце скончылася. З цяперашняга дня, адзначыў А. Масхадаў, два народы вуснамі сваіх прэзідэнтаў абвясцілі ўсяму свету пра намер ніколі больш не ўзнімаць зброю адзін супраць другога. Гэта акт вялікай мужнасці і палітычнай волі з боку прэзідэнта Ельцына, падкрэсліў Масхадаў.

А ў тым, што чачэнскаму народу ўдасца годна завяршыць гэтую вайну, сказаў А. Масхадаў, ён ніколі не сумняваўся, бо добра ведаў сваіх суродзічаў. Нашмат складаней, падкрэсліў ён, — пабудаваць сваю дзяржаву. Ёсць людзі, казаў ён, якія нават разлічваюць на тое, што чачэнцам гэта не па сілах. Яны зыходзяць менавіта з чачэнскага характару і менталітэту. Гістарычна так склалася, што вайнах павінны быў у першую чаргу клапаціцца пра сябе, пра дамашні ачаг, пра сям'ю, абараняць іх. Цяпер давядзецца крута мяняць такое ўяўленне пра свой доўг, настала пара адчуць сваю адказнасць перад грамадствам, перад будучай нацыянальнай дзяржавай і аб'ядноўвацца. Галоўная задача, якая паўстала зараз перад новым чачэнскім урадам, падкрэсліў А. Масхадаў, задача сапраўды гістарычная — аб'яднаць народ. Усім нам, сказаў ён, давядзецца паўстаць перад светам не са зброяй у руках, а прайсці праверку на іншае ўмельства і даказаць суседзям і самім сабе, на што мы здольныя ў мірны час.

А. Масхадаў пацвердзіў тое, што ўжо вядома са сродкаў масавай інфармацыі і сведкаў: гаспадарка Чачні разбураная вайной, многа хворых, інвалідаў. Тым не менеі, народ з той жа ўпартасцю, з якой змагаўся за незалежнасць, цяпер аднаўляе ўласныя ачагі, залечвае раны.

Што да таго, хто "ваяваў", а хто "не ваяваў", падкрэсліў А. Масхадаў, каб папракаць ці асуджаць некага, хто не трымаў у руках аўтамат ці гранатамёт, а інакш уладкаваў сваё жыццё, такое супрацьстаянне дапусціць нельга. Зусім неабавязкова было ўрэшце ўсім ваяваць, не было такой неабходнасці. Не трэба звяртаць увагу, сказаў А. Масхадаў, на мае рэзкія выступы ў часе перадвыбарчай кампаніі. Нават сярод заўгаеўскага атачэння ёсць людзі падманутыя, тыя, хто памыляўся. Ніхто не збіраецца напамінаць ім пра тое. Канешне, ёсць і такія, хто прывёў у Чачню чужыя войскі і садзейнічаў распачынанню вайны супраць уласнага народа, але такіх — чалавек дзесяць, ад сілы дваццаць. Але калі ваяваць усім было неабавязкова, то сёння, калі давядзецца будаваць сваю дзяржаву, кожны абавязаны дапамагчы. Дзе б ён ні жыў, дзе б ні знайшоў свой лёс і сваю справу, павінен успомніць, што ён чачэнец, чачэнец, чачэнец, і дапамагчы чым зможа. У нас ёсць і акадэмікі, і практыкі, яны рассыпаны па ўсёй Расіі, раз'яднаныя. Гэта не страшна — абы кожны ўспомніў пра тое, што ён чачэнец, і ўзяў на сябе частку ношы. Я быў за мяжой, сказаў А. Масхадаў, і пачуў запэўніванні, што нам дапамогуць фінансава, дапамога дзякуючы заключаным эканамічным пагадненням паступіць і з Расіі. Але гэта не галоўнае. Галоўнае, падкрэсліў чачэнскі лідэр, гэта тое, што мы зробім для сябе самі. Кожны з нас.

Асобна прэзідэнт Чачні спыніўся на пытаннях развіцця культуры і адукацыі. Мы — мусульмане, сказаў ён. У часе вайны, у цяжкі час вера дапамагала людзям выжыць, была апорай. Аднак чачэнцы — не дагматыкі. Ды і пытанні веры, нацыянальнай духоўнасці — так можна было зразумець А. Масхадава, заўважае журналістка, — дэкрэтамі не вырашаюцца. Пра нас, заўважыў ён, кажуць як пра дагматыкаў. Не, хто хоча мець вусы — няхай мае, хто хоча хадзіць у шапцы ці без шапкі — ягоная асабістая справа. Дзяржава, супакойцеся, у гэта ўмешвацца не будзе. Мы жывём у цывілізаваным свеце, падкрэсліў А. Масхадаў, і хочам карыстацца яго дасягненнямі. Мы надаем першаступеннае значэнне добрай адукацыі. Першае, пра што мы паклапаціліся, калі скончылася вайна, пастараліся адчыніць школы. Праўда, не хапае настаўнікаў, якім да таго ж не плацілі зарплату, разбураны многія будынкі, але цяпер пачался аднаўленне.

Прадстаўнікі чачэнскай дыяспары выказалі намер усімі сіламі аказваць дапамогу аднаўленню сваёй гістарычнай радзімы.

Сустрэча чачэнскага прэзідэнта з дыяспарай цікавая сама па сабе як элемент нацыянальна-культурнага жыцця мужнага свабодалюбівага народа для нас, беларусаў, асабліва вартая ўвагі. Як вядома, у канцы ліпеня плануецца правядзенне чарговага З'езда беларусаў свету. Якім будзе дыялог вышэйшага кіраўніцтва Беларусі з паўнамоцнымі прадстаўнікамі дыяспары? Мы ўжо не кажам пра мову, на якой ён будзе весціся, хаця вельмі б пажадана, каб яна была ўсё ж нашай, беларускай, але на якім узроўні кіруючых асоб? Наколькі ўсведамляе цяперашняя наша кіруючая эліта, што дыяспара з'яўляецца надзвычай важным прыцягам нацыі ў свеце, няхай сабе і ў пэўным сэнсе супярэчлівым? Сусветны вопыт сведчыць: дыяспара сілкуецца этнасам, але ж у сваю чаргу і нацыя не знікае, пакуль у яе ёсць дыяспара. Да прыкладу ўжо згаданая яўрэйская нацыянальная дзяржава дзякуючы менавіта гэтаму чынніку змагла не толькі адрадзіцца, але і расквітнець і праз 2 тысячы гадоў, успомніўшы сваіх самаахвярных герояў і нанава пракляўшы здраднікаў і адступнікаў. Так ёсць і будзе.

**Уладзіслаў АСІНАВЕЦ**

ІМПРЭЗЫ

# Дню Кірылы і Мяфодзія...

А дзень гэты прыпадае на 24 мая, — прысвячаецца І Фестываль духоўнай музыкі. Пачынаецца ён сёння, вялікім канцэртам духоўнай харавой музыкі ў сталічнай філармоніі. Праграма вядучых прафесійных калектываў Беларусі (капэла імя Р. Шырмы, Акадэмічны хор Белтэлерадыё, "Sonorus", "Унія" ды інш.) падрыхтавана пад агульным кіраўніцтвам маэстра В. Роўды. Раніцай жа ў школах ладзяцца ўрокі гісторыі славянскага пісьменства, а беларускія навукоўцы збіраюцца на кірыла-мяфодзіеўскія чытанні. У суботу адбудзецца набажэнства ў Мінскім кафедральным саборы, хросны ход, ускладанне кветак да мемарыяльнай дошкі ў гонар вялікіх асветнікаў славянскіх, цырымонія з удзелам праваслаўных святароў, пісьменнікаў, дзеячаў культуры... Канцэрты і асветніцкія імпрэзы, у тым ліку з удзелам самадзейных музыкантаў, пройдуць ва ўсіх абласцях краіны. Завершыцца фестываль у нядзелю.

ФЕСТЫВАЛІ

# Чатыры з адзінаццаці

***Міністэрства культуры Беларусі магло трыумфаваць: чатыры з адзінаццаці спектакляў, што з'явіліся на "Славянскіх тэатральных сустрэчах" з ягонае, міністэрскае, настойлівасці ды нагледжанасці, уяўлялі сабою не менш як падзею. (Звычайна прызнанне фестывалю надае ўдача хоць бы адной пастаноўкі). З 14 па 18 мая падзейны шэраг гомельскіх сустрэч вызначылі украінскія "Сон на Іванаву ноч" (ён ганараваны галоўным прызам фэсту) ды "Дзень кахання, дзень свабоды"; беларускія "Амфітрыён" ды "Крывавая Мэры".***

Кожны з трох апошніх спектакляў атрымаў спецыяльны фестывальны дыплом; крытыкі спачувалі журы, якое гэты раз уяўляла сабою сход ганараваных артыстаў на чале з Аляксеем Дударавым, драматургам і настойлівым чалавекам. Ягонаю настойлівасцю ды дапамогаю гомельскіх уладаў (здаецца, іх можна назваць і сузаснавальнікамі і спонсарамі) кожны з адзінаццаці спектакляў вылучаўся, узнагароджваўся, заахвочваўся. Названыя чатыры не тое што ўразілі — скаланулі прафесійнікаў, нават тых, чыю спецыялізацыю складаюць (утвараюць) наведванні тэатральных фестываляў, прагляд спектакляў ды ацэнка іхняга ўзроўню. Такім чынам Чарнігаўскі музычна-драматычны тэатр (што знаходзіць адмовіцца ад бясконцых "Цыганак Азаў" ды "Шальменкаў-дзеншчыкоў" дзеля маладога акцёра, нават і не дыпламаванага яшчэ рэжысёра Андрэя Бакірава!), Кіеўскі маладзёжны тэатр (прадстаўлены рэжысурай не старэйшага за Бакірава Дзмітрыя Лазоркі), Незалежны тэатр Гомеля (дзе вяла рэй рэжысура Андрэя Троіцкага, акцёра паводле адукацыі) ды Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, дзе акцёру (таксама акцёру!) Аляксандру Гарцуеву карцела хоць бы раз выказацца на поўны голас з абсалютнай адказнасцю могуць прадстаўляцца на самых прэстыжных еўрапейскіх тэатральных фэстах і свядома разлічваць не тое што на ўзнагароды — на прызнанне капрызлівага і зменлівага свету тэатральных творцаў. Чарнігаў, Кіеў, Гомель і Мінск, маючы людзей з такім адметным, выбітным, сучасным тэатральным мысленнем, аўтаматычна могуць прэтэндаваць на славу гарадоў тэатральных. А такая слава ў свеце дорага каштуе!

Мастацкі кіраўнік фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы" Уладзімір Караткевіч, ён жа і мастацкі кіраўнік Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, здабыў славу тэатральнага менеджэра, арганізатара і каго там яшчэ — доўга пералічваць. Здабыў і прызнанне, бо падтрымаць такія работы (хоць бы тым, што даць магчымасць пэўнаму колу крытыкаў і шырокім колам аматараў тэатра паглядзець іх) каштавала дарагога ў простым сэнсе слова. Засмуціла хіба наступнае: узровень спектакляў, якія міжволі атачалі ды падкрэслівалі адметнасці найлепшых, быў не тое што сярэдні... Не тое што шараговы... Яны адсталі ад свайго часу гадоў на дваццацьтрыццаць (эстэтыкаю, узроўнем рэжысёрскага мыслення).

...Спасылкі на рэжысуру ў гэтым допісе такія частыя, што вымагаюць тлумачэння. "Акцёры не вінаватыя!" — кажуць часам, правакуючы непаразуменні між творцамі. Без усялякай прыхаванай думкі пра звадку крытыкі заўважалі, што першапрычына няпоспеху — якраз рэжысура. Што рабіць, калі менавіта гэтая тэатральная прафесія ўсё дваццатае стагоддзе падпарадкуе сабе, вызначае сабою кожную сцэнічную прапанову! Прафесійнае мастацтва жорстка абыходзіцца з творцамі. Шчырасць, адкрытасць, даверлівасць і нават чалавечая рацыя не замяняюць пераканаўчай мізансцэны альбо выяўленчай дакладнасці. Іншасветы, уласныя светы стварылі чатыры пастаноўшчыкі лепшых фестывальных спектакляў. Светы, ніяк не менш! Публіка захаплялася не толькі тымі падзеямі, якія прапанаваў або прадугледзеў драматург, але і высока ацэньвала мову рэжысёра, вітаючы воплескамі нават мізансцэны! Тэкст не ілюстраваўся, але рабіўся то складнікам, то саўдзельнікам сцэнічнага руху, то паступальнага, паступовага, то рванага, то адмыслова рытмізаванага. І сярод усіх рэжысёравых пэўнасцяў вялі рэй акцёры. Рэй спраўны, самавіты, упэўнены...

Балазе, ніякай дасужай славяншчынай на "...тэатральных сустрэчах" не тхнула. "Я супраць інтэгравання ў мастацтве, — дасціпна зазначаў А. Сасноўскі, распачынаючы прэс-канферэнцыю. — Мы цікавыя ды патрэбныя ў сваёй адметнасці, адрознасці, неагульнасці. Меркаванне міністра культуры Беларусі працытавалі потым не адзін раз: яно заахвочвае прафесійнасць.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**
*Гомель—Мінск*

# "Музы Нясвіжа"

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

рамантычнаю назвай, якая адпавядае і ладу, і духу досыць размаітых (не толькі музычных) фестывальных падзей.

Як паведаміў журналістам старшыня Нясвіжскага райвыканкама У. Дражын, яшчэ да пачатку фестывалю ўзнікла праблема "лішняга білета": на кожнае глядацкае месца ў Доме культуры было 10 прэтэндэнтаў, а ў зале — 440 крэслаў.Горад прыняў дзве сотні гасцей: музыкантаў, артыстаў, навукоўцаў, мастакоў, журналістаў. Усе імпрэзы ладзіліся не за кошт бюджэту, а дзякуючы фінансавай падтрымцы прадпрыемстваў раёна...

Ёсць нагода пагартаць "фестывальную кнігу" і прыглядзецца да яе старонак. Што мы і зробім у бліжэйшы час. А сёння ўвазе чытачоў — імгненні, імгненні. Яны трапілі падчас нясвіжскіх імпрэзаў у поле зроку фотамайстра Віт. АМІНАВА.



*Старшыня Нясвіжскага райвыканкама Уладзімір ДРАЖЫН, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхал ФІНБЕРГ, міністр культуры Аляксандр САСНОЎСКІ, намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Сяргей ПАЎЛЮКЕВІЧ.*



*Віртуознае сола цымбалісткі Наталлі КАВАЛЕЎСКАЙ.*



*На сцэне — кампазітары: Сяргей ЯНКОВІЧ, Галіна ГАРЭЛАВА, Уладзімір КУР'ЯН, Аляксандр ЛІТВІНОЎСКІ.*

МЕРКАВАННЕ

# Зямля: парадоксы рынку

Шмат разоў з розных высокіх трыбун кіраўнікі Беларусі давалі народу абяцанні, што ў хуткім часе будзе забяспечана прыярытэтнае развіццё сяла і створана багацце танных прадуктаў харчавання. Такія абяцанні гучаць і сёння. Але замест абяцанага багацця танных прадуктаў харчавання назіраецца рэзкі спад аб'ёмаў сельгасвытворчасці. Асноўныя вытворцы — калгасы, саўгасы, за невялікім іх выключэннем, апынуліся на мяжы фінансавага банкруцтва і разбурэння. Зарплату, прытым мізэрную, сяляне не могуць атрымаць па два-тры месяцы. У гаспадарках адсутнічаюць сродкі на набыццё тэхнікі, запчастак, угнаенняў, паліва. Карміцелі краіны, а разам з імі і ўсе мы апынуліся ля разбітага карыта, бо ад стану вёскі залежыць дабрабыт усёй дзяржавы і яе народа.

Ці ёсць выйсце з гэтага становішча? Думаю, ёсць. Толькі трэба неадкладна брацца за работу. Папершае, неабходна стабілізаваць фінансавае становішча калгасаў і саўгасаў — шляхам кампенсацыі страт, якія панеслі гаспадаркі ў выніку лібералізацыі цэн, затрымак з аплатай за прададзеную дзяржаве прадукцыю. Гэтую кампенсацыю гаспадаркі выкарыстоўваюць для набыцця паліва, мінеральных угнаенняў, кармоў, будаўнічых матэрыялаў. Наш жа ўрад за апошнія гады дазволіў сабе некалькі разоў абрабаваць сялян на мільярды рублёў, прымусіўшы іх прадаць сваю прадукцыю па жорстка фіксаваных цэнах і стварыўшы тым самым магчымасць шалёнага ўзлёту свабодных цэн на прамысловую прадукцыю. Навошта ж свядома даводзіць да банкруцтва сельскія гаспадаркі, а потым рабіць няўклюдныя і запозненыя спробы па "выратаванні", аказанні ім міласціны ў выглядзе разавых падачак, фінансавых ін'екцый?

Безумоўна, калгасна-саўгасная сістэма патрабуе рэфармавання, але ж і яна была б куды больш эфектыўнай, калі б дзяржава павярнулася тварам да селяніна. Улічваючы, што цэны на энергарэсурсы і прамысловыя тавары ўвесь час узрастаюць, трэба, каб і закупачныя цэны змяняліся адначасова. Дзяржава павінна гарантаваць

*(Працяг на стар. 4)*

ЭКСЛІБРЫС

# Сюжэты пасцілак і ручнікоў...

*М. Кацар. Беларускі арнамент. Ткацтва, вышыўка. Мінск, "Беларуская энцыклапедыя", 1996.*

**Хуткасць, з якой тэхнакратычная цывілізацыя знішчае традыцыйную культуру беларусаў, проста неверагодная. І, можа, не было б так крыўдна, калі б гэтая беларуская традыцыйная культура была беднай і неразвітой. Аднак, з аднаго боку, нам вельмі пашанцавала, што ў нас <u>такая</u> культура, але, з другога боку, не пашанцавала, што працэс яе імклівага знікнення і кардынальнай змены ў 20-м стагоддзі прыпаў на камуністычнае панаванне. У выніку сістэматычнага даследавання яе не рабілася. І таму з'яўленне вось такіх прац успрымаецца як нейкі нечаканы цуд.**

**М. Кацар не толькі падае больш за 500 прыкладаў тканых і вышываных узораў, не толькі дае сэнсавае тлумачэнне да кожнага з іх, але аповед свой разнастаіць песнямі, паданнямі, успамінамі людзей, якія дапамагаюць лепей зарузмець кантэкст існавання гэтага віду беларускай культуры.**

**Ткацкія і вышываныя ўзоры на кашулях, пасцілках і ручніках — гэта сапраўдная піктаграфічная пісьменнасць, якой карысталіся беларусы ў старажытнасці. Як казала аўтару кнігі адна 85-гадовая ткалля: "Усё, што я бачыла ў жыцці, што рабіла, як мучылася, весялілася, любіла хлопцаў, выходзіла замуж, як мы будавалі дом, хахалі адзін аднаго — усё гэта я расказала ў сваіх работах". Сотні і сотні паняццяў перадаюць геаметрычныя і раслінныя ўзоры ды іх спалучэнні. Большая частка з іх мае карані яшчэ з паганскай міфалогіі беларусаў. Тут мы сустракаем узоры Сонца і Зямлі — як асновы ўсяго жывога ў свеце, узоры Маці-радзіцельніцы, Святога дрэва, Ярылы, Жыцення, Волата і Радуніцы, узоры Мужчыны і Жанчыны, Дзіцяці і людской Душы, узоры Даждбога і Багача, Абярогаў і Капішча. Цэлыя піктаграфічныя паганскія сюжэты разгортваюцца на пасцілках і ручніках нашых бабулек, і дзякуй аўтару, які паспеў запісаць інфармацыйны змест гэтых мала зразумелых на сённяшні дзень пісьмёнаў. Наколькі актуальнай уся гэта інфармацыя была яшчэ на пачатку гэтага стагоддзя, сведчаць, напрыклад, аповяды аўтару пра старца-песняра Арсена, які "спяваў песні, у якіх праслаўляліся Сонца і Маці-Зямля. Быў ён у секце сонцапаклоннікаў, каля Нароўлі было ў яго капішча з крыніцай, свяшчэнным дубам, алтаром. Прыходзілі хворыя, старац лячыў іх крынічнай святой вадой, агнём і замовамі".**

**Паганская міфалогія арганічна спалучалася ў беларусаў з хрысціянствам, і цікава, напрыклад, чытаць такія развагі беларускай сялянкі: "Ярыла любіць, калі яго вышываюць на ручніку і вешаюць у царкве на абраз".**

**Але ўсё мінае ў гэтым свеце. І наколькі мы, беларусы, будзем цікавыя для сусветнай культурнай супольнасці і для нас саміх, залежыць ад рупнасці ды ініцыятывы сённяшніх пакаленняў.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## Грайце дуэтам, квартэтам і...

### ГІТАРА Ў АНСАМБЛІ



**І далучайце да гітары ў ансамбль іншыя інструменты! У новым нотным зборніку, выдадзеным Беларускім інстытутам праблем культуры, ёсць п'есы для гітары і флейты, для гітары і габоя, для гітары і мандаліны. І скрыпкі, і кларнета. Для дзвюх гітараў ды блок-флейты. Словам, навучэнцы музычных школ, ліцэяў і выканаўцы-аматары атрымалі доўгачаканы сучасны нацыянальна адметны рэпертуар.**

**"Гітара ў ансамблі" складаецца з інструментальных мініяцюр Анатоля Багатырова, Галіны Гарэлавай, Андрэя Бандарэнкі, Яўгена Паплаўскага ў пералажэнні Валерыя Жывалеўскага. Ёсць тут і арыгінальныя творы: самога Валерыя Жывалеўскага ("Лёгкія варыяцыі на тэму беларускай народнай песні "Пастушок", "Думка"), Вячаслава Кузняцова ("Палескі танец" для гітары ды блок-флейты), Ігара Кузьміцкага ("Караван" для флейты і гітары), Алеся Літвіноўскага ("Рычэркар" для гітары і габоя), Ларысы Мурашкі ("Вальс-катрынка" для гітары і мандаліны).**

**Укладальнікі гэтага каштоўнага музычнага сшытачка — Валеры Жывалеўскі (ён жа зрабіў выканальніцкую рэдакцыю партыі гітары) ды Яўген Паплаўскі. Выданне ажыццёулена з дапамогаю рэкламна-выдавецкай фірмы "Каўчэг".**

**С. Б.**

## Доўгае жыццё "Васы"



**Незвычайны музей знаходзіцца ў самым цэнтры сталіцы Швецыі — Стакгольме, на беразе гавані. Яго галоўны экспанат, карабель "Васа", з'яўляецца адным з самых цікавых.**

**"...Між чатырма і пяццю гадзінамі велізарны, новы карабель "Васа" перакуліўся і патануў..." Гэтыя радкі старажытны летапісец запісаў 10 жніўня 1628 года.**

**Чатырохпалубны фрэгат, флагман каралеўскага флота Швецыі "Васа" быў самым вялікім караблём таго часу. Ён нёс на сваім борце шэсцьдзесят чатыры буйнакаліберныя гарматы, яго мачты ўздымаліся на пяцідзесяціметровую вышыню. Корпус карабля ўпрыгожвала некалькі соцень пазалочаных і шматфарбных скульптур. Парусніку абяцалі вялікую будучыню і славу. Але памылка ў разліку канструкцыі прывяла да таго, што "Васа" прайшоў усяго тысячу трыста метраў і патануў ва ўнутранай гавані Стакгольма, ля вострава Бекхольмен.**

**Так і закончылася б гісторыя "Васы", калі б не энтузіязм аднаго з вядучых экспертаў Швецыі па ваенна-марской гісторыі інжынера Андэрса Франсена. Менавіта ім быў знойдзены патанулы карабель і даказана магчымасць яго пад'ёму. Праз 333 гады пасля катастрофы карабель зноў апынуўся на плыву.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

# Зямля: парадоксы рынку

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

выдзяленне льготных пазык перапрацоўчым і нарыхтоўчым прадпрыемствам для своечасовага разліку з калгасамі і саўгасамі за іх прадукцыю.

Для стабілізацыі эканомікі сельскай гаспадаркі патрэбны вялікія капітальныя ўкладанні. У бюджэце рэспублікі іх няма. Таму трэба шукаць рэзервы. Адзін з іх я бачу ў рэформе сістэмы дзяржаўнай уласнасці. Чаму б не перадаць народу палову дзяржаўнай уласнасці, у тым ліку і зямлі? Гэта дасць магчымасць стварыць вялікі пласт зацікаўленых у сваёй дзейнасці вытворцаў, паспрыяе стварэнню сапраўднага рынку і рыначнай эканомікі.

Вырашаючы пытанні цэнавага парытэту ва ўзаемаадносінах прамысловасці і сельскай гаспадаркі, трэба ўлічваць і вастрэйшыя задачы забеспячэння насельніцтва харчаваннем. Продаж сельскагаспадарчай прадукцыі ў дзяржаўны фонд ідзе вельмі марудна. І адной з прычын гэтага з'яўляецца парушэнне цэнавага парытэту. Сёння, па даных Дзяржкамстата рэспублікі, каля 80 працэнтаў калгасаў — стратныя. Нават і прыбытковыя трымаюцца не за кошт павышэння эфектыўнасці і рэнтабельнасці, а за кошт павышэння цэн на сваю прадукцыю. Хуткія тэмпы лібералізацыі цэн у шэрагу прамысловых галін прывялі да таго, што дадатковае падаражанне ў сельскай гаспадарцы дасягнула дзесяткаў мільярдаў рублёў. Усё гэта робіць непрацаздольнымі многія калгасы і саўгасы і патрабуе ад урада прыняцця неадкладных мер па іх стабілізацыі.

Рашэнне гэтай задачы, на маю думку, павінна праходзіць па некалькіх напрамках. Першы — пашырэнне продажу сельскагаспадарчай прадукцыі па дагаворных цэнах. Другі — карэкціроўка дзяржаўных закупачных цэн на асноўныя віды прадукцыі, якія ляжаць у аснове спажывецкага кошыка і забяспечваюць пражытачны мінімум насельніцтва. І трэці напрамак — гэта павелічэнне мэтавага фінансавання на развіццё сацыяльнай сферы вёскі і агульнагаліновых мерапрыемстваў.

Ці магчыма поўнае адмаўленне ад дзяржаўных фіксаваных цэн і пераход на свабодныя цэнаўтварэнне? У гэтым выпадку эканамічны стан сельскай гаспадаркі будзе ў многім залежаць ад плацежаздольнасці гарадскога насельніцтва. Аднак яго грашовыя даходы сёння не могуць стаць адной з асноўных крыніц фінансавага забеспячэння вёскі. Значыць, пераход да свабодных цэн вымагае часу, на працягу якога намаганні дзяржавы павінны быць накіраваны на развіццё ў сельскай гаспадарцы камерцыйных структур, рыначнай эканомікі. Пакуль такіх структур тут няма. Па меры іх стварэння можна дапускаць паступовую лібералізацыю цэн на асобныя тавары і віды прадукцыі.

Дагаворныя цэны трэба захаваць, павысіўшы іх фіксаваныя ўзроўні. Перш за ўсё — на збожжа, лён, цукровыя буракі, мяса, малако. Для пакрыцця дадатковых расходаў пры росце цэн прадугледжана індэксацыя даходаў насельніцтва. У гэтым выпадку павышэнне цаны даходзіць да спажыўца адразу, а кампенсацыя за падаражанне — пазней. Такі прыём непрымальны для народа. Дзяржаўныя рознічныя цэны павінны павышацца адначасова з кампенсацыйнымі выплатамі насельніцтву.

Павышэнне закупачных цэн павінна падмацоўвацца павелічэннем мэтавай дзяржаўнай дапамогі эканамічна слабым калгасам, саўгасам і фермерскім гаспадаркам на жыллёвае будаўніцтва і стварэнне іншых аб'ектаў культурна-бытавога прызначэння. Мэтавыя фонды для вёскі можна выкарыстоўваць для ажыццяўлення праграм "Збожжа", "Мяса", праграмы будаўніцтва дарог, газіфікацыі і г.д. Гэта павінны быць агульнагаліновыя мерапрыемствы па рашэнні праблем сацыяльнага развіцця вёскі і яе вытворчай інфраструктуры. Такія мэтавыя фонды з улікам інфляцыі і новых аптовых цэн павінны дасягнуць, як мінімум, сотні мільярдаў рублёў. Калі нам удасца паспяхова рухацца па ўсіх трох адзначаных напрамках, г. зн. пашырыць продаж прадукцыі па свабодных цэнах, адкарэкціраваць дзяржаўныя закупачныя цэны і павялічыць фонд мэтавага фінансавання вёскі і названых праграм, то мы зможам аднавіць цэнавы парытэт, павысіць "працаздольнасць" сельскай гаспадаркі.

А пакуль што мы назіраем адны рынкавыя парадоксы ў аграпрамысловым комплексе. Па сутнасці, сялянам дзяржава вызначыла на іх прадукцыю фіксаваныя цэны, а прамысловасці дала поўную свабоду ў вызначэнні цэн. Аб якім прыярытэце для вёскі тут можа ісці размова? На наш погляд, у АПК трэба карэнным чынам мяняць эканамічныя адносіны паміж вытворцамі, нарыхтоўчымі і перапрацоўчымі прадпрыемствамі. Што канкрэтна трэба зрабіць у гэтым накірунку?

Думаецца, тут варта выкарыстаць збытачныя кааператывы. Дзяржава не павінна ўмешвацца ў іх дзейнасць. Што ж атрымліваецца на справе? У нас як раней, так і цяпер вытворца здаў збожжа на элеватар, мяса — на мясакамбінат, малако — на малаказавод і — адлучаецца ад сваёй таварнай прадукцыі. Калгасы пазбаўляюцца манеўра цэнамі, што вельмі дрэнна пры высокай інфляцыі. Атрымліваецца, што калгасы і саўгасы заведама ставяцца ў нявыгаднае становішча ў параўнанні з прамысловымі прадпрыемствамі, тавары якіх маюць магчымасць на працягу ўсяго года мяняць цэны ў адпаведнасці з ростам інфляцыі.

А зірнем на кошты тавараў, якія закупляюць сяляне. Па сутнасці, яны ніяк не рэгулюваліся ўрадам. Напрыклад, сёння трактар для калгаса каштуе каля 200 мільёнаў рублёў, а адна тона збожжа, у залежнасці ад гатунку і культуры, прыкладна 3 мільёны рублёў. Колькі калгасу трэба выкласці за трактар? Аб якім прыярытэтным развіцці сяла тут можа ісці гамонка? Такое становішча ў аграпрамысловым комплексе трэба мяняць. Гаспадаром сваёй прадукцыі павінен быць той, хто яе вытварае.

У такім выпадку ў рыначнай эканоміцы немагчыма абысціся і без рынку зямлі. Рынак зямлі селяніну патрэбен! Грошай для сяла ў бюджэце краіны, паўтаруся, няма, а без грошай аграпрамысловы комплекс асуджаны на заняпад, што мы і назіраем паўсюдна. Грошы ж могуць даць толькі камерцыйныя структуры і толькі пад заклад зямлі, бо тызу і самастойную распрацоўку сумесных інвестыцыйных праектаў, фінансаванне і кантроль за іх рэалізацыяй, служыць гарантам дагаворных абавязацельстваў бакоў.

У той жа час самі трымальнікі зямлі не заўсёды могуць выгадна ёю карыстацца ці распарадзіцца. Значыць, патрэбен землезварот, што дасць магчымасць рупліваму гаспадару прыкупіць трохі зямлі. Дзяржава не павінна забараняць гэта, — садзейнічаць. Словам, патрэбен кваліфікаваны і зацікаўлены пасрэднік. Зямельны банк можа быць не толькі такім пасрэднікам, але і інвестыцыйным механізмам у правядзенні зямельнай рэформы. Ён дапаможа вырашыць і спецыфічныя аграрныя праблемы зямельнай рэформы. Скажам, зямля для фермераў не будзе адбірацца ў калгасаў і саўгасаў без уліку рэальнай эканамічнай сітуацыі. Апошнія самі будуць перадаваць яе (права карыстання закладам, продажу) банкам па меры неабходнасці. Людзям адкрыецца магчымасць абменьваць праз банкі зямельныя ўчасткі і перасяляцца ў іншыя раёны для вядзення фермерскай гаспадаркі.

З увядзеннем закладу зямлі аблегчыцца селяніну больш няма чаго закладваць. Рынак зямлі павінен служыць інтарэсам усяго грамадства. Падаткі з зямельнага звароту павінны ісці ў бюджэт.



*Фота Л. Кісялёва*

Трэба ўвесці пяцігадовы мараторый для новых уладальнікаў зямлі, а здаваць у заклад не саму зямлю, а толькі права карыстання ёю.

Зямельны рынак, як і любы іншы, патрабуе і адпаведнай інфраструктуры. Яна павінна ўключаць у сябе, з аднаго боку, камерцыйныя зямельныя банкі і кампаніі, арганізацыі па ацэнцы зямлі і нерухомасці. А з другога боку, — адпаведныя дзяржаўныя інстытуты: дзяржаўны зямельны банк, камітэты па кантролі за землекарыстаннем, зямельныя суды, зямельныя падатковыя інспекцыі і г.д. Гэтую інфраструктуру трэба ствараць ужо цяпер, інакш мы можам атрымаць дзікі зямельны рынак.

Дарэчы, работа па арганізацыі дзяржаўнага зямельнага банка ў нашай краіне не праводзіцца. А тым, хто вырашыў гаспадарыць самастойна, без сялянскага банка не абысціся. У горшым выпадку наш фермер-гаспадар асуджаны на прымітыўную фізічную працу, што будзе дыскрэдытаваць саму ідэю будучага фермерства. У выглядзе дзяржзаказа банку можна даручыць забеспячэнне выкарыстання часткі земляў з фонду пераразмеркавання, правядзенне (фінансаванне) ацэначных і землеўпарадкавальных работ, льготнае крэдытаванне фермерскіх гаспадарак і іх асацыяцый. Банк вызначае патэнцыяльных партнёраў, удакладняе інтарэсы, балансуе рэсурсы, праводзіць экспер-

крэдытаванне землеўладальнікаў усіх катэгорый. У далейшым, вядома, банк будзе і скупляць зямельныя ўчасткі. Частку нерэнтабельных калгасаў і саўгасаў ужо сёння неабходна пераўтварыць у асацыяцыі фермерскіх гаспадарак і кааператывы.

Калі мы хочам сапраўды пераўтварыць нашу дзяржаву ў прававую, то не павінны выступаць супраць прыватнай уласнасці на зямлю. Бо толькі прыватная ўласнасць пабуджае чалавека паважаць чужую ўласнасць, парадак і ўладу. Калектыўная (калгасная) форма ўласнасці ў сённяшнім выглядзе — гэта архаічная форма калектывізму і бяспраўя.

Сёння ўсе слаі насельніцтва рэспублікі зацікаўлены ў хутчэйшым выхадзе з крызісу. Выхад гэты ў сельскай гаспадарцы заключаецца ў правядзенні зямельнай рэформы, рэфармаванні калгасна-саўгаснай сістэмы, у якой калгаснік-селянін не з'яўляецца гаспадаром на зямлі, а наёмным, падначаленым работнікам, які і зарабляе мала, і працуе кепска, і якога яшчэ дзяржава рабуе.

Зараз патрабуюцца новыя арганізацыйна-гаспадарчыя формы і новая сістэма вытворчых адносін, якія падначаленага, гаротнага селяніна ператорацьу сапраўднага гаспадара.

На абарону нашага сялянства павінны стаць усе маладыя і свежыя сілы нашай інтэлігенцыі, усе, хто здольны мысліць і дзейнічаць. Бо ад дабрабыту вёскі залежыць і наш дабрабыт.

**Аляксандр ЗАРАНОК, эканаміст**

*Калінкавіцкі раён, в. Сырод*

ШЛЯХІ

*Бывай, абуджаная*
*сэрцам дарагая,*
*Чаму так горка,*
*не магу я зразумець...*

А. КУЛЯШОЎ

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

# Над безданню, або Прытча пра незалежнасць

## СЛОВА ДА СЯБРА, ЯКІ СТРАЦІЎ НАДЗЕЮ

I

Нашы продкі, як вядома, не толькі слаўна перамагалі ў шматлікіх бітвах і войнах падчас сваёй доўгай і нялёгкай гісторыі. Гісторыі народа, якому собіла апынуцца ў даволі незайздросным становішчы "між молатам і кавадлам". Яны не адзін раз прайгравалі тыя бітвы, і на зямлю нашу ўрываліся чарговыя орды рабаўнікоў. Бо што такое агрэсія, вайна, як не жаданне абрабаваць іншых, пажывіцца за іх кошт... Усе хібы характару асобнага чалавека ўласцівы і пэўным народам. У прыватнасці, зайздрасць, прагнасць і г.д. Стваральны шлях эвалюцыі вельмі ж нялёгкі, бо патрабуе шмат высілкаў, знуральнай штодзённай працы. А ёсць значна лягчэйшы шлях — пайсці і абрабаваць, напрыклад, працавітага, руплівага суседа. Так і многія народы. Не толькі пэўныя касмічныя рытмы, пульсацыі рухалі вялізныя орды качэўнікаў, а вельмі банальнае і даволі эфектыўнае пачуццё голаду. Стварыць самім было не з рукі — куды прасцей пажывіцца гатовым... Праўда, падчас эвалюцыі ў большасці сваёй ацалелі якраз тыя народы, якія навучыліся нешта ствараць. А вось народы — шукальнікі лёгкага хлеба, рана ці позна атрымаўшы "па зубах", як той воўк з беларускай народнай казкі, бясследна растваралiся ў тых бяскрайніх прасторах, якія яны калісьці таптаЛі капытамі сваіх коней...

ТаптаЛі і нашую зямлю, вынішчаючы і выпальваючы яе. Цяжка было пасля такіх паразаў зноў падымацца, але нашыя продкі не падалі духам. Падчас шматлікіх войнаў, яны, калі трэба, адступалі, умела перагрупоўвалі сілы, каб зноў і зноў, пацвярджаючы законы дыялектыкі, што жыццё — гэта бясконцая барацьба, уставаць на шляху чарговых шукальнікаў лёгкага хлеба. Надзвычай каштоўнай была гэтая навука — умець прайграць, умець трымаць удары лёсу, нават самыя страшныя і бязлітасныя. Без яе ніколі не было б і бліскучых перамог, калі ўдавалася біць нашмат пераўзыходзячага ворага. Доўгі час на працягу існавання агульнага ў мінулым дома для украінцаў, беларусаў і летувісаў — ВКЛ — менавіта ўменне выстаяць пасля цяжкіх удараў лёсу дазваляла хутка рэгенераваць энергію народа для адбіцця па сутнасці бясконцых новых захопнікаў, іх нашмат больших сілаў.

Дом той мог і павінен быў ацалець у гістарычнай перспектыве. Для гэтага былі ўсе перадумовы — значны духоўны і інтэлектуальны патэнцыял, мужныя і рашучыя лідэры, немалы на той час і "валавы нацыянальны прадукт". Прыкладаў многіх еўрапейскіх дзяржаў, з якімі ў нас былі сходныя "стартавыя ўмовы" і якія квітнеюць сёння, толькі пацвярджаюць гэта...

II

Чаму ж лёс нашай дзяржавы, нацыі склаўся інакш? Гісторыкі, філосафы, палітыкі знаходзяць сёння шмат аб'ектыўных прычын і найперш згаданае вышэй клятае месцазнаходжанне паміж двума магутнымі энергаполюсамі з *рознымі* знакамі. А як вядома, процілеглас ці прыцягваюцца... Вось і прыцягваліся многія стагоддзі адзін да другога праз бедныя галовы нашых продкаў два абсалютна розныя светы, два надзвычай своеасаблівыя светапогляды. Імклівая, хаатычная і бязлітасная ў сваім звышшчодрым разгуле, качавая Азія, наскрозь знітаваная супердэспатычнымі традыцыямі і звычкамі, з ярка выражаным рабаўладальніцкім менталітэтам у дачыненні да асобнага чалавека, і бессардэчная, упартая, да дробязяў педантычная і скупая, па характары вельмі занудлівая Еўропа, якая многімі стагоддзямі таемна выношвала ў сабе сенсацыйны плод дэмакратыі.

Выбар шляхоў развіцця, як бачым, быў для нашых продкаў небагатым — з аднаго боку Сцыла, з другога — Харыбда. І каварная азіяцкая Сцыла, і хітрая еўрапейская Харыбда апантана гойдалі з аднаго боку ў другі магутны маятнік свайго страснага вялікага прыцягнення, які ў дачыненні да домадзяржавы нашых продкаў адыграў ролю своеасаблівай бабы-капра, што наносіла жахлівыя ў сваім пастаянстве і імпэце ўдары па ягоных сценах. Аб'ектыўна трывалыя напачатку сцены рана ці позна мусілі даць расколіну, а потым і ўвогуле рухнуць...

Асабліва пакутавалі ад тае "гарачае" любові-прыцягнення і неслі найбольшыя страты жыхары вышэйшых паверхаў таго дома — ягоная эліта, шляхта. Гэта па ёй наносілі заўсёды галоўныя ўдары, добра разумеючы, што там, у яе асяродку і — стрыжань адзінства нашага народа. Прычым сілавыя ўдары былі не самыя страшныя. Доўгімі стагоддзямі вялася выкшталцоная ідэалагічная вайна супроць мозга нацыі, і вынікі тае нябачнае тайнае бataлii аказаліся нашмат страшней спаленых гарадоў і сёлаў... І прыйшоў час рабіць выбар паміж двума ліхамі ва ўмовах, калі ўсходняя суседка імкліва набірала моц, падмінаючы пад сябе ўсё, што пазначыла сваёй "брацкаю любоўю", калі цяжкі яе каток, сакрушаючы ўсё на сваім шляху, няўхільна насоўваўся на нашыя межы. Продкі сучасных беларусаў хіснуліся да заходняй Харыбды (Крэўская, Люблінскія уніі). Але подпісы пад, здавалася, выратавальнымі дакументамі сталіся адначасна і подпісамі пад смяротным прысудам сваёй дзяржаўнасці. Безвыходнасць прымушала ахвяраваць, як здавалася, меншым, а на справе штурхала з "агню ды ў полымя". З Захаду ўзмацняла сваю экспансію іншая магутная цывілізацыя, са сваімі амбіцыямі, прэтэнзіямі і планамі ў дачыненні да нашага ўжо тады вельмі важнага стратэгічнага "калідора".

"Ворагі беларушчыны", якія называліся тады трохі інакш, дабіліся свайго — нацыянальную эліту ім усё ж удалося расколоць. Частка яе, у асноўным з-за рэлігійных прычынаў, патрапіла пад уплыў Масковіі, а большая частка, адчуваючы смяротную пагрозу бязлітаснай усходняй дэспатыі, праз Польшчу шукала выратавання на Захадзе, дзе была асуджана на апалячванне...

Але падкрэслім, што нават у такіх суперскладаных палітычных умовах разрываемая на часткі дзяржава працягвала існаваць, захоўваючы ўсе ўласцівыя незалежнай краіне элементы і структуры. Бо патэнцыял яе жывучасці быў велізарны. Шмат гаворыцца сёння пра тое, што перманентная экстрэмальнасць умоў існавання дзяржавы продкаў беларусаў у гістарычнай рэтраспекцыі моцна паспрыяла напрацоўцы ў нашым народзе пэўных генетычных рыс, многія з якіх сёння здзекліва высмейваюцца як слабасці, так і чужымі "мысьлярамі". Паглынуўшы ў сабе і цярпліва пераплавіўшы шмат гора і ліха, знакамітае беларускае "балота" ў самых патаемных глыбінях сваёй "дрыгвы" змагло захаваць пэўную частку багатага і адметнага скарбу нацыянальнага патэнцыялу, які і дазволіў падчас бясконцых выпрабаванняў "на разрыў" захаваць, можа, цяпер і не вельмі выразны, але *свой* выраз твару і не страціць дарэшты, як спрабуюць сцвярджаць сёння многія, здольнасці да самаідэнтыфікацыі.

І дзіва не ў тым, што 70—80% нашага дарэшты дззарыентаванага народа пакорліва галасуюць супраць сваёй нацыянальнай прыналежнасці, сваёй дзяржавы. Сапраўднае дзіва ў тым, што пасля татальных гістарычных "селекцый" скіраваных найперш на тое, каб назаўжды "адбіць" нашаму народу нацыянальнае "нутро", калі яшчэ 10—15 гадоў таму свядомых беларусаў можна было пералічыць па пальцах, многія сотні тысяч людзей (прычым не толькі беларусаў, а і рускіх, украінцаў, палякаў і яўрэяў) выяўляюць падчас выбараў пазіцыю, зусім не ўхваленую ўладатрымальнікамі. Мала таго, дзесяткі і дзесяткі тысяч людзей пратэстуюць *адкрыта*, часам добра разумеючы, чым гэта для іх можа скончыцца. Безумоўна, апазіцыйны патэнцыял далёка не набраў яшчэ тае крытычнае масы, якая дазваляе ўплываць рэальна на ход падзей, але з гэтаю сілай хочаш-не хочаш даводзіцца лічыцца.

III

Па вялікім рахунку, *столькі* сапраўдных ці, як кажуць, "свядомых" беларусаў на Беларусі не павінна было быць пасля многіх гадоў "мудрай нацыянальнай палітыкі" ленінскай партыі, калі вышэйзгаданы нацыянальны выраз на бляклым твары савецкіх "в доску" беларусаў захоўваўся, як здавалася, толькі пры дапамозе накладзенага чужымі рукамі слою касметыкі. Мы практычна выглядалі ўсе аднолькавымі, за выняткам невялікай колькасці дзівакоў, што ўпарта размаўлялі на "этом белорусском языке", і якіх оптам адносілі да "пісьменнікаў". Мы ж зносіліся паміж сабой на унікальнай мовегібрыдзе, спявалі чужыя песні, чыталі і захапляліся чужой літаратурай, звыкшыся з чужой культурай, як са сваёй. А да рэшткаў сваёй ставіліся як да экзотыкі — паблажліва, а то і пагардліва...

Парадокс быў і ў тым, што ў савецкія часы "уму, чести и совести", якая адною рукою жорстка і няўхільна лакалізоўвала любую "нацыяналістычнасць", *хапала* розуму беларускі "выраз твару" захоўваць, добра ўсведамляючы адвечную для сябе ў гэтым карысць. Дзеля гэтае карысці ўсяляк падсілкоўвалася "кішэнная" частка нацыянальнай інтэлігенцыі, якая і мусіла ўвасабляць сабою нацыянальны "фасад". І гэта бяда наша сёння, што "кішэнная", нават цяплічная стала яе большасць. Ці не гэта асноўная прычына таго, што ў экстрэмальных сённяшніх умовах большасць якраз нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі ні на што, акрамя песняў-жальбаў, аказалася непрыдатнай. Ілюзій было імкненне вылучыць з яе шэрагаў сапраўднага народнага лідэра. Яе валявога імпульсу хапала хіба толькі на агульныя словы пра незалежнасць і нацыянальную культуру.

Вядома, не трэба ўсіх мерыць пад адзін капыл. І ў савецкія і ў сённяшнія неспрыяльныя часы нацыянальная беларуская інтэлігенцыя (хай сабе ў большасці і заангажаваная рэжымам) стварыла нямала культурных скарбаў, за якія не сорамна перад нашчадкамі. Нацыянальная творчая плынь даволі часта разбурала скрупулёзна збудаваныя на берагах яе рэчышча дамбы і плаціны сацнарматыўнасці. І "выплёсквалiся" ў свет цоўныя творы выключнай мастацкай сілы. І такія творы былі не толькі ў прызнаных светам "грандаў" — бліскучыя, напоўненыя шчырай беларускай душою вершы, апавяданні, аповесці, карціны, песні былі і ў многіх іншых мастакоў...

Праблема сёння ў тым, што мы, мякка кажучы, практычна не ведаем гэтай творчасці. І не перастаем здзіўляцца, калі ў выпадкова ўзятым у рукі томіку вершаў якоганебудзь беларускага паэта раптам натрапляем на шэдэўр, што зрабіў бы гонар і Петрарку, і Лермантаву, і Бродскаму... Знаічыць існуюць культурны фундамент і сцены, якія былі ўзведзены нашымі палярэднікамі. Застаецца толькі дабудаваць дом. Бракавала і бракуе іншага — моцнага, *самастойнага* духу для гэтага. Бо большасць нашае нацыянальнае інтэлігенцыі — тыя ж людзі з вельмі стойкімі савецкімі стэрэатыпамі, якія і сёння абсалютна шчыра вераць, напрыклад, у станоўчы эфект "цвёрдае рукі", у месіянскія здольнасці некаторых дзяржаўных лідэраў...

IV

Паралеляў з днём сённяшнім у нашай гісторыі нямала. Можа, якраз у мінулым знойдзем мы адказ на пытанне пра нашу сённяшнюю ўсходнюю "страсць", згадаўшы, напрыклад, сам момант канчатковага разбурэння таго ранейшага нашага дзяржаўнага дома напрыканцы 18-га стагоддзя. Стагоддзямі, як мы ўжо адзначалі, сцены яго неяк вытрымлівалі ўдары. А раптам рухнулі, бы картачны дамок? Што, гісторыя паўтараецца і нас чакае такі ж з інтэрвалам у 200 гадоў фініш? Ці на гэты раз удасца неяк "выслізнуць" з празмерна гарачых "брацкіх абдымкаў" нашай несентыментальнай суседкі, усё яшчэ "могучей, кипучей и никем не победимой"?

Ворагі ці працаўнікі тае нашае дзяржавы (а калі іх, дарэчы, не было?) добра ведалі, як той "дом" расхістаць. Яны ўшчыльную займаліся нацыянальнай элітай. "Нейтралізоўвалі" яе, можна сказаць, персанальна. Індывідуальная работа па заахвочванні здрады вялася скрупулёзна і давала відавочны плён. Як і сёння, "шчырых" калабарантаў аказалася нават зашмат. Не знайшлося, як і сёння, адзінай кансалідуючай усё грамадства ідэі, такой, напрыклад, якая была ў расійцаў і трымалася на трох кітах — Веры, Цары і Айчыне. Не знайшлося ў асяродку шляхты і адзінага харызматычнага лідэра, здольнага сцэментаваць народ перад тварам смяротнай небяспекі. Набіраючая на ўсходзе моц вялізная імперыя цудоўна скарыстала разам са сваімі саюзнікамі самы эфектыўны імперскі спосаб пакарэння ўпартых — падзяляй і ўладарнічай!

І ў краіне, растрэсенай дарэшты ўнутранымі міжусобіцамі, верх, як сёння, бралі лідэры тае большасці, што шукала прасцейшыя і лягчэйшыя варыянты выхаду з крызісу. Меншасць жа, якая перашкаджала і блыталася пад нагамі, проста знішчалася... Усё ўжо было ў нашай гісторыі — і ўсемагчымыя канфедэрацыі, і празмерна ўладалюбівыя паны, што падносілі нашу дзяржаву на талерачцы магутным суседзям, спадзеючыся атрымаць за гэта ласы кавалак сабе асабіста, і ўзаемная крайняя непрымірэнчасць, калі брат ішоў на брата і з асаладай яго знішчаў (каб і духу не засталося!). Разбуральнае ўнутранае супрацьстаянне не горш чым знешнія войны абяскроўлівала нацыю, паступова зводзячы яе да ўзроўню глухой еўралейскай правінцыі, а ўрэшце і ўскраіннай расійскай губерні...

V

Што ж, гісторыя любіць пратаптаныя сцежкі, бо, відаць, ушчэнт збіла сабе ногі за сотні тысяч гадоў неўтаймоўнага "блукання па пакутах". Шмат чаго карыснага ад таго блукання ўзяў для сябе цывілізаваны свет. Тысячагоддзі цывілізацыі навучылі яго не вынаходзіць кожны раз веласіпед, а калі трэба, то не сароміцца дастаць з запыленай каморкі старэнькі, але яшчэ надзейны і спраўны, каб дабрацца да пэўнай мэты...

Свет з вялікай для сябе карысцю выкарыстоўвае свой багаты гістарычны вопыт. Але як толькі мы, беларусы, пачынаем таксама шукаць у мінулым адказы на сённяшнія пытанні, што само па сабе вельмі лагічна, то адбываецца дзіўная рэч — мы бачым там толькі бясконцы шэраг недарэчных, бяссэнсава абсурдных памылак...

Канешне ж, былі і праблескі, прарывы, але мы не бачым іх, яны прыхаваныя за густой смугой стагоддзяў, ахутаныя да таго ж учэпістым арэалам містычнасці. І іх, тыя адказы і рэцэпты, відаць, цяжка разгледзець сённяшняму шматгрэшнаму чалавеку, незалежна ад таго, патрыёт ён ці калабарант... А значыць, трэба шукаць вышэйсе **тут, сёння** — і гэта, бадай, галоўнае выпрабаванне для ўсіх нас.

Адно толькі ясна сёння, безнадосна да ўсёй цяперашняй палітычнай кан'юнктуры, ды змрочнага і амаль безвыходнага настрою многіх, хто ўжо не бачыць аніякай надзеі на захаванне дзяржавы беларусаў, іх унікальнай культуры, мовы і душы, што ў *сённяшнім* часавым, палітычным, эканамічным і маральным кантэксце краіну Беларусь сцерці з малы свету не ўдасца. Моцна памыляюцца і тыя, хто ўжо непрыхавана трыумфуе, смакуючы відавочнае для іх разбурэнне зусім яшчэ нетрывалай дзяржавы, і тыя, хто яе заўчасна хавае і аплаквае. Але не будзем улазіць у вельмі няўтульную скуру прарока, час даволі хутка рассудзіць нас усіх.

На нашу думку, усе тыя гістарычныя і рэальныя сведчанні безвыхоснасці, безнадзейнасці і містычнай трагічнасці нашага лёсу зусім не пацвярджаюць наш канчатковы нацыянальны паралюш, а толькі даюць зусім новы кірунак, яшчэ дагэтуль нязведаны, у якім мы і знойдзем нарэшце самі сябе. Як і ў асобнага чалавека, такі пошук у некаторых народаў проста трохі зацягваецца, але пэўны духоўны патэнцыял дазваляе спадзявацца, што нацыя, як і таленавіты чалавек, урэшце рэалізуецца, і не ў якасці нахлебніка ў чужой хаце, а гаспадара ў сваёй.

Вельмі многае з таго, што адбываецца сёння, — следства адной напрацаванай намі за сваю эвалюцыю генетычнай рысы — "абы горш не было". Адсюль і "доўгажывучасць" многіх палітычных прайдзісветаў, махляроў і шаманаў. Мы разгубіліся і напалохаліся якраз тады, калі пачалі пакрысе ўсведамляць сябе народам і нацыяй, такой, напрыклад, як летувісы ці палякі. Самае дзіўнае, што і сёння нямногія з беларусаў, нават самых інтэрнацыяналізаваных, катэгарычна адмовяцца ад свай цяперашняй назвы. Большасць хоць па-руску, хоць на трасянцы ўсё-ткі будуць даводзіць: "Мы — беларусы!" Праўда, тут жа, спахапіўшыся, дададуць непазбежнае: "З братняю Русcю!"... Але хто ж спрачаецца, што з ёй,

*(Працяг на стар. 12)*

## Пра час і пра сябе

**Апавяданне вядомага беларускага празаіка Івана Пташнікава "Львы" ўключана ў школьную праграму роднай літаратуры для 6 класа. Вучні 115 школы Мінска пасля прачытання твора захацелі сустрэцца з пісьменнікам. І вось нядаўна такая сустрэча адбылася. Да вучняў Іван Пташнікаў прыйшоў са сваім сябрам паэтам Міколам Мятліцкім, якому і прысвечана апавяданне.**

**Паміж школьнікамі і пісьменнікамі адбылася размова пра беларускую літаратуру і чарнобыльскую тэму ў ёй і канкрэтна пра вёску Бабчын Хойніцкага раёна, у якой і адбываецца дзеянне.**

**У выкананні вучняў прагучалі ўрыўкі з апавядання Івана Пташнікава "Львы" і вершы з кнігі Міколы Мятліцкага "Бабчын".**

**Сустрэчу з пісьменнікамі арганізавала настаўніца беларускай літаратуры В. Сазонава.**

## Парасткі сяброўства

**Таварыства беларуска-бельгійскай дружбы наладзіла музычную вечарыну, дзе гучалі такія розныя інструменты, як фартэпіяна, цымбалы, флейта. Выконваліся творы бельгійскіх кампазітараў В'етана і Грэтры, а таксама прадстаўнікоў славутага шляхецкага роду Ельскіх — Караля і Міхала. Нагадаем, што выдадзены два альбомы музыкі Ельскіх: фартэпіянны і скрыпічны. Вядома, што Міхал у сваёй творчасці выкарыстоўваў дасягненні бельгійскага скрыпічнага мастацтва. Падрабязней пра ўсё гэта расказалі Э. Скуратава, выкладчыца Беларускай акадэміі музыкі, і А. Мальдзіс.**

**З Бельгіяй звязаны жыццё і творчасць аднаго з вядомейшых прадстаўнікоў беларускага замежжа Міколы Равенскага. Створаны ім беларускі хор у Лювене з вялікім поспехам выступаў у краінах Заходняй Еўропы. "Накцюрн" — мо апошні яго твор, поўны настальгіі, выканаў В. Скарабагатаў, а дзіцячы хор "Крынічка" (кіраўнік А. Гуляева) праспяваў гімн "Магутны Божа". Для гімна, трэба заўважыць, ён гучыць занадта жаласліва, што ніколькі не змяншае яго мастацкай вартасці.**

**"Гэта пачатак цудоўнага", — сказала дачка кампазітара В. Равенская, маючы на ўвазе першыя парасткі сяброўства паміж Беларуссю і Бельгіяй.**

**Арганізавана вечарына намаганнямі сакратара таварыства З. Хадакова, а вёў яе паэт Л. Дранько-Майсюк.**

**Г. З.**

## Завешчана Жлобіншчыне

**Ганаровы грамадзянін Жлобіна, пісьменнік Аляксандр Капусцін (1924—1996) усё сваё жыццё падтрымліваў цесныя сувязі са сваёй роднай Жлобіншчынай. Ён часта наведваўся ў Жлобін, у родную вёску Старая Рудня, дзе яго заўсёды чакалі, дзе ў яго было шмат сяброў. На роднай зямлі ён і пахаваны. Асноўную частку свайго асабістага архіва Аляксандр Пятровіч завяшчаў таксама роднай Жлобіншчыне.**

**Нядаўна ён (звыш паўтары тысячы адзінак) быў дастаўлены ў Жлобін і папоўніў фонды гарадскога гісторыка-краязнаўчага музея. Гэта кнігі і рукапісы Аляксандра Капусціна, яго перапіска, сямейныя фотаздымкі, успаміны, магнітафонныя запісы, некаторыя асабістыя рэчы, франтавыя ўзнагароды, ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР, дыплом "Ганаровага грамадзяніна г. Жлобіна".**

**М. ШУКАНАЎ**

## У амерыканскай энцыклапедыі

**Старонкі 94—106 у першым томе амерыканскай "Энцыклапедыі сучаснага тэатра" (Таронта, 1996) прысвечаны беларускаму тэатральнаму мастацтву. З фота Платонава ў ролі Эзопа (год 1957), з апісаннем "Вечара" Дударава у пастаноўцы купалаўцаў у 1983, з "Тутэйшымі" Купалы—Пінігіна ў годзе 1990... Энцыклапедычныя артыкулы распавядаюць пра беларускі тэатр — драматычны, музычны, лялечны, даюць звесткі пра тое, дзе рыхтуюць у Беларусі тэатральных спецыялістаў і нават пра тое, дзе пра тэатр пішуць перыядычна і час ад часу. Вялікі спіс літаратуры пра наш тэатр вянчае беларускі раздзел. Аўтар артыкулаў — Ванкарэм Нікіфаровіч.**

**Ж. Л.**

ВІНШУЕМ!

Да 60-годдзя Міколы КУПРЭЕВА

# Схіліўшыся над мурашнікам

Амаль шэсцьдзесят гадоў Міколу Купрэева мала хто ведаў і асабліва ніхто ў гэтым свеце не ўспамінаў. І во, раптам схамянуліся — не стае, як высветлілася, у беларускай літаратуры аднаго чалавека, і трэба ж так стацца, што менавіта яго - Купрэева.

*Дажыўся*, што й казаць...

Аднак лічба яго ўзросту здаецца наўмысна завышанай. Купрэеву — сорак, хочацца паспрачацца мне, бо дваццаць гадоў нармальнай творчай працы ўкралі ў яго савецкія чыноўнікі і, падобныя на іх, савецкія беларускія пісьменнікі...

Выдаўшы яго зборнік вершаў, з празорлівым да ўласнага лёсу назвам — "НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ", яшчэ ў 1967 годзе, яны адначасна адсунулі аўтара і ад Саюза пісьменнікаў, і ад сталіцы — туды, на палескую перыферыю, — і забыліся...

А сёння вось як бы ўспомнілі і, радняволя, дадаюць яму тыя дваццаць пакутнавандроўных гадоў адзіноты і ўнутранай эміграцыі.

"Шэсцьдзесят, — кажуць, — табе, Мікола! Віншуем з пенсіяй..."

"Дзякуй", — адказвае Мікола. Ён — беларус, а значыць, чалавек не злапомны і памяркоўны.

Ну, і лады, здавалася б, чаго між людзей ні бывае — усё травой зарастае...

Аднак сённяшні час паказвае, што гэта не зусім так.

Ну не ўпісваецца *дарэшты* Купрэеў у афіцыйны літаратурны гурт, хоць ты плач...

Анягож! Нейкага нерытмічна пішучага бадзягу з Белавежскай пушчы зноў дапусцілі да казённага, хоць ужо й не надта хлебнага стала, а ён, не паспеўшы паабцерціся, — адразу ж да *лаўрэй*...

Таму, як і раней, цішком-употай адсунулі Міколу Купрэева ад чарговага дзяржаўнага "кавалка". І як адмыслова ўсё зрабілі: *галасы* яму ў Дзяржкамітэце па прэміях *аддалі*, маўляў, мы за цябе ўсёй душою, — і не наша тут віна, што ў апошнюю хвіліну вышняя рука выкрасліла цябе са спіса... На ўсё воля Божая... Відаць, целам не выйшаў ці душок не той, потам пахнеш ці кашуля нямытая...

Ёсць дзве катэгорыі пісьменнікаў. Адныя *жывуць з того часу*, у якім жывуць, па негалосным прынцыпе Петруся Броўкі: міне твой час, "ападзе грэбень — і на х... ты каму патрэбен..."

Купрэеў адносіцца да літаратараў другой катэгорыі, да тых, якія *жывуць сваім часам.*

І, перш чым пачынаць гэтую блытаную і не да канца вызначаную размову пра жыццё і творчасць Міколы Купрэева, хочацца, як эпіграф да гэтай часткі, працытаваць радкі з верша не менш таленавітага, але й не менш адрознага паэта Леаніда Дранько-Майсюка:

***Даволі вярэдзіць раны!***
***І без таго заўважаю —***
***глядзяць, як на эмігранта,***
***на мяне, калі размаўляю.***
***Адкуль? З якой рэзервацыі?***
***З якой Беларусі такой?***
***Эх, вечная эміграцыя***
***на радзіме сваёй.***

Не пакідаючы межаў радзімы, Купрэеў, дзе змушана, а дзе ўсхілку свайго характару і паводзін, эмігрыруе ў самога сябе. Ён пачынае жыць у межах сваёй душы і ўласнага розуму. Акаляючая прырода і *прырода* самабытнага *таленту* водзяць яго па высыхаючым меліярацыйным Палессі без малога сорак гадоў, як Майсей іудзейскі народ па Аравійскай пустэльні...

Гэты бясконцы шлях можна назваць *бязмэтным*, як *бязмэтны* ў жыцці і ў сутнасці сваёй творчасці сам Мікола Купрэеў, — як, у рэшце рэшт, *бязмэтная* і сама прырода.

...Сухастой, гнілле і карабельныя сосны, мухаморы, паганкі і баравікі, выспы, балоты і хлебадайны чарназём — усё гэта ёсць і *сродкам*, і *вынікам*, і *прычынай* ТАГО жыцця і ТОЙ творчасці.

Хто чытаў дзве, блізкія да аўтабіяграфічных, аповесці-споведзі Купрэева ў часопісе "Крыніца" ("Дзіцячыя гульні пасля вайны" ды "Імгненне светлае..."), напэўна, заўважыў, што аўтарскае "я" там не вытыркаецца — не *гераізуецца* — а стаіць як бы "панад" і "наводдаль" — *сузірае*, але не ацэньвае, не судзіць, не асуджае... Бо — КАГО? Бо — за ШТО? СЯБЕ-НАС? За тое, што *ёсць як ёсць*, што жывём?..

Прырода не мяняе сваёй глыбіннай сутнасці ні падчас праліўных дажджоў, ні падчас засухі, ні падчас землятрусу — ні вясной, ні зімою...

Яна ёсць, і мы павінны змірыцца з тым, якая яна ёсць, і шукаць і знаходзіць *паразуменне* з ёю праявамі ў сваёй душы.

Нярэдка — *халодны* і *галодны* — Купрэеў піша пра *голад* і *холад* гэтай самай чалавечай душы... на каленях, на каменнях, на падваконнях, на бальнічных тумбачках, у вузкай і затхлай паржаўленай ваннай тубдыспансера, на векавым дубовым пні Белавежскай пушчы...

Напісаныя ім словы — вузлаватыя і сухія, як хруст леташняга галля пад нагамі, то працяглыя і ліпка-смалістыя, як рэха, што адгукаецца толькі таму, хто кліча, то вуркатліва-іранічныя, як вада ў раўчуку...

У яго словах няма ўзроставага маразму і павучання. І гэты голас заўжды новы, як сёлетняя вясна. Ён можа быць сцюдзёным альбо цёплым, але — заўжды *ўласным.*



У сваіх тэкстах, як у акварыуме, ён захоўвае сваё ўнутранае духоўнае жыццё, але не кансервуе яго, як спажытак, а падкормлівае назапашанымі крышынкамі быцця, што засталіся ў ветраных кішэнях пасля чарговай вандроўкі ў людскі свет...

Ён не песіміст і не аптыміст, больш таго, нават не рэаліст. Купрэеў *пэўны* у НЕПАЗБЕЖНАСЦІ чалавечага лёсу, і, як загнаны воўк, упарта мкне па цаліку, не зважаючы на пераслед... таго ж лёсу...

Як той воўк — ён, гнаны непадуладным духам усяіснага часу, ехаў і едзе *беларускім шляхам* па зачараваным коле дзяржаўнай чыгункі... У яго не было й няма ні дарожных квіткоў, ні канцавых станцый... Едучы, ён не бачыць дарогі, а *жыве наўзбоч* яе, углядваючыся ў прастору, што праміне за вокнамі помных вачэй... І едзе ён з намі ў адзін бок, але *паасобна* ад нас...

Ніхто не ведае, як яму было і ёсць аднаму. Бо — не жаліўся, не назаляў рукапісамі, не засціў свет у літфондаўскіх чэргах, не лаяў людзей, не прасіў начлегу, не набіваўся ў сяброўства, па сутнасці, не меў і не мае сям'і, хоць фактычна яны былі і ёсць...

У яго няма ні сваёй хаты, ні свайго *пэўнага месца* на зямлі. Як ніхто іншы, ён апраўдвае баптысцкі парафраз: мы не дома — мы ў гасцях... Купрэеў — *госць*. Гаспадаром ён ніколі й не быў, нават гаспадаром сваіх рукапісаў...

Ён — *аўтар, тэкст* і *кантэкст* свайго жыцця. У літаратурах свету такіх няшмат. У

# Прыпавесць пра аднаго паэта

У сваёй "Энцыклапедыі выдуманых істотаў" Хорхе Луіс Борхес прыводзіць паданне пра "ламед вуфнікс" — трыццаць шэсць праведнікаў, якія жывуць раскіданыя па свеце і жыццё якіх — апраўданне свету перад Богам. Менавіта дзеля іх Бог і не знішчае наш грэшны, аблудны свет... Жывуць тыя праведнікі ў галечы, і ніводны з іх не ведае пра сябе, што ён — выратавальнік роду чалавечага... Як толькі адзін з трыццаці шасці памірае, у другім месцы зямлі нараджаецца новы... І пакуль будуць яны жыць і пакутаваць на Зямлі — свет будзе існаваць...

Прыгожае паданне! Магчыма, яно і не зусім з вобласці прыдуманага? Прынамсі, што тычыцца літаратуры, дык яна сапраўды трымаецца на сваіх "праведніках" — тых, хто не ўладкоўваецца ў сацыяльнай канструкцыі грамадства на пэўнае месца з пэўнымі выгодамі, хто не пнецца даводзіць сваю "праведнасць" шляхам выдання, атрымання ды ўшанавання. І найчасцей не мае ні выданняў, ні званняў. Хаця адмечаны Богам...

І калі ўзяць на сябе смеласць вызначаць постаці, на якіх трымаецца сёння наша паэзія, мусіць, назавецца і імя Міколы Купрэева...

Гадоў дзесяць таму, калі мой пантэон імёнаў беларускай паэзіі яшчэ толькі складаўся і мала хто вытрымліваў мой суб'ектыўны адбор, мне трапіў у рукі першы тоненечкі зборнічак Міколы Купрэева "Непазбежнасць" выдання 1967 года. Шчыра кажучы, ні знешні выгляд кніжкі, ні імя аўтара, ні тым болей год выдання не натхнялі. Але... Пульсуючыя нярoўным, "балючым" рытмам радкі адразу знішчылі чытацкаюнацкі скептыцызм, і імя Міколы Купрэева разам з імем толькі што гэтаксама "адкрытага" мною Анатоля Сербантовіча папоўніла мой вышэйзгаданы пантэон. І ўзнікла заканамернае жаданне пачытаць пазнейшыя, напэўна яшчэ цікавейшыя зборнікі гэтага ўжо ў маім уяўленні старога паэта... Бо кніжак мусіла быць шмат — з прамежкам у два-тры, няхай чатыры гады чакання ў выдавецкай чарзе, ды і аўтар жывы, і, пэўна ж, нешта піша...

Але кніжак чамусь не аказалася, ні ў адной бібліятэцы. А паколькі я вельмі не любіла выяўляць сваю недасведчанасць у літаратурных справах пытаннямі, то толькі шмат пазней даведалася, што кніжак Міколы Купрэева больш і не выдадзена... І яшчэ пазней даведалася — дакладней, здагадалася, усвядоміла, — чаму...

Паэт уступіў у Саюз пісьменнікаў у 1994 годзе, калі меў пад шэсцьдзесят, праз дваццаць сем год пасля выдання першага зборніка. Другая кніжка выйшла праз дваццаць восем гадоў пасля першай. Што ж, для беларускай літаратуры такія прамежкі вельмі характэрныя... Але ў дадзеным выпадку можна "высунуць гіпотэзу", што іх вызначылі як знешнія, так і "ўнутраныя" фактары. А менавіта асабліваць, "асобнасць асобы" паэта. Хаця, што датычыць знешніх... Разгортваю бібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі", яго дадатковы том, дзе знайшлося месца Міколу Купрэеву, і чытаю, што першая рэцэнзія на кніжку "Непазбежнасць", надрукаваная, дарэчы, у "ЛіМе" за 20 лютага 1968 года, мела назву "На хадулях "арыгінальнасці" (менавіта так: "арыгінальнасці" — у двукоссі). Зместу рэцэнзіі не ведаю, але ж назва надта змястоўная. Што ж, сёння ў "ЛіМе" цэлы разварот прысвечаны таямніцы тае арыгінальнасці — без двукосся. Сёння ў "ЛіМ" шлюць і прыносяць матэрыялы пра Міколу Купрэева крыткі і паэты, масціты і маладыя.

Недзе год таму адзін малады празаік даслаў рэцэнзію на зборнік Міколы Купрэева, асноўны змест якой быў — асабістыя сустрэчы аўтара з Міколам Купрэевым і што Купрэеў сказаў яму, аўтару, і што сказаў ягонай жонцы, і што на гэта аўтар рэцэнзіі адказваў, і чым паэтычнага госця частаваў. Мімаволі ўяўлялася, што аўтар тых успамінаў у думках прымервае на сваю хату мемарыяльную шыльду з надпісам "Тут спыняўся (тытулы вызначацца пасля) Мікола Купрэеў"...

Вось вам і міфалагізацыя без аўтаміфалагізацыі...

...Жыве на свеце пэўная колькасць беларускіх пісьменнікаў, дзякуючы якім будзе захаваная беларуская літаратура. Колькі іх, хто яны, дзе яны — ведае адзін Бог.

Вось толькі дакладна вядома, што занадта добра і лёгка ім не жывецца...

Ну ды кожны сам вырашае, дзе збіраць яму свае багацці — на зямлі ці на небе.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

сучаснай беларускай літаратуры Купрэеў, бадай, адзіны, хто *безаглядна, бескарысна* і *бясслаўна* скормлівае сваё жыццё творчасці. Далёка не кожны, нават вялікі, талент здольны прынесці сябе ў ахвяру слову. Ды й не ад нас гэта ўрэшце залежна. Тут трэба нарадзіцца як бы *неданошаным*, каб увесь час *памятаць* пра гэта і *мець пожад данасіцца* да сваёй чалавечай *пэўнасці* ў лоне боскай прыроды, адчуваючы сваю высокую, лёсам дадзеную, *ушчэрбнасць*, як наканаванае табе НЕШТА...

Неад'емнасць новых пошукаў і адкрыццяў у такіх творцаў гарманічна нітуецца з класічнай традыцыяй. Яны шукаюць *вечнае* не на пустым месцы, але пустое месца *тым* засяваюць...

"Ты не ведаеш, часам, дзе цяпер Купрэеў? (Сыс? Асташонак?)" Падобнымі пытаннямі мяне даймаюць амаль штодня ўсе тыя, хто неабыякавы да нацыянальнай літаратуры. І чамусьці ніхто ніколі не задае мне недарэчных пытанняў тыпу: дзе цяпер Навуменка, Шамякін, Марчук, Спрынчан-старэйшы, Дашкевіч?

Не ведаю я — дзе тыя і дзе гэтыя. Я ўжо слаба арыентуюся — дзе я сам...

Праўда, што наконт Купрэева, то мне здаецца, што гэтай цёплай травеньскай парой ён зноўку стаіць недзе ў гушчары Белавежскай пушчы, звесіўшы на кульбаку сваю ссівелую і свежую ад расы галаву, над мурашнікам, і сочыць за мітуслівай мурашынай валтузнёй, за іх спрадвечным бытаваннем. Мітусяцца, томяцца мурашы, цягаючы хвойныя іголкі... І сцежкі ў іх усё тыя ж — пакручастыя, і архітэктура мурашніка ўсё тая ж — надземная і ўзвышаная... Юдзіць зазірнуць у нутро — што там ды як? Але — дазнаўшыся, разбурыш... Няхай поўзаюць, няхай жывуць — у гэтым іх сэнс і сутнасць існавання...

Як проста і як геніяльна! Туды-сюды, сюды-туды... дакладна адлічваючы імгненні вечнасці — іголка да іголкі, ад першай да...

І раптам яго позірк засяродзіцца на адным з іх, самым бяспечным і маладым, што скіне сваю ношу пры самым уваходзе ў дом-мурашнік, і нечакана скіруе далёка за межы *"страны муравии"*; падлаўзе да самага наска ўношанага чаравіка Купрэева і пачне ўзбірацца на яго высокую вяршыню, забыўшыся пра ўсё, апантаны адно толькі *інстынктам* ды *прагай спазнання* самога сябе і таго, што перад ім паўстала...

— Ну, куды ты, брат?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Назад, назад кіруй у свой мурашнік...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Які неслух!..

І няўзнак яны паразумеюцца і пасябруюць...

Прысвячаючы Янку Брылю верш, што адкрывае неўлаўрэзачаную Дзяржаўнай прэміяй, другую і пакуль апошнюю кніжку "Правінцыйныя фантазіі", Мікола Купрэеў, хочучы таго ці не хочучы, напісаў сабе прыжыццёвую эпітафію.

***Косю мой, косю,***
***дзе ты блукаў-лятаў?***
***Дзе ты якія землі***
***капытамі таптаў?***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Косю мой, косю,***
***за намі ідуць —***
***напэўна, у Гродна***
***тэграм павязуць.***
***Як будуць вясці нас***
***па роднай мяжы —***
***каб людзі не чулі,***
***мой конь, не іржы.***
***Косю мой, косю...***

"...Ведаеш які народ тут — амаль адны бомжы ды былыя зэкі. Імі забітыя ўсе палаты. Ванную адчыняюць толькі ў "банныя" тры дні — да вечара. Не пачытаеш палюдску, не папішаш... /.../ Бывае дыхаць няма чым на зямлі нашай, нават у правінцыях — маіх колішніх "палесцінах"... /.../ Ды ну Вас усіх у Менску!.. Колькі мне гэты Менск /здаецца, ён — "сталіца" Беларусі?/ папсаваў нерваў... І тут — хоць ты ў нару якую хавайся ці ў бярлогу... /.../ Ты пішаш мне: "жыві, пішы, твары, не раскісай"... Не, Лёня, ты ўжо там сам у сваёй сталіцы і жыві, і пішы, і твары, і не раскісай... А мы, гэткая навалач, прыблуды ў гэтым свеце, можа, як-небудзь яшчэ ўпадзем, як пацяплее, у мох пад сасной ці елкай — з *гэтымі* яшчэ можна жыць..."

(З ліста да мяне ад 11. 03. 97 г., тубдыспансер, в. Вярховічы)

—Косю мой, косю...
— Які неслух...

. . . . . . . . . . . . . . . .

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



*Мікола Купрэеў у Івацэвічах на вакзале. 1995 г.*

# Голас з зацені

Мікола Купрэеў добра ведае яе і часта піша пра сваю жыццёвую прастору — пра зацень.

***"Тады я павярну калоду —***
***чарвякі,***
***тыя самыя, што і паўвека назад,***
***з чорнай зямлі паўзуць,***
***скручваюцца,***
***глядзяць мне ў вочы..."***

Падзеі апошняга часу вымушаюць унесці карэктывы ў пэўную класіфікацыю нашай літаратуры: аказваецца, у нас ёсць літаратура **"зацені"**.

Яна і раней была, калі пільна прыглядзецца. Хіба М. Лупсякоў не пісаў свае часам бліскучыя апавяданні на пнях, на вакзальных лаўках? А знакамітыя "Тутэйшыя" — хіба яны не адтуль. Не з зацені? Яна — гэта літаратура — амаль не выдаецца па вядомых прычынах, але галасы яе іншым разам дасягаюць слыху і тады тойсёй спыняецца ў одуме: а ці ёсць хлопчык? А калі ёсць — навошта ён і што з ім рабіць?

...Мухі любяць поўзаць па люстэрку. Магчыма,ім падабаецца разглядаць у ім саміх сябе — такіх жвавых, прыгожых. Яны спыняюцца, паціраюць лапкі, пакідаюць пасля на паверхні люстэрка кропкі, абседжваюць, абжываюць сваю прастору. Ім не прыходзіць у галаў, дый боязь зазірнуць за люстэрка — там цёмна, павуцінне, небяспека.

У рэшце рэшт не кожны здольны пабудаваць сваё жыццё стратэгічна. М. Купрэеў, пэўна, з такіх літаратараў. Але не будзем яго судзіць за гэта. Дый справа не ў тым. У мяне асабіста з гэтай нагоды узнікла іншая думка: ну а як, прыкладам, павялі б сябе Караткевіч ці Адамовіч, калі б ім далі прэміі, а іх калегу ўзялі б ды адмовілі без аб'яўлення матываў? Прычым адмовілі заслужаную ўзнагароду. Кніжка М. Купрэева па паэзіі прайшла ўсе літбар'еры без аніякіх перашкод. Вось Жан-Поль Сартр адмовіўся нават ад Нобелеўскай прэміі — няхай, маўляў, яе спярша дадуць М. Шолахаву. І далі. А там жа не сто мінімальных. Мяркую, тут, як і павінна быць, яшчэ спрацуе зваротны эфект, і Мікола Купрэеў заслужана будзе прызнаны вартым прэміі.

М. Купрэеў заявіў пра сябе не толькі ў паэзіі. Яго невялікія аповесці добра кладуцца ў агульную плынь беларускай прозы. У рэшце рэшт, мяркую, не вельмі важна колькі напісаў пісьменнік, важная якасць. Дж. Т. ді Лампедуза ўвайшоў у сусветную белетрыстыку толькі адной невялікай кніжкай-раманам "Леапард".

У нашы дні "літаратура зацені" ў асобах, як адзіночак, так і згуртаванняў усялякіх "вольных" літаратараў вымушае да сябе ўвагі. Можа, яна народзіць новыя імёны, якія зробяць гонар усёй беларускай літаратуры — хто ведае.

Ф. Дастаеўскі неяк абмовіўся, што вечнасць — гэта проста лазня з павукамі па вуглах. Магчыма, яна і сапраўды там, у зацені, за парадным абліччам, на панадворках? А пакуль што зірнём у люстэрка. Прыбіральшчыца выцірае яго мокрай анучай. Яно зноў чыстае. Поўзайце на здароўе.

**Юры СТАНКЕВІЧ**

Валянціна АКСАК

# Love story

***З ім —***
***такія нячастыя стрэчы,***
***што забудуся,***
***як прабягаюць***
***па застылай крыві***
***ручаіны расплаўленай магмы,***
***калі словы ягоныя***
***ўраз апануюць наўколле***
***што аж промень паўдзённы***
***не зможа прабіць іх гушчэчу,***
***а паўночная поўня***
***то нат не спрабуе***
***Ў пазаіснае мроіва зрэнак***
***зазірнуць,***
***каб не спудзіць***
***набліжэнне да вечнага раю...***

***"У 53-м альховы лісцік***
***на вейка тваё маладзенькае ўпаў..."***

***На пагорках***
***багі варожаць,***
***але нехта з іх***
***і ў лагчыне***
***неўлаўрованы***
***пры лагчыне***
***зачаруе***
***бы сам Сварожыч.***

***"...я ўсё яму несла ў сваім прыполе:***
***хлеба акраец, рамонак і жаўранка***
***ў небе —***
***пад куст калінавы на расцярэбе".***

***Ён сказаў мне тады:***
***не пішы болей вершаў.***
***Жонцы — няможна!***
***І яго знелюбіла,***
***як тога цыгана,***
***што ўкраў у мяне скакуна.***
***Хлеб сухамяткаю елі ўдваіх,***
***рамонкавым пахам закусвалі,***
***мурог пад калінай сцялілі***
***на пару,***
***а як жаўранак спевам зайшоўся,***
***мяне ён прагнаў:***
***песня мгненная***
***цырк — і няма,***
***аднаму хоць бы ўдосталь хапіла.***
***Чулі людзі, доўга яшчэ***
***над тым логам***
***жаўрук трапятаўся,***
***баючыся не ўладзіць яму,***
***але ўсё-ткі астатнім акордам***
***да ног яго сцішана ўпаў.***

***"...спалохаўся шчасця,***
***уцёк пад смалістыя сосны".***
***"Нехта жэнішча***
***там на вавёрцы прыгожай".***

***Рыжахвостая,***
***я ёй зайздрошчу,***
***бо сынкоў-летункоў ад паэта***
***яна нарадзіла.***

***"Ляцець!" —***
***больш няма ім ніякага выйсця!"***

***А ён***

***"...прасіў у вярбы: "Дапаўзці да парога***
***дзедавай хаты..."***

***Там забыўся на лес,***
***на раз'юраны бэз,***
***на вавёрчыны***
***пульхныя шчочкі.***

***"Я пачаў гэты верш на падлозе***
***на звычайнай сасновай падлозе.***
***ля парога..." —***

***ціха прамовіў***
***у пустой непрапаленай хаце.***
***Гусі ў вырай ляцелі-блудзілі,***
***словы ў дзюбкі ўзялі, апусцілі***
***мне ў далоні, курлыкнулі:***
***позна кахаці.***

***"Над маёю мансардай асенняй***
***дзікія гусі крыкнулі.***
***Кульбай насцеж акно расчыняю —***
***а яны ўжо далёка-высока.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Зачыняю акно.***
***І пішу гэты верш Валянціне Аксак..."***

***О, мой дзіўны,***
***прагны, палкі, уладны каханак,***
***забіраеш набытыя***
***ў ростані скарбы,***
***каб надоўга спустошанай***
***кінуць мяне***
***і з'явіцца зноў толькі як холад***
***пастаянна прысутнай пяшчоты***
***перасіліць***
***адсутны твой жар...***

## Пацісну́ць руку героям

Яна ўжо чалавек з легенды. Асабліва з часу, калі стала адной з гераінь кнігі Святланы Алексіевіч і кінафільма па сцэнарыі пісьменніцы "У вайны не жаночы твар". Прыязна, сардэчна сустракаюць Валянціну Паўлаўну Чудаеву ўсюды. Гэтым разам яна была госцяй у Мінскім гандлёвым тэхнікуме. Напачатку гераіня павяла хвалюючы, "са слязою на вачах" расказ пра сваё цяжкае, але незабыўнае франтавое жыццё. З экрана. Затым "жыўцом" выступіла перад юнай публікай. Семнаццацігадовай добраахвотніцай пайшла Валянціна, ураджэнка горада Новасібірска, на фронт. Мела некалькі раненняў. Ледзь не ампутавалі ногі. Знайшоўся разумны хірург — не дапусціў аперацыі.

Суладна тэме сустрэчы прагучала і выступленне старшага навуковага супрацоўніка музея Якуба Коласа Івана Курбекі. Ён запыніў увагу слухачоў на ўдзеле ў Вялікай Айчыннай вайне беларускіх пісьменнікаў, у прыватнасці, народнага песняра.

*Пацісну я руку герою,*
*Скажу яму, як друг, як брат:*
*Як многа сілы ў сабе тоім,*
*Зямлі вялікай сын, салдат! —*

з гонарам звяртаўся ён да пераможцаў у вершы "Зварот". Гэтыя словы І. Курбека адрасаваў Валянціне Паўлаўне і яшчэ некалькім ветэранам, былым выкладчыкам тэхнікума (адзін і цяпер працуе — вядзе спецпадрыхтоўку).

Цёпла павіншавала прысутных з Днём Перамогі дырэктар тэхнікума Надзея Рыгораўна Лось.

У памятнай кнізе госці пакінулі запіс: "Усхваляваны ўвагаю мілай, слаўнай моладзі. Рэдка ў якой аўдыторыі ладзіцца такое яднанне — старых і юных людзей. Моцы вам усім і змогі ў памяць велічнае Перамогі!"

С. ІВАНЧЫК

## Адвакат, паэтка, маці...

— У яе паэзіі гучыць музыка, — сказаў сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Супрунчук на творчым вечары маладой паэткі Веры Стралкоўскай "Я — жанчына", які адбыўся ў Доме літаратара. Гэта была прэм'ера яе першага паэтычнага зборніка "Формула печали" (на рускай мове). Аўтарка па прафесіі — адвакат.

Аб паэтцы і яе творчасці на вечарыне гаварылі рэдактар зборніка Анатоль Аўруцін, мастак-афарміцель Барыс Казакоў, акцёры Ірына Нарбекава, Таццяна Шляхціна, Алег Акуліч, а таксама сябры паэткі барды Наталля і Аляксей Мартынавы, Алег Сямёнаў, Вольга Залеская, Міхаіл Валодзін, Міхаіл Карпачоў і іншыя.

У зале гучала музыка Чайкоўскага, Глінкі, Вівальдзі, Шумана.

П. ГАРДЗІЕНКА

## Не старэюць душой ветэраны

У Беларускім Саюзе журналістаў адбылося ўшанаванне ветэранаў ВАВ і працы Мінскай гарадской арганізацыі ветэранаў журналістыкі.

Старшыня БСЖ Л. Екель уручыў знакі і пасведчанні аб прысваенні ганаровага звання "Заслужаны журналіст БСЖ" Ефрасінні Бондаравай, Георгію Загароднюму і Вальдэмару Працкайлу, якія адзначаны за плённую працу ў беларускім друку. Трынаццаць ветэранаў атрымалі Ганаровыя граматы саюза, у тым ліку пісьменніца Г. Васілеўская, а таксама А. Уюнова, А. Літвін, А. Шаўня, А. Кармалітава, А. Дзітлаў, У. Лупейка, П. Нікіцін, М. Фядорын і іншыя. Дванаццаць чалавек атрымалі матэрыяльную дапамогу. Л. Екель павіншаваў узнагароджаных са святам Перамогі і пажадаў ім доўгіх гадоў жыцця.

Перад прысутнымі выступіў заслужаны дзеяч мастацтваў РБ кампазітар Э. Зарыцкі. Спявала для ветэранаў педагог з Віцебска А. Сакалоўская.

П. ГАРДЗІЕНКА

ПАЭЗІЯ

Ніна МАЦЯШ



# Тры святліны

●

*Калі б замовіла свой страх,*
*Калі б яго я пазбылася,*
*Душа не чэзла б у мурах,*
*Душа купалася б у ясі.*

*Надарваецца ж гэткі цуд:*
*Бы збоч самой сябе стаю я,*
*А ўсё, што мне балела тут,*
*Як падаліст, ля ног шумуе.*

*Не вусцішна ні за сябе,*
*Ні за радню, ні за сябрыну,*
*Ні за бяссілую Айчыну:*
*Хіжак ёй печань не дзяўбе.*

*Бо годны вызначаны шлях,*
*І ланцугі сарваны з духу,*
*І рух разгортвае абсяг*
*Бязмежжа*
*за вяршыняй скрухі.*
*Надарваецца ж гэткі міг!..*

## Між квецівам снегу й пяшчотнай сняжніцаю вішні

М. Багдановічу

*— Ён быў Тваім братам, —*
*сказала сястрыца Данута. —*
*Абыдзены шчасцем, шчэ больш*
*безнадзейны ў пакутах.*
*Скажы пра яго!.. Памаліся,*
*і будзеш пачута.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*А мне — зацяло...*
*Хоць сябе й пачуваю сястрою.*
*Самотай Паэтавай*
*сэрца самотнае крою.*

*Між квецівам снегу*
*й пяшчотнай сняжніцаю вішні*
*Адшчодрыў палёту*
*Яму над юдоллю Ўсявышні.*

*Крылаты заўжды асмяецца*
*бяскрылымі ўсімі,*
*Зняважыцца імі,*
*адпрэчыцца імі, Максіме.*

*Мінецца зямное — і немач, і пыха,*
*і зверства,*
*І стома змагання,*
*і ў лепшую долю няверства.*

*Адно не міне, не замосціцца —*
*прорва самоты*
*Духоўнай істоты ў шуканні*
*Красы між марноты.*

*Ці ж толькі ад жалю*
*да нашае нэндзы краёвай*
*Бог вусны Тваe растуліў*
*беларускаю мовай?!*

*Не на праміnанне блукае*
*вярэдліва рэха*
*Між цёплай сняжніцаю вішні*
*і квецівам снегу!*

## На змярканні

*Сярнічкай успалымнёнаю*
*успалымнёная свечка*
*гарыць-згарае.*
*Сябе ў новую форму пераплаўляе.*
*Што як можа,*
*так дзеі гэтай і спрыяе.*
*Жар, і кнот, і свечка самая,*
*і паветра халоднае, што яе атуляе.*
*Была калонаю,*
*сталася гронкаю вінаграднай,*
*што прыляпілася на камлі*
*маёй вечаровай задумнасці*
*саду.*
*Па адной*
*асыпаюцца вінаградзіны,*
*рвуць думак цьмянае, ухілістае,*

Эдуард АКУЛІН



# "Біблейскі Вянок Тутэйшых..."

●

*Стаю на цвінтарным ганку,*
*дзе неба ніжэй званіц,*
*— Францішак, Максім і Янка*
*прад Вамі схілёны ніц.*

*Ратуйце мяне ад свету,*
*дзе правіць вяслом Харон,*
*і цэлы Народ у Лету*
*вядзе за прывідны трон...*

*— Францішак, Максім і Янка, —*
*гартуйце крывіцкі дух.*
*Пустыя званы, а шклянкі —*
*да краю хаўтурнай скрухай.*

*Алтар у слядох ваўчыных...*
*А той стырнавы старэйшы*
*шпурляе у твар Айчыне*
*БІБЛЕЙСКІ ВЯНОК ТУТЭЙШЫХ.*

●

*Па дарозе "Масква—Варшава" —*
*як не стала крывіцкіх месц...*
*І шляхетнае "Прошу Пана"*
*закацілася аж у Клецк.*

*Па дарозе з "вараг у грэкі",*
*па шляху на спякотны Крым,*
*беларускія зніклі рэкі —*
*бо Даўгава мялей чым Дніпр...*

*На якім жа шляху-дарозе*
*мне Радзіму сваю шукаць,*
*каб я быў там "як суць па бозе",*
*як Скарына любіў казаць.*

## Згадка

*Раптам успомніцца*
*вёска Драганава,*
*ліпень ахрыплы ад шоргату кос*
*і туманы,*
*што над Пціччу тарпанамі*
*нізка ляцяць, не збіваючы рос.*

*Човен прычалены ў нетрах аеравых*
*і паплавок між глыбокіх нябёс...*
*Зорка з ракі у руках краснаперая —*
*сынава радасць з вясёлкаю слёз.*

## Эскіз

*На кульмане Свяцкага возера*
*свавольны чарцежнік Вецер*
*гадзінай не надта позняю*
*алоўкам чароту крэсліць.*

*А потым уласны роспіс*
*спрабуе здаля разглядзець.*
*А вернецца — рухам злосным*
*сатрэ ўсе і зноўку крэсліць.*

*І так ад відна да ночы.*
*І так ад цяпла да стыні.*
*Аж покуль Зіма аднойчы*
*гатовы эскіз не прыме.*

## Русалка

*Апоўнач аголяцца мелі,*
*і выйдзе на бераг з расой*
*іграць на падводнай свірэлі*
*дзяўчына са срэбнай касой.*

*Бяроза зялёны свой вэлюм*
*апусціць над чыстай красой.*
*Да золку не сціхне свірэля*
*у срэбным дажджы валасоў.*

*Прыбліжуся — рыба фарэля*
*ледзь дыхае ў роснай траве...*
*Ды ціха гайдаецца вэлюм,*
*І з віру хтось кліча мяне.*

●

*У тэатры восеньскага лесу,*
*дзе няма ні сцэны, ні куліс,*
*Вецер рэпетуе зранку п'есу*
*з мадэрновай назваю "Стрыптыз".*

## Асенняе

*Колькі ўслед ні крычы, ні галёкай —*
*Восень схільная скрозь да капрыз —*
*адашле залатыя аблокі*
*у працяглы заморскі круіз.*

*Стог над Сожам,*
*як храм адмысловы,*
*на начлег больш не возьме Хрыстос,*
*гэты стог пад канвоем бусловым*
*адвязуць на апошні укос.*

*Хоць далёка яшчэ да марозаў, —*
*лета Бабіна — так неўспадзеў.*
*У зялёным падстрэшку бярозы*
*першы певень нясмела прапеў...*

●

*Сярод базальтавых прысад,*
*дзе вецер — злодзей у законе,*
*мне прыгадаўся твой пагляд —*
*дзве зоркі выстылых ад болю.*

*І покуль вецер "стрыг" лісты*
*з галін даверлівых таполяў,*
*дзве зоркі — кроплі яснаты —*
*з Учора падалі ў Ніколі.*

## Паўночны пакой

*Ад поўні рабай, як кавун, —*
*усходы страху...*
*У куце — камунальнай з трун —*
*чарнее шафа.*

*Фано — ашчэраным кітом —*
*мой сон глытае...*
*Асадка ў лёце над сталом —*
*стралой з Кітая.*

*Ад золата на пераплётах кніг —*
*магічнасць сцэны.*
*Бяссонніца. Натхнення міг —*
*агнём Геены.*

●

*Ні свечку, ні кветку, а кнігу*
*Паэту ў труну пакладзіце,*
*з якой ён да Бога паціху*
*па выстылых воблаках прыйдзе*

*І скажа: "Айцец мой нябёсны,*
*як самы бязлітасны крытык,*
*прымі, накановaны лёсам,*
*мой сціплы духоўны нажытак...*

*далікатнае прадзіва.*
*Задзьму пялёстак агню,*
*хай ацалее агарачак —*
*на тую часіну, дзе жывуць*
*ужо ні пра што не марачы.*

## Дарослыя дзеці

*Шукаем у спадарожніку*
*нават не водбліск, не водцень, не водгалас,*
*а ўсё нашае ўласнае "я"*
*у найлепшым,*
*у найдасканалейшым яго варыянце,*
*без ніякіх гарантый,*
*але з верай, што —*
*знойдзем!*
*А потым —*
*а так неўзабаве —*
*слёзы, і крыўды, і роспач*
*з укарэньваннем у зацятасць;*
*а потым —*
*атрутная калючына цярновая,*
*увагнаная ў сэрца сёння там,*
*дзе ўчора гойна тулілася*
*да нясцерпу жаданае*
*абяцанне*
*апошняга пялёстка рамонкавага,*
*яго залатая зазнака*
*любасці і пяшчоты.*

*Стаімо на рагу*
*захаду і ўзыходу ўласных ілюзій,*
*сплаканыя, знерваваныя,*
*з дакорамі да спадарожных.*
*Бездапаможныя.*
*Дарослыя дзеці.*

●

*Яшчэ ўсё навіваецца вопрадзень*
*утульнасці, супакоенасці,*
*святла, —*
*толькі б хто не чапіў*
*груба, жорстка выкручанага крыла,*
*толькі б хто —*
*назнарок, а ці неабачна —*
*зноў не вымкнуў ранейшага болю!..*

*Хай хоць трохі яшчэ*
*патрымае ў сваім прыполе*
*абярэжлівая спагада*
*нябёсаў*
*на доле...*

●

*Бачыць Бог,*
*ты напраўду рады,*
*калі я сама*
*да цябе азавуся,*
*ты напраўду рады,*
*і гэтаму, Бачыць Бог, рады няма.*
*Адхварэлі?!*
*Закаяліся!?*
*Трапятліва малюся*
*да Роўнаапостальнай Ніны:*
*Памажы нам, Святая, ўтрымаць*
*і на цяперашняй сцюжы*
*наш трыкір,*
*нашыя тры святліны —*
*Свечкі,*
*Штушкі*
*І Ружы!..*

*— Максім, у найвышняй гасподзе*
*"Вянок" твой яснеецца німбам.*
*А зерне, што спала ў народзе,*
*я веру аднойчы узыдзе!*

●

*Юнацтва лёгкае крыло*
*мне лёс пазычыў ненадоўга...*
*О як мне хораша было*
*паміж зямлёй і домам Бога*

*Лунаць прасветлаю душой*
*без надакучнай асцярогі*
*і быць шчаслівым, што знайшоў*
*пачатак зорнае дарогі.*

*Гадоў, як воблакаў сплыло —*
*больш не лятаю вольным птахам.*
*Юнацтва лёгкае крыло*
*жыццём заручанае з плахай.*

З НІЗКІ "ЭРА СНОЎ"...

## Сон

*Твой сон, як дождж у ліпені,*
*падманны.*
*Шкадуючы, балесна пакідаць*
*світанкі пераліўныя ў туманы,*
*якія нам з табой не сустракаць...*
*Адрыне боль твая Перасцярога,*
*ламаючы даверху хісткі лёд,*
*спагады палахлівая пірога*
*затопіцца, —*
*і стомлены наўзброд*
*пайду ракой Халоднасці змялелай*
*туды, дзе рыскай тонкай*
*і нясмелай*
*зарэе вузкі і спакусны*
*жаданы Бераг тваіх вуснаў...*

## Купанне

*Ліпень ліпам завушніцы*
*меецца навесіць...*
*Уплялася ў промні сонцу*
*чаратамі Бесядзь.*
*У рацэ ў чым маці родзіць*
*ты са мной купаешся,*
*ластаўкай у зман уводзіш —*
*усміхаешся.*

## Н...

*Вочы,*
*бы калодзежы нішчымныя,*
*якія высахлі ў спякоту,*
*ілба готыка,*
*рэнесанс усмешкі —*
*былога Храма кахання рэшткі...*
*Мілая, —*
*любі,*
*люблю:*
*любіла, —*
*на колькі хапіла.*
*На колькі магла —*
*забыла.*
*Вочы*
*іншыя стрэчу*
*аднойчы.*
*З тваіх не піць...*
*Каторы жнівень*
*трапляе лета ў люты лівень.*

## Эрагенная зона

*Я ў гэтую зону, як грэцкі Ясон,*
*імкнуся патрапіць штоночы.*
*Бяру заміж тарчы — эротпарасон,*
*які ратавацьме аднойчы...*

*О гэтая зона — пайночны фрыстайл*
*у пары з каханай над светам,*
*дзе генная памяць —*
*мільён мегабайт —*
*патрэбна, каб граць пікачэта...*

*Які тут да болю знаёмы ландшафт*
*з вяршынямі гор вінаградных,*
*з расплаўленай магмай*
*унутраных шахт,*
*з лагунаю ног неагляднай...*

*Я ў гэтае зоне —*
*найрайскае з зон —*
*да ранку плыву на галерах...*
*Я тут адначас — і тыран-фараон,*
*і раб у вярыгах Венеры.*

●

*Паміж намі — возера Ночы,*
*і у чорнай яго вадзе*
*пахаваў я свой грэх аднойчы*
*і ад Бога, і ад людзей...*

*Чым становішся ты мне бліжэй,*
*тое возера ўсё глыбей.*
*І ўжо памяць — не плыт,*
*а крыж мой,*
*што урос у прадонны глей.*

*Паміж намі — вакно нябыту.*
*Зазіраю ў яго ізноў.*
*І ўжо памяць — не крыж,*
*а плыт мой,*
*што вяртае на выспу Сноў.*

ПРОЗА

Яўген КРЫЦКІ

# У ПОШУКАХ НОЧЫ

*— Цішэй, падсвядомасць нешта кажа.*
*— Пачакайце, я гэта ўжо чую.*
*— Але так добра прайсці па дарозе грэху яшчэ раз.*
*— Згодзен, бо кожны час дадае свае фарбы.*

(З размовы.)

Аб шкло білася муха. На стале ў старадаўнім брудным падсвечніку, які здалёк нагадвае чалавечую нагу, абутую ў лапаць, гарэла свечка.

Ліпеньскае сонца, святло свечкі і амаль сон. Мозг не разумее, што тут выпадковае, і не ведае, на чым сканцэнтравацца, у чым шукаць значнасць, сімвал. Што больш за ўсё нервуе, тое прыцягвае ўвагу.

Аб шкло білася муха.

— Ах, трасца, табе ў галаву, — вылаяўся я, лежачы на канапе.

Сонечны прамень стомлена прысеў на насценны гадзіннік і паспрабаваў згуляць у раздражнялкі то з носам маім, то з левым вокам, а то з правым. Не прыняў гульні, прыкрыўся рукой. Праменьчык адразу пераскочыў на яе.

Добра, што ніхто не пачуў. Азірнуўся, але, па праўдзе кажучы, скасіў правае вока на дзверы, а мо левае. Стомлены дробязямі жыцця і не памятаю. Хтосьці сказаў, у мірны час яно складаецца з дробязяў. І каб засяродзіць увагу чытача, трэба зазірнуць у такую глыбіню, каб жах узяў, каб не хапіла паветра.

— Хто тут?

Спякота глуха выбухнула цішынёй.

Чаго гэта я хвіліну назад не ўзяў аловак і не зафіксаваў думку. Так прыемна выцягнуць ногі на канапе. Павінен быць на Зямлі кавалачак маёй прасторы. Самы маленькі, але мой. На якой Я ёсць Я, а не Я — гульня. Добра, што канапа доўгая, не трэба ногі прыціскаць да жывата. Не ведаў (добра, што ніхто не чуе, як ён бурчыць), што ежа ўплывае на думанне. Але мне засталося ганарыцца толькі тым, што засталося. Якім чынам ухапіцца за думку? Толькі мозгу час робіць уступкі. Але ён не можа кантраляваць эмоцыі. Думка хвіліну назад распаліла свядомасць. А муха, якая б'ецца аб шкло, — тушыць, накіроўвае ў патрэбныя межы настрою словы, ці дакладней, у абыякавасць. Ці патрэбны яны свету? Не. Па ім прайшліся. І неаднойчы, а я вось ляжу. Дык хто прагоніць муху? Усё звініць і звініць. Большую частку жыцця чалавек спіць. Ці хоча спаць. А пасярод сну — выбух. Не развtowardжлівы, усебаковы ўваход у думку, а эмацыянальны — у самую сарцавіну. Праз выбух. Не логіка, а інтуіцыя, яна вымотвае. І рушыцца гармонія таго, чаго не ведаем.

І рука апусцілася ўніз. І сонечны праменьчык адразу пераплёўся з доўгімі вейкамі. Пяшчотнае сяброўства. Не здагадваўся, што так прыемна.

Дзынь, дзынь аб шыбу. Трасі цябе ліхаманка, ці здохнеш калі-небудзь? Няўжо я таксама каму-небудзь перашкаджаю? Калі ласка, пераляці да сцяны. Не будзеш адчуваць свабоды і супакоішся. Ты што, хочаш сказаць, што я забраў у цябе свабоду. А ці забіраюць яе бяздзеяннем? Незразумелае праз сон дыктуе сюжэт.

Муха сваёй нярвознасцю перапальвае тонкую нітачку духоўна-інтэлектуальнага багажу, які ў мяне ўклалі. А можа, і я перапальваю каму-небудзь гэтую нітачку? Як дапамагла мне лянота браць менш. А ўсе крычалі, што гэта грэх. А каму зараз патрэбны гэты багаж? Адзін Гасподзь разумее. А калі было б у мяне больш, можа, ляжаў бы п'яны ці ўпіснуў усё жыццё ў адзіную лічбу формулы.

Эмацыянальна-ўспрымальныя павінны быць лянівыя. За прарывам — новы лабірынт. А да яго трэба падцягнуць духоўнае. І замацавацца ў крыві. Хто-небудзь дадумаецца з вуліцы запусціць камень у шкло? Дарэчы, усё нараджаецца тут, у памяшканні. Мільёны маленькіх непрыемнасцей (хутчэй праганіце муху са шкла) нараджаюць вялікія катаклізмы.

Так прыемна выцягнуць ногі на зручнай канапе, пацягнуцца. Яблыкаў бы сюды з вёскі. І жнівень павуціну настрою сплёў.

Лянота ўстаць і патушыць свечку. Мо муха ад яе ляціць. Галасы з інтанацыяй інертнасці. А можа, сама згасне. Паслухаю гэтыя галасы, скажыце што-небудзь, і адразу грукну словам. Ані воблачка на небе, каб пакараць за пустату. Вось дзе павінны нараджацца словы. Моц іх.

Захутаўшыся ў бескаляровую коўдру ўчынкаў, мы выкупляем у бессмяротнасці смерць. Стамілася і папаўзла, склаўшы крылы, муха па шкле. Змірылася з абыякавасцю чалавека. Шклянка вады, якая стаіць на падлозе, нагрэлася. Смага. Думку падарыў таму, хто прынёс сцюдзёнай вады. Каму? Многія адракаюцца ад сваіх і хуценька падбіраюць за іншымі. Падсвядома Я на адной плоскасці з іншымі.

Гэта свабода спакою. Шынок жыцця з маленькімі радасцямі згодна запатрабаванняў. Трэба навучыцца вырывацца. А дзякуючы чаму? Калі не хапае думак, прырода прашэпча.

Круглыя жаночыя каленцы насупраць мяне ў тралейбусе. Хуткія рукі плятуць карункі дзіцячай панчошкі. І маленькая белая палосачка трусікаў паміж кален. Можа, забылася, а можа... Імкнецца засланіць ад мяне гэтую тоненькую палосачку выпадковасць. І твары, шмат твараў, на якіх пячатка абыякавасці. А калі глыбей падумаць, менавіта выпадковасць аберагае пяшчоту. Праз сон адчуваю, што чырванею. Пакуль няма звычкі — шчырасць.

— У вас такія цудоўныя ямачкі на пунсовых шчочках, думаецца, хоць зараз напоўню іх веснавой вадой, каб убачыць у іх неба.

— А мяне Таняй клічуць. Запытайце ў кожнага, пакажуць сцежачку.

Маленькая шчарбінка паміж пярэдніх зубоў. Відаць, у вёсцы нарадзілася. Сцюдзёная вада студні.

— На жаль, я вершаў не ведаю...

— Ой, прабачце, — і каленцы самкнуліся. У інтанацыі голасу павінна быць душэўная сарамлівасць, — толькі папярэджваю, не трэба з майго агародчыка зрываць для мяне кветкі. Памятаю іх колер...

...Зноў смажаная свініна на патэльні. Суседа трэба выжываць. Колькі моцы трэба прыкласці, каб зрабіць выбар. Надакучыў яго гармонік з нацягнута-грудным напевам народнай песні. Адчуванне болю, калі нараджаецца песня, і пошук болю, ужыванне ў боль, калі яна гучыць. Рэфлексуе сусед. Аголены нерв настрою кранае за безжыццёвае.

Ну, ты згаснеш, ці запусціць гэтай тоўстай кнігай? Цікава, што сусед у ёй знайшоў, калі параіў мне прачытаць?

"Вялікія думкі нараджаюць і справы вялікія. А нашы дзе?" Д. Меражкоўскі. А чаго менавіта ён? Адказ на любое пытанне — гэта свядома зроблены выбар. Дробязі, якія нервуюць, — варта, што раздзяляе чалавека і яго думку, ад якой нараджаецца дзеянне. Ты імпульс даў іншым. Яны прыйдуць за табой, больш добрыя і гарманічныя.

Цікава, а куды падзелася муха? Хоць грукам трэба напоўніць ненасытную цішыню. Рука мацае па падлозе, шукае шкарпэтку, выпадкова задзявае за шклянку, яна перакульваецца. Хоць адна сёння карысць ад сонца — высушыць падлогу...

Ізноў... Павольна словы ў думцы набіраюць хуткасць і пераходзяць у вобразы сну. Амаль правільны пах кветак. Не ведаю, ці пазнаю яго, калі прачнуся. Шэрыя вобразы... Кавярня... Адчуваю рытмічныя гукі музыкі. Мы танцуем з жанчынай. І шэпчуць, і крычаць усе разам: "Да канца, да смерці павінен рухацца разам з ёй". Робім выгляд, што трапляем у гармонію руху. Але куды ні павернешся, з вугла кавярні за мнойназіраюць вочы-азёры. Моляць: я твая крывінка, вяртайся ў юнацтва, я цябе разбуджу. Прыгажэйшая. Са мной будзеш жыць. Адпаведныя касмічнаму сэнсу словы знойдзеш для кнігі. Зрабі, мой даражэнькі, крок насустрач... Але ля самага вуха да болю знаёмы голас: "Засынай, мой зайчык, адпачні, — свядомасць супраціўляецца: ад чаго адпачыць? — Хочаш, я казку табе праспяваю?" — "Не! — крычу і нават адчуваю гэты крык. — Жывога слова дай!" Людзі, бачу, як тая, што насупраць, хоча схаваць жывое слова, зберагчы ад гульні. Шырока расшпіліла кофтачку і на імгненне агаліла пругка-маладыя жаночыя грудзі. На правай ля сасца ўнізе (я добра бачу) радзімы знак. Менавіта туды рука апусціла словы. І пагладзіла іх некалькі разоў. Уверх, уніз, уверх, уніз... І тады...

Зноў уварвалася муха ў мой сон. Калі прачынаецца мозг, ён ліхаманкава шукае сэнс.

Думаецца, радзімка чырвонага колеру была. Вярнуцца ў сон і разгледзець. Хутчэй загарнуць пяшчотны вобраз у маленькую ноч.

## *Вясновыя прэм'еры*

**Некалькі музычных прэм'ер у адным канцэрце — і ён ператвараецца ў гэткую чараду падзей. Хіба не чарадой прайшлі яны за адзін вясновы вечар, калі ў Вялікай зале сталічнай філармоніі прагучала праграма "Сімфанічныя прэм'еры беларускіх кампазітараў"!**

**Кампазіцыя для аркестра "Dea Luna" ("Багіня Месяца") сталася своеасаблівым працягам вядомых інтанацыйна-тэмбравых рэфлексій Яўгена Паплаўскага. Нібыта намагаючыся стварыць партрэт няўлоўнай жаночай душы, кампазітар накрэслівае гэткія загадкавыя "гукавыя геаметрычныя фігуры": спалучэнне ліній, штрыхоў, шматколерных плямаў... І з марных пошукаў цэласнасці або пэўнасці не высноўваюцца ні кропка, ні пытальнік, ні нават шматкроп'е. Толькі шолах, сполах, шэпт...**

**Сяргей Бельцюкоў прапанаваў сваё музычнае прачытанне 14-га раздзела Евангелля ад Марка — сімфанічную карціну "Гефсіманія". Строгі праграмны твор, на ўспрыманне якога настройваюць адпаведныя кожнай з трох частак вынядкі са Святога Пісання. Пададзены ў праграмцы тэкст нібыта ўжо абавязвае слухача сачыць за ўвасабленнем і развіццём аўтарскай задумы: маленне Ісуса; апошні зварот да вучняў; прадчуванне здрадніцтва... Ну, а калі б не было такой канкрэтнай праграмы? Музыка, досыць яркая, трымала б увагу публікі ў напружанні: гэткім асцінатным трывожным рухам, які выклікае ў памяці лейтматыў хрэстаматыйнага Спілбергава фільма жахаў; перагудам званоў; меднагалосым воклічам духавых...**

**Напісаная пяць гадоў таму сімфонія N I Алега Хадоскі ўпершыню прагучала толькі цяпер, захаваўшы, аднак, прывабнасць для аматараў разгадваць творчыя загадкі. Загадка, скажам, такая: чаму аўтар прысвяціў гэты твор памяці П. Чайкоўскага? Мастакоўская падсвядомасць, сугучча творчых душ тут ні пры чым, усё свядома: сімфонія з'явілася перад сотымі ўгодкамі з дня смерці П. Чайкоўскага. Праграмная назва "Пакаянная"? Гэта сінонім запозненай малітвы-раскаяння за дзесяцігоддзі бязбожнага грэшнага жыцця, за дзесяцігоддзі вынішчэння духоўнай культуры і веры. Чаму гэтая музыка сяды-тады падаецца знаёмай? Таму што яе харавыя эпізоды (у сімфоніі шчодра выкарыстаны хор) тэматычна перагукаюцца з новым творам А. Хадоскі — "Літургіяй св. Іаана Залатавуста". І яшчэ адна загадка — у парадаксальным спалучэнні праваслаўнай харавой традыцыі з атрыбутам заходняй культуры, сімфанічным аркестрам. Мастацкі прыём, які адкрывае дзівосныя магчымасці перад кампазітарам-драматургам? "Ідэйнае процістаянне" дзвюх ментальнасцяў? Храмавы, саборны дух у хоры, мяцежна-разбуральны — у аркестры?..**

**Быў у той праграме і твор сталага нашага мастака Яўгена Глебава: Канцэрт для скрыпкі з аркестрам. Прэм'ера яго адбылася ў мінулым сезоне, грунтоўна рэцэнзавалася на старонках "ЛіМа"; нямала добрых слоў адрасаваў тады мастацтвазнаўца і музыкант І. Вядзенін салісту — незабыўнаму Льву Гарэліку. Цяпер Канцэрт для скрыпкі значыўся ў праграме з журботным прысвячэннем памяці народнага артыста Л. Гарэліка. Грала выдатная маладая скрыпачка Анжэла Жарэга, і ў ейным выкананні твор набываў прэм'ерную свежасць, пранізлівасць і пранікнёнасць.**

**Увогуле ж, вечар новай беларускай музыкі адбыўся дзякуючы Акадэмічнаму сімфанічнаму аркестру Беларусі, Акадэмічнай харавой капэле імя Р. Шырмы і дырыжору праграмы — Віктару Собалеву.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: маэстра В. Собалеў.*

*Фота У. ВІТЧАНКІ*

ФЕСТЫВАЛІ

# Пяе над Гародняй гітара...

*...Люляючы Нёман сівы.*
*Баторыя срэбная Фара*
*Маўкліва ўздымае крыжы.*
*Шапочуць таполі лістотай*
*Са струнамі ў пераліў.*
*Гітара чаруе пяшчотай*
*Ды колерам золата жніў.*

Гэтыя радкі належаць пяру Уладзіміра Захарава. Так, У. Захараў, добра вядомы ў рэспубліцы як таленавіты гітарыст, кампазітар, лаўрэат міжнародных конкурсаў піша і вершы. І хаця сёння размова пойдзе не пра яго паэтычны дар, згадванне гэтых радкоў здаецца зусім натуральным. Па-першае, яны зрабіліся назвай і своеасаблівым дэвізам Першага фестывалю гітарнай музыкі, які прайшоў у Гародні. А па-другое, як нельга лепей адпавядаюць таму, што адбывалася на пачатку красавіка ў нашым старажытным горадзе. Бо гітара сапраўды спявала над Гародняй, прыгожа, пяшчотна, пранікліва люляючы сваімі чароўнымі зыкамі не толькі сівы Нёман, але і пачуцці шматлікіх слухачоў, якія шчыльна запаўнялі ўтульную залу Новага замка ўсе тры фестывальныя дні.

Ідэя фестывалю ўжо даўно выношвалася У. Захаравым, які, бясспрэчна, стаў галоўным ініцыятарам яго правядзення. Падтрыманая Упраўленнем культуры аблвыканкама, Аддзелам культуры гарвыканкама, Гарадзенскай гарадской капэлай, іншымі ўстановамі, яна, нарэшце, ажыццявілася.

Удзельнікамі фестывалю былі гарадзенскія гітарысты і тыя, чый лёс так ці інакш звязаны з Гарадзеншчынай: дацэнт Беларускай акадэміі музыкі, лаўрэат усесаюзнага конкурсу, кампазітар, даследчык Валерый Жывалеўскі; студэнты БАМ лаўрэаты рэспубліканскага і міжнародных конкурсаў Дзяніс Асімовіч і Павел Трацяк; лаўрэаты міжнароднага конкурсу студэнт Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта Андрэй Сяткоў і выкладчык сярэдняй школы-гімназіі N 30 Гародні Дзмітрый Амельчанка; лаўрэат рэспубліканскага конкурсу "Зорная ростань" Валерый Дзідзюля. І, канешне, сам Уладзімір Захараў, выкладчык Гарадзенскага музычнага вучылішча лаўрэат міжнародных конкурсаў. Згадзіцеся, даволі прадстаўнічы спіс, які, безумоўна, сведчыць, што тутэйшым меламанам ёсць чым ганарыцца ў сэнсе гітарнага выканальніцтва. Дарэчы, нечакана, але вельмі своечасова ў Гародні ў фестывальныя дні аказалася Л. А. Дзянскевіч, колішняя заснавальніца класа гітары ў мясцовым вучылішчы, настаўніца В. Жывалеўскага і У. Захарава, якая з задавальненнем узяла ўдзел у свяце.

Канцэртныя праграмы фестывалю былі насычаныя і разнастайныя. Пасля ўрачыстага адкрыцця слухачы мелі магчымасць не толькі зноў пачуць любімы інструмент, але і даведацца пра яго гісторыю. Аповед В. Жывалеўскага "Гітара і лютня на гарадзенскай зямлі" зрабіўся цудоўным уступам да ўсяго фестывалю, пацверджаннем таго, што Прынёманне мае багатыя традыцыі і росквіт гарадзенскай гітары ў апошнія дзесяцігоддзі ёсць у пэўным сэнсе адраджэнне і развіццё гэтых традыцый.

Сваё выступленне В. Жывалеўскі, які паказаў сябе выдатным лектарам, суправаджаў цікавымі гістарычнымі фактамі, урыўкамі з літаратурных твораў, і, канешне, музыкай. На жаль, па прычыне хваробы рукі ён, бясспрэчна адзін з лепшых гітарыстаў рэспублікі, не мог парадаваць аўдыторыю жывым выкананнем, але гэтую праблему ўдала вырашалі магнітафонныя запісы, зробленыя В. Жывалеўскім у апошнія гады на Беларускім радыё.

У першы вечар фестывалю слухачы пачулі малады таленавіты дуэт гітарыстаў у складзе Д. Амельчанкі ды А. Сяткова, а таксама У. Захарава, у якога ў Гародні, вядома, шмат прыхільнікаў. Нястомны ў сваіх творчых пошуках і памкненнях, У. Захараў паспяхова супрацоўнічае з музыкантамі Гарадзенскай гарадской капэлы. Акрамя ўласнай праграмы ён, разам з ансамблем салістаў капэлы, сыграў папулярнае Адажыо з канцэрта Хаакіна Радрыга "Аранхуэс". Выкананне гэтай цудоўнай музыкі на адкрыцці і на закрыцці фестывалю зрабілася своеасаблівай данінай слаўтаму Майстру, якому ў 1997 годзе спаўняецца 95 гадоў.

Назаўтра перад аматарамі гітары выступілі П. Трацяк, Д. Асімовіч ды В. Дзідзюля. Тры сапраўдныя таленты, вельмі розныя, але аб'яднаныя амаль фанатычнай адданасцю любімаму інструменту, высокім прафесіяналізмам і майстэрствам. Сур'ёзны, удумлівы, тэхнічны П. Трацяк; вытанчаны, рамантычны, натхнёны Д. Асімовіч; імпульсіўны, тэмпераментны, запальны В. Дзідзюля, яны ўзаемадапаўнялі адно аднаго, склаўшы ўсе разам надзвычай змястоўны і разнастайны канцэрт. Слухачы аднолькава шчыра прымалі творы Баха і Паганіні, Брауэра і П'яцолы, Рака і Захарава ў выкананні П. Трацяка і Д. Асімовіча, і таксама горача віталі ўласныя кампазіцыі В. Дзідзюлі ў стылі "фламенка".

Заключны вечар 5 красавіка. У канцэртнай праграме, якая пачалася пасля афіцыйнага закрыцця, акрамя ўжо згаданых выканаўцаў, удзельнічалі юныя гітарысты — пераможцы конкурсу, што праводзіўся ў межах гэтага фестывалю. У першай групе (вучні музычных школ) 1 месца заняў Аляксей Латышаў (ДМШ N 1 г. Гародні), у другой групе (навучэнцы музычных вучылішчаў) журы аддала перавагу Сяргею Разуваеву, першакурсніку ГМВ.

Пасля таго, як прагучалі ўсе віншавальныя прамовы, былі ўзнагароджаны пераможцы, адзначаны ўдзельнікі, пасля таго, як заціхлі апошнія гукі гітары, якая на працягу трох дзён была сапраўднай "каралевай балю", удзячная публіка наладзіла авацыю артыстам і арганізатарам фестывалю. Здавалася, што ў той момант усіх прысутных аб'ядноўвала агульнае пачуццё свята, якое, на жаль, скончылася так хутка. Аднак развітанне не было сумным: радуе тое, што нас чакаюць новыя сустрэчы — фестываль будзе традыцыйным.

Што ж, застаецца толькі яшчэ раз парадавацца за гарадзенскіх гітарыстаў, якія здолелі пакуль што ўласнымі сіламі ажыццявіць цудоўную імпрэзу міжнароднага (на думку В. Жывалеўскага) узроўню; за гарадзенскіх слухачоў — аматараў гітары, якія мелі шчасце ўсё гэта пачуць і ўбачыць; і, канешне, за Яе Вялікасць Музыку. Дзеля яе "над Гародняй спявала гітара", несучы ў нашы загрубелыя ад розных праблем душы вечныя ісціны: Прыгажосць, Каханне, Дабрыню... З днём нараджэння, фестываль — і добрай табе дарогі!

**Аляксей САЛАДУХІН**

*Фота М. СЕРАБРАКОВА*

*На здымку: удзельнікі і арганізатары фестывалю (злева направа): стаяць — Д. Амельчанка, А. Сяткоў, А. Саладухін, В. Жывалеўскі, П. Трацяк, С. Маціевіч; сядзяць — В. Дзідзюля, У. Захараў.*

МУЗЫКА

# Загучаў па-беларуску "Фаўст"!

## УЧОРА Ў СТАЛІЧНАЙ ФІЛАРМОНІІ АДБЫЛАСЯ АДМЕТНАЯ ПРЭМ'ЕРА

Болей чым 160 гадоў Беларусь чакала прэм'еру гэтага твора. Многія дзесяцігоддзі пасля Берлінскай, 1835 года, прэм'еры, "Фаўст" Антонія Генрыка Радзівіла быў папулярным оперным творам. Яго чулі ва ўсіх буйнейшых гарадах Германіі, Польшчы, ставіўся "Фаўст" у Празе і ў Лондане. Гучаў ва ўрыўках у Парыжы і ў Пецярбурзе. Не чулі яго... на радзіме кампазітара.

Нарадзіўся Антоні Генрык Радзівіл у 1775 г. у Вільні. Атрымаўшы адукацыю ў Гетынгенскім універсітэце, будучы XII ардынат Нясвіжскі і Алыцкі пасля паражэння паўстання Касцюшкі застаўся жыць у "прускай" частцы былой Рэчы Паспалітай. У 1796 г. ён ажаніўся са стрыечнай сястрой прускага караля Вільгельма Фрыдрыха II. У тым жа годзе Радзівіл пазнаёміўся з Людвігам ван Бетховенам падчас гастроляў знакамітага кампазітара ў Берліне. Знаёмства перайшло ў сяброўства: знак яго — "Імянінная уверцюра" (ор. 115) венскага генія з прысвячэннем Радзівілу.

Антоні Генрык Радзівіл пакінуў пасля сябе няшмат твораў — каля трыццаці камерных і толькі адзін буйны, але які! Оперу "Фаўст" на лібрэта самога Ёгана Вольфганга Гётэ. Геніяльны паэт сам згадзіўся на супрацоўніцтва з Антоніем Радзівілам у якасці лібрэтыста, на што ён не йшоў ніколі раней і ніколі пасля.

Што ж падштурхнула Радзівіла на гэтую працу? Несумненна, веліч "Фаўста" — трубадура рамантызму. Але і...

Дзед кампазітара Марцін Радзівіл — дзівак з тых, чыё жыццё вельмі нагадвае вобраз Фаўста. Ён быў шырока адукаваны чалавек. Ведаў шмат моваў (у тым ліку старажытных), валодаў многімі музычнымі інструментамі, займаўся тэалогіяй (інтарэсы ў гэтай галіне ведаў сягалі да старажытных веравызнанняў). У сваёй сядзібе князь пабудаваў лабараторыю, дзе займаўся медыцынаю, фізічнымі і хімічнымі доследамі, шукаў філасофскі камень... Карацей, ну чым не Фаўст?

Калі Марцін Радзівіл памёр, Антонію Генрыку было сем гадоў. Дзед застаўся ў памяці і свядомасці ўнука не героем сямейнага падання, а жывым чалавекам, жыццё якога ўжо само па сабе ўздзейнічала на дзіцячую фантазію. Можна толькі ўявіць, якое моцнае ўражанне атрымаў князь Антоні, прачытаўшы гётэўскі шэдэўр. Якая хваля пачуццяў узнялася ў ягонай душы! Не, ён проста мусіў пісаць свайго "Фаўста"!

У 1837 г. у Берлін з Мінска прыехаў удасканальваць сваё кампазітарскае майстэрства Станіслаў Манюшка. Жыў ён на кватэры свайго настаўніка — рэктара Пеўчай акадэміі, прафесара К. Ф. Рунгенхагена. На занятках прафесар пільна прааналізаваў радзівілаўскі твор, — менавіта пад ягоным кіраўніцтвам прайшла за два гады да таго, у 1835-м, прэм'ера "Фаўста". Пасля вяртання на радзіму С. Манюшка выдаў у Віленскім музычным выдавецтве Ю. Завацкага ў 1844 г. асобныя нумары оперы ва ўласнай клавірнай рэдакцыі. Ён меў жаданне паказаць віленчукам "Фаўста" хаця б ва ўрыўках. Але канцэрт так і не адбыўся.

Оперу рэцэнзавалі Р. Шуман і Ф. Ліст, пазней В. Адоеўскі, у наш час польскія даследчыкі. Гётэ калісьці назваў оперу А. Радзівіла "геніяльнай парывістай кампазіцыяй", як геніяльную ахарактарызаваў оперу і Ф. Шапэн.

Можна было б гаварыць пра тое, што стыль пісьма А. Радзівіла цалкам знаходзіцца ў рэчышчы нямецка-аўстрыйскага класіцызму. Але колькі новых ідэй у "Фаўсце"! Колькі разоў сустрэнем там адметнасці, уласцівыя толькі славянскаму меласу, рытму і г. д.

Беларускія артысты ўжо неаднойчы паказвалі (кампазіцыі і ва ўрыўках) "Фаўста" А. Радзівіла ў межах праграм аб'яднання "Беларуская Капэла" і ў Нясвіжы, і ў Мінску, і ў Вільні, і ў Празе. Усюды быў гарачы прыём публікі. Усюды ж чулася неразуменне: чаму сёння занядбаны гэты цудоўны твор?

Сёлетнюю (першую беларускую!) прэм'еру падрыхтавалі Сімфанічны аркестр (мастацкі кіраўнік і дырыжор Анатоль Лапуноў) і Акадэмічны хор (мастацкі кіраўнік Віктар Роўда, хормайстар Андрэй Кунцэвіч) Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі, канцэртмайстар тэлерадыёкампаніі Ганна Каржанеўская, салісты А. Бундзелева, Н. Галеева, Р. Палішчук, С. Франкоўскі, В. Кавальчук і аўтар гэтых радкоў.

Асобную падзяку хацелася б выказаць Васілю Сяргеевічу Сёмуху, чый пераклад лібрэта дае нам, беларусам, шчаслівую магчымасць чуць "Фаўста" на роднай мове.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

ВІНШУЕМ!

# Я бясконца люблю прыроду...

## СПОЎНІЛАСЯ 80 ГАДОЎ ВЯДОМАМУ БЕЛАРУСКАМУ ЖЫВАПІСЦУ АНТОНУ БАРХАТКОВУ

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Антон Бархаткоў належыць да плеяды мастакоў, творчы шлях якіх пачаўся яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны. Нарадзіўся мастак на Магілёўшчыне ў 1917 годзе ў в. Шчаглоўка. Маляваннем захапіўся з дзяцінства. Паступіў у Маскоўскае мастацкае вучылішча імя 1905 г., якое скончыў у 1940 г. (майстэрня В. Крымава, Б. Пятрова). Адразу быў прызваны ў Чырвоную Армію, потым трапіў на фронт. У 1942 г. з акружэння разам з іншымі апынуўся ў партызанскім атрадзе "За Савецкую Беларусь". У 1943 г. яго выклікалі ў Маскву і прызначылі памочнікам дырэктара Рэспубліканскай выстаўкі беларускага выяўленчага мастацтва, якая была прысвечана 25-годдзю ўтварэння БССР. На выставе экспанаваліся і работы маладога А. Бархаткова: "Партрэт партызана", пейзаж "Раніца", партызанскія замалёўкі. Тут ён і пазнаёміўся з вядомым мастаком Вітольдам Бялыніцкім-Бірулем. Гэта знаёмства перарасло ў сяброўства на доўгія гады.

Пасля вайны А. Бархаткоў вучыўся ў Маскоўскім мастацкім інстытуце імя Сурыкава (майстэрня С. Герасімава, Д. Мачальскага, М. Фаворскага), які скончыў у 1948 г. Два гады ў інстытуце малады мастак працаваў пад непасрэдным кіраўніцтвам Бялыніцкага-Бірулі, вучыўся ў славутага мастака "слухаць" прыроду, вызначаць галоўнае, што з'яўляецца яе сутнасцю. У хуткім часе мастак становіцца і сябрам Саюза мастакоў Беларусі (1949 г.).

Імя А. Бархаткова становіцца вядомым. Яго творы экспануюцца амаль на ўсіх рэспубліканскіх і ўсесаюзных выставах. У асноўным — гэта пейзажы, бо майстру ўласціва тонкае адчуванне прыроды. Мастак любіць пераходныя поры года — восень, вясну, пачатак зімы ("Разліў", "Вясна", "Першы снег", "Пад вечар", "Раніца", "Квітнеючыя яблыні"). Антон Стафанавіч прытрымліваўся наказаў Бялыніцкага-Бірулі: калі мастак у звычайным матыве ўбачыў карціну, калі адчутае прапушчана праз сябе — значыцца, карціна адбылася. Мастак па-майстэрску перадае лёгкую зменлівасць прыроды. Яго пейзажы прасякнуты светлым лірызмам і адухоўленасцю. З часам яго палітра станавілася больш яркай, маляўнічай, насычаецца бэзавымі фарбамі ("Навальніца адыходзіць", "Пахмурны дзень", "Зіма ў вёсцы Гарадок").

Сяброўства з В. Бялыніцкім-Бірулем мела для А. Бархаткова вялікае значэнне. Летні час яны праводзілі ў Курасоўшчыне. Кожную раніцу выязджалі на эцюды, а ўвечары абмяркоўвалі востра крытыкуючы свае работы, зробленыя за дзень. Працуючы побач з выдатным майстрам, А. Бархаткоў прахо-дзіў грунтоўную школу майстэрства. Ён імкнуўся з максімальнай выразнасцю перадаць свае ўражанні ад навакольнай прыроды ў палотнах "Цвіце сад" (1947), "Вясковы двор" (1947), "Адзінокая бярозка" (1948). На першы погляд, работы пазбаўлены карціннасці, але яны натуральныя, надзвычай эмацыянальныя. Яго цікавяць няўлоўныя, зменлівыя з'явы прыроды: воблакі, туман, прыцемкі, світанак. Любіць мастак свой край і ў ясны летні дзень, і ў дажджлівую восень, і падчас першых вясенніх ручайкоў, і калі прырода спіць пад покрывам снягоў "Пачатак вясны" (1961), "Першыя ўсходы" (1967), "Лірычны пейзаж" (1970), "Радасны дзень. Сад" (1974), "Апошняе лісце" (1977), "Масток" (1984), "Чэрвень" (1985), "Залатая восень" (1990), "Нацюрморт. Кветкі" (1995)

Аддаючы перавагу пейзажам, мастак не абмяжоўваецца гэтым жанрам. Яшчэ ў часы адпачынку паміж баямі, калі быў на фронце, пісаў ён партрэты сяброў: "Партрэт партызана", "Партрэт партызана Бондара", "Партрэт дзяўчыны".

Вобразы выпрашаны стрымана і лаканічна. У ранні перыяд ім напісаны партрэты В. Бялыніцкага-Бірулі (1946), А. Бондар (1945), Л. Даватара (1945), жонкі (1952—55), азербайджанскай мастачкі Марал Ханум (1956), спявачкі Н. Гусельнікавай (1957). Цікавы партрэт старой жанчыны. У свой час у газеце "Звязда" В. Карамазаў напісаў такія радкі пра гэты партрэт "Твар нібыта высечаны з магутнай пароды, высечаны надзвычай проста, але з таго матэрыялу, у якім жыве сама філасофія працы і подзвігу, вопыту і мары, векавая мудрасць самой зямлі. Вялікія сінія вочы глядзяць не з глыбокіх вачніц, а з глыбіні вякоў, а над ілбом — не пасма сівых валасоў, а навісь самога лёсу, нялёгкага, але пераможнага".

Да ліку кампазіцыйных жанравых палотнаў можна аднесці карціны "Хлопчык, які пляце кошык" (1946), "Першая песенька" (1957). Апошняя мела вялікі поспех на Рэспубліканскай, а затым на Усесаюзнай выставах. Палатно "Поўдзень на сенакосе" (1960) прасякнута любоўю да чалавека. Лёгкасць і чысціня таноў, яркасць палітры выклікаюць свежае ўражанне, радуюць вока сваёй шматкаляровай гамай, паэтычнасцю.



*Антон Бархаткоў*

Свае творы А. Бархаткоў піша лёгка і з натхненнем. Лірычнай прыўзнятасці і песеннага настрою сваіх карцін мастак дамагаецца чыста пластычнымі сродкамі, не абмяжоўваецца паэтычнасцю матыву, а падкрэслівае яго і кампазіцыяй, і каларытам. "Я бясконца люблю прыроду, — гаворыць Антон Стафанавіч, — у ёй знаходжу гармонію, незвычайную паэзію і патаемныя чалавечыя пачуцці. І менавіта сугучча гэтых пачуццяў з пластычным зместам карціны — галоўная, на мой погляд, задача мастака. Таму я доўга шукаю тэмы для сваіх палотнаў і толькі тады пачынаю пісаць, калі ўбачаны мною матыў усхвалюе да глыбіні душы. І адчуваю задавальненне і радасць, калі ўдаецца данесці гэтую ўсхваляванасць і прыгажосць роднага краю". Відаць, парады Бялыніцкага-Бірулі, яго школа, шматлікія гутаркі пра пейзаж знайшлі свой адбітак у творчасці А. Бархаткова. Не лішне будзе тут працытаваць ліст В. Бялыніцкага-Бірулі да А. Бархаткова: "Дарагі мой зямляк Антон. З твайго пісьма я зразумеў, што ты спрабуеш і імкнешся вырашыць пытанне, якое ўсё жыццё хвалявала мяне і маіх таварышаў-мастакоў, маіх настаўнікаў. Я зараз шмат працую над праблемай, што такое пейзаж-эцюд, пейзаж-эскіз. Зразумела, нам лягчэй будзе разабрацца ў гэтым пытанні, калі мы звернемся да мастакоў, якіх ужо даўно няма, але іх спадчына — у карцінах, эцюдах, эскізах, пейзажах, якія яшчэ і зараз упрыгожваюць наша мастацтва... З даўніх гадоў я назаўсёды запомніў словы вялікага французскага мастака Каро: "Калі мастаку патрэбна атрымаць апошняе ад прыроды слова, ён павінен быць ёю зачараваны", пра гэта нам, усім мастакам, патрэбна памятаць, бо гэта святая праўда".

Гэтыя словы — наказ Антону Бархаткову. Ён захоўвае традыцыі рэалістычнага жывапісу, перадаючы веды моладзі, сваім сынам, таксама жывапісцам.

**Галіна ФАТЫХАВА**



*"Вёска". Вітольд Бархаткоў*



*"Пахмурны дзень". Ігар Бархаткоў*

# У "Сшытку" — пра унію ды Віцебск

Вялікая спакуса — пераказаць усе матэрыялы, сабраныя пад вокладкай другога нумара гістарычнага навукова-папулярнага часопіса "Віцебскі сшытак". Бо выданне ж не масавае (тыраж 1000 экз.), а змест яго ны варты папулярызацыі. Каб прывучаліся добрыя, цярплівыя, даверлівыя людзі нашы да ўласнай жа гісторыі, якая не сто і нават не дзвесце гадоў таму пачалася; каб шанавалі яе, абаранялі ад несумленных міфатворцаў... Урэшце, самое гэтае выданне можна трактаваць як акцыю ў абарону беларускай гісторыі: нумар прысвечаны 400-годдзю Берасцейскай уніі (1596—1996) ды 400-годдзю надання гораду Віцебску магдэбургскага права (1597—1997).

Артыкул знанага гісторыка Валянціна Грыцкевіча "Міф пра унію" адкрывае часопіс і, нібыта паўнавартасная уверцюра да гэтага шматгалоснага, шматтэмнага друкаванага палатна, змяшчае ў сабе лейтматывы, "лейтдумкі" рознабаковага абгаварэння праблемы "Беларусь і грэка-каталіцкая царкоўная унія 1596—1839 г.г."

"Царкоўная унія была працягам шляху, які пачаўся даўней прадстаўнікамі культуры Беларусі "Залатога" XVI стагоддзя, што жадалі аб'яднаць традыцыі візантыйскай царквы з Заходняю, развіваць натуральную культурную еднасць Беларусі як з Усходняй, так і з Заходняй Еўропай. Гэты працэс адбываўся ў агульным рэчышчы, у якім развівалася беларуская культура", — піша В. Грыцкевіч. І распрацоўваючы "лейтматывы уверцюры", часопіс прапануе нашай увазе захапляючыя публікацыі пра уніяцкую архітэктуру, інтэр'ер грэка-каталіцкага храма, музычнае мастацтва уніяцкай царквы і г.д. У ёмістым "Сшытку", ладная частка якога прысвячаецца Віцебску старажытнаму, яго не надта даўнім традыцыям і зусім актуальным з'явам, хронікі мастацкага жыцця, няма, напэўна, ні радка, які б не працаваў на ідэю адраджэння і ўмацавання годнай беларускай свядомасці, ідэю аднаўлення гістарычных духоўных каштоўнасцяў на самым шырокім, папулярным узроўні.

Знайсці, пагартаць, тым больш — прыдбаць новы беларускі часопіс пад назваю "Віцебскі сшытак" зможа далёка не кожны зацікаўлены чытач. Застаецца толькі цешыць сябе думкай, што гэта — заканамерна, бо сапраўдныя каштоўнасці — як рэдкая прыродная з'ява, сустрэцца з якой выпадае не многім. У наш час важна хаця б проста ведаць, што гэтыя каштоўнасці ёсць і ёсць людзі, якія іх захоўваюць, абараняюць, умеюць пра іх распавесці. Хто мае вушы — пачуе...

**С. Б.**

Ніл ГІЛЕВІЧ

# АХРЭМ І ТОДАР



КАМЕДЫЯ

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:**
**Ахрэм** — сусед Тодара
**Тодар** — сусед Ахрэма
**Зося** — жонка Тодара

*На сцэне два раздзеленыя сцяной сумежныя пакоі. На заднім плане, справа і злева, двое дзвярэй — у сцяне, за якою знаходзіцца агульная для суседзяў лесвічная пляцоўка. У пакоі злева сядзіць на крэсле сярэдніх гадоў мужчына і глядзіць тэлевізар. Гэта — Ахрэм. У пакоі справа, таксама перад тэлевізарам, сядзіць на крэсле Тодар, на выгляд — равеснік Ахрэма. Адзін і другі тэлевізары да публікі павернуты задняй сценкай, крыху наўскос, экранаў з залы не бачна.*

**Ахрэм** (*падскокваючы з крэсла, размахваючы рукамі)*: Ай-я-я-я-яй, мазіла! Які мазіла! У такой пазіцыі не забіць гол! Ды тут жа любы хлапчук з двара не прамазаў бы!

**Тодар** *(з грымасай страшнага здзіўлення на твары)*: Ого! Вось гэта кіно! Такога я, здаецца, зроду не бачыў!

**Ахрэм** *(крычыць)*: Як ты бяжыш, паразіт? Ты што — з кілою на поле выйшаў? Як вы ўсе бегаеце, цельпукі! Вам ужо два галы ўсмалілі, а вы — як тручаныя мухі на талерцы! (*Са злосцю выдыхае паветра).* Фу! Сыны мае там, у бабулі, сперажываюцца ўшчэнт. І канікулы ім не ў радасць будуць. *(Схамянуўшыся).* А ці глядзіць гэты матч Тодар? Можа, забыўся? Праверу, а то будзе крыўдаваць, што не напомніў. (*Выходзіць і праз секунду-другую прыадчыняе дзверы ў пакоі справа).* Тодар! Ты футбол глядзіш?

**Тодар** *(уподбег кідаецца да дзвярэй)*: Здароў, Ахрэм! Скарэй праходзь і падсаджвайся, такія, брат, любошчы паказваюць, такі секс, што... Шкада, што Зосі няма дома, хоць бы павучылася пад старасць...

**Ахрэм:** Дык ты што — футбола не глядзіш? Цяпер жа футбол ідзе!

**Тодар**: А ліха з ім, футболам! Тут, брат, такое, што не адарвацца.

**Ахрэм** *(расчаравана)*: Дзівак! Дагэтуль сексу не нагледзеўся. Прамяняць футбол на секс! *(Махнуў пагардліва рукою і шпарка вяртаецца ў свой пакой, зноў сочыць за матчам).*

Вяртаецца на сваё крэсла і Тодар. Нейкі час глядзяць моўчкі. Потым — адзін і другі, з выразам недаўмення на твары, падхопліваюцца з крэслаў.

**Тодар:** Што такое? Пробка выскачыла? Ці адключылі ток? *(Выходзіць праверыць пробкі).*

**Ахрэм**: Што за ерундовіна? Пробкі? Ці аварыя на лініі? *(Бяжыць да Тодара).* Тодар, у цябе святло ёсць? У мяне — раптам не стала.

**Тодар**: Прапала і ў мяне, халерачка! На самым цікавым месцы хліпнула: толькі да пасцелі дайшло...

**Ахрэм**: Во ліха матары, га! Пайду, можа, хоць па радыё даслухаю, можа, рэпартаж перадаюць. (*Вяртаецца ў сваю кватэру, бярэ прыёмнік, шукае патрэбную хвалю).*

**Тодар**: Тэ-э-экс! Кіно прапала, займуся рамонтам крэсла, Зося ўжо галаву адурыла напамінаннямі. *(Выходзіць і тут жа вяртаецца з малатком у руках, аглядае крэсла).*

**Ахрэм** *(Хвалю з рэпартажам не знаходзіць, са злосцю выключае і адсоўвае ад сябе прыёмнік):* І тут асечка! У такой сітуацыі адно і застаецца, каб раздабыць бутэліцу і закінуць лыч. У хаце — ні кроплі, ні расінкі. Перарыў усе Дуніны схові́шчы — ні грама! Ужо нават і на лякарства, на кампрэс сабе не трымае, ведае, што ўсё роўна знайду. Што ж прыдумаць? Грошай няма і немаведама калі будуць. Значыць... значыць усе надзеі на Тодара. Трэба яго падбіць на гэтую ідэю. У яго — ё-ёсць. Ягоная Зося — кабета запаслівая. *(Трохі вагаецца, думае).* Давай, Ахрамец! — як казаў мне, бывала, дзядзька Валодзя. *(Ідзе да Тодара, адчыняе дзверы, гукае).* Тодар! Прабач, што адрываю ад важнай справы, але я з вялікай просьбай да цябе.

**Тодар:** Якая тут важная справа. Рассохлася во — дык рашыў падмацаваць трохі... Пакуль зусім не развалілася. *(Глядзіць на Ахрэма).*

**Ахрэм:** Выручай, Тодзік, нявыкрутка ў мяне. Прыйшоў браценік праведаць, а ў хаце — хоць шаром пакаці. Ні кроплі! Пазыч паўлітэрку! З палучкі адразу ж аддам. Як заўсёды.

**Тодар:** А ты ўпэўнены, што ў мяне ёсць?

**Ахрэм:** Тодар Піліпавіч! Каб не быў упэўнены — я б і носу не сунуў! Упэўнены, браток, упэўнены! Каб у цябе ды не было ў запасе — такога выпадку я не помню. Нават і ўявіць не магу.

**Тодар:** Колькі разоў я папраўляў цябе: не ў мяне, а ў Зосі. У мяне ніколі нічога няма. Калі ёсць — дык толькі ў Зосіным буфеціку. Пайду зірну, можа, і знойдзецца. *(Выходзіць. Ахрэм горача пацірае рукі і прытанцоўвае. Вяртаецца Тодар. З бутэлькай).* Паўлітровай няма, толькі на семсот, вялікая...

**Ахрэм**: Дык яшчэ і лепей! Бо што на дваіх паўкіля, як палякі кажуць. Ай, малайчына твая Зося, ай, малайчына!

**Тодар**: Май на ўвазе: толькі дзеля браценіка. Каб табе самому — і не падумаў бы! Хоць і люблю цябе, заразу. *(Шырока ўсміхаецца і падае Ахрэму бутэльку).* Сам не надта старайся, больш госцю налівай. А то набярэшся — Дуня, вярнуўшыся, рэбры палічыць качалкай.

**Ахрэм**: Ты што? Сябра! Калі гэта было, каб я набраўся? Колькі разоў мы з табой сцёбалі? Пяцьсот? Ці тысячу? І ты бачыў мяне хоць раз без памяці?.. Ну, але добра, буду браценіку наліваць больш, а сабе менш, раз ты гэтак хочаш. Дзякуй за выручку! (*Выходзіць.*)

**Тодар** (*сам сабе, з іранічнай ухмылкай):* Мусіць, там браценік такі, як пень гарэў, а чорт тылак грэў. Адправіў Дуню з сынамі да цешчы, дык і браценік аб'явіўся. (*Зноў бярэцца за крэсла).*

Тым часам Ахрэм у сваім пакоі ставіць на стол бутэльку, прыносіць дзве цёмныя шклянкі і сякую-такую закуску. На твары ў яго радасць, задавальненне і хітрая ўсмешка.

**Ахрэм**: Вось і ўсё гатова, можна клікаць браценіка. *(Выходзіць і адчыняе дзверы да Тодара).* Тодзік! Паслухай, мне прыйшла геніяльная ідэя. Кідай ты гэту ламачыну і хадзі да мяне, я цябе пазнаёмлю з браценікам. Ну і чарчыну гакнеш з такой нагоды, хоць і пазычаную. Хадзем-хадзем, не задумвайся!

**Тодар**: Ды пачакай ты! Які ты скоры! Адразу — хадзем! Можа, чалавек зайшоў, каб сам-насам, без лішніх вушэй, пагаварыць з табою, а я буду тырчэць пры гэтым...

**Ахрэм**: Ды ніякіх у нас сакрэтаў! Слухай, гэта такі цудоўны чалавек, мой браценік, што ты расплывешся ад захаплення. Розуму — на дзесяцярых гэткіх, як я, хапіла б! А душа — братка ты мой! Не чалавек, а ком золата! А язык, а які язык мае! Востры, як брытва! Аднымі мудрасцямі рэжа. Так што — давай, браток, хадзем і ніякіх адгаворак!

**Тодар**: Самы раз мне і з такім разумным і з такім вострым на язык гаварыць. Ты ж ведаеш, якія ў мяне глузды ў каробцы і якая суконка ў роце. Адно канфузу нараблю табе перад ім.

**Ахрэм** *(ледзь стрымліваючы смех):* Ды ты што, сябра? Ніякага канфузу! Ты палюбіш яго адразу і навек, як, не раўнуючы, я цябе люблю. Давай, Тодзічак, давай! Не цырымонься! Хадзем!

**Тодар** *(кладзе неахвотна малаток на крэсла, чухае патыліцу):* А адкуль ён у цябе гэткі ўзяўся, браценік твой? Ты ніколі мне не казаў пра яго. Здалёк аднекуль прыехаў?

**Ахрэм**: Здалёку, брат. У-у-у-у, здалёку! З краю свету, лічы. Але хопіць роспытаў! Хадзем! Вытыхаюцца ж кроплі свянцоныя!

**Тодар**: Добра. Калі ўжо гэтак цягнеш і гэтак хваліш браценіка... Ідзі. Я спаласну рукі і праз хвіліну буду.

Ахрэм вяртаецца ў свой пакой. Тодар выходзіць.

**Ахрэм** *(сам сабе)*: Трэба трэцяе крэсла прыставіць, каб не адразу расшалопаў, што накрыта на дваіх. (*Прыстаўляе крэсла, раскладае на сподкі хлеб, скручвае каўпачок на бутэльцы).*

Вяртаецца ў пакой Тодар, у белай кашулі, у святочным джэмперы, пад гальштукам. Азірае сябе, папраўляе рамень на поясе.

**Тодар**: Вось так будзе лепей. Можа, сапраўды з якой Амэрыкі прыехаў, гэны браценік, то хай не думае, што мы тут галадранцы няшчасныя. *(Выходзіць і ідзе да Ахрэма).* Дзень добры ў хату!

**Ахрэм**: Здароў, браток, здароў! Праходзь і адразу за стол, бо я ўжо тут сцярпеўся, увесь слінаю сышоў. *(Заўважае, што Тодар паспеў пераапрануцца).* Слухай, ты што — нават падкасцюміўся? Во, брат, культура заела! Як на спатканне з каханкай усё роўна! Арыстакрат, ідрыт твае качарэжкі!

**Тодар** *(трохі ніякавата)*: Ды якое там... Зрэшты, у госці ж прыйшоў. *(Азірае пакой, шукае вачыма "браценіка", запытальна глядзіць на Ахрэма).*

**Ахрэм** *(як бы не бачачы позірку Тодара):* Сядай, браток, сядай, вось тут, калі ласка! *(Усаджвае Тодара, сядае сам і хапаецца за бутэльку).*

**Тодар** *(здзіўлена, прыцішаным голасам):* Хвілінку... Ты што — пачынаць без віноўніка застолля? Нядобра ж неяк!

**Ахрэм** *(бестурботна, нават весела):* Усё добра, браток, усё добра! *(Лье гарэлку Тодару і сабе).* Як і дамаўляліся — табе трохі больш, а мне менш. Давай!

**Тодар** *(насцеражыўшыся)*: Калі гэта мы... дамаўляліся?

**Ахрэм**: Ды толькі што! Ты сам строга наказаў мне, каб я не шчыраваў, а браценіку наліваў болей. Дык я і наліваю.

Толькі цяпер Тодар заўважыў, што на стале ўсяго два прыборы. І да яго "дайшло". Розыгрыш! Глядзіць на Ахрэма, ківае ў бакі галавой і красамоўна варушыць губамі; што ён шэпча — можна здагадацца. Ахрэм больш не стрымаў смеху, пырснуў і разрагатаўся на ўвесь пакой. Тодар моўчкі падняўся і злосна піхнуў ад сябе крэсла.

**Тодар**: От гэтага я ўжо табе не дарую. Такія ўчыняць жарты са мною? Ну не!.. *(Паварочваецца і ідзе да дзвярэй).*

**Ахрэм** *(даганяе і абхоплівае за плечы, усё яшчэ рагочучы):* Ды ты што, Тодзік? Усур'ёз пакрыўдзіўся? Здурнеў! Ды ты пахвалі мяне за гэткі жарт, а не крыўдзіся! Хадзем, ужо ж наліта!

**Тодар** *(вырываючыся з абшчарэпаў)*: Пусці! Ідзі і пі сам, адзін.

**Ахрэм**: Тодзік, ну ты дальбог здурнеў! Ну каб я не прыдумаў "браценіка" — ты ж бы не пазычыў мне бутэліцу. А каб і пазычыў — дык без важнай прычыны, проста так, не прыйшоў бы. Хадзем, браток, хадзем, вытыхаецца ж, родненькая! *(Вядзе Тодара да стала, усаджвае, садзіцца сам).* Давай! За дружбу нашу суседскую, за братэрскую нашу!

**Тодар**: Пачакай, сябра, так не пойдзе. Гэта ж ты "браценіку" болей наліваў, а са мною — хай будзе пароўну. *(Адлівае трохі са сваёй шклянкі ў Ахрэмаву).* Во цяпер — давай!

П'юць, крэхтаюць, закусваюць.

**Ахрэм**: Я вось думаю, Тодзік, якое гэта шчасце нам прываліла, што мы калісьці пасяліліся побач, у адным пад'ездзе і на адной пляцоўцы. Я цяпер нават уявіць не магу, як бы мы з Дуняй жылі тут, калі б за сцяной не было цябе з Зосяй.

**Тодар**: Што праўда, то праўда. Мусіць, быў Бог над намі; гэта, мусіць, ён так распарадзіўся...

**Ахрэм**: Як я цяпер разумею, што значыць мець цудоўных суседзяў! Гэта ж колькі жывем — і ні разу не пасварыліся! Ні мы з табой, ні Дуня з Зосяй. Нават хмарка не прабегла між намі!

**Тодар:** Што праўда, то праўда. Яшчэ не было такога.

**Ахрэм:** А выгады якія! Выгады! Толькі падумай, брат! Дзверы — і мы, і вы — нават на зашчэпку не бяром. Заходзім адзін да аднаго і без званка і без стуку — як у сваю хату. Калі трэба — дык па дзесяць разоў у дзень!

**Тодар**: Бывае і паболей. Гэта ты не лічыш жонак і дзяцей, а колькі яны сюды-туды швэндаюць.

**Ахрэм**: Го-о-о-о! Калі ўлічыць і іхняе швэнданне — дык братка ты мой! І часцей за ўсё мы ж не проста так швэндаем, а па справе, па патрэбе. Скажам, забыўся я купіць хлеба на вячэру — іду і бяру ў вас хлеба. Кончылася, па недагляду, соль — іду і пазычаю солі...

**Тодар**: Кончылася гарэлка — іду і пазычаю, хоць і з абманам...

**Ахрэм** *(гучна зарагатаўшы)*: А, каб ты быў здароў, каб ты!.. І гарэлку, вядома! А як жа! Праўда, тут — без узаемнасці. Адно я пазычаць заходжу, а ты... Як ты яе трымаеш, што яна ў цябе не зводзіцца — дзіўлюся! Давай за гэта самае, за дружбу нашу яшчэ па адной, а то загаварыліся і на справу забыліся.

**Тодар**: Тут трэба нашым жонкам аддаць належнае. Ад іх усё залежыць. Суседзі-мужыкі сходзяцца лёгка, а вось суседкі-кабеткі — ім цяжэй дружбу завесці. Нашы, дзякаваць Богу, сышліся. Ні табе плётак, ні абгавораў, шчыра сябруюць, з павагаю.

**Ахрэм**: А дзеці? А вазьмі дзяцей! Ды яны ж як родныя браты і сёстры! Як адных бацькоў усё роўна! Дарэчы, калі ўжо загаварылі пра дзяцей: ты нічога такога не прыкмеціў? Га?..

**Тодар** *(паціснуў плячыма)*: Нічога. А што ты маеш на ўвазе?

**Ахрэм**: А тое, што мой Валік, пamойму, на тваю Алесю зазіраецца.

**Тодар** *(уражаны, памаўчаўшы)*: Не ведаю, не заўважаў такога. Хоць... усё можа быць. Дзела маладое, як то кажуць...

**Ахрэм**: Во-во! Іменна! Дзела, брат, маладое. Скажу табе, што нам з Дуняхай твая Алеся — ну вельмі па душы! Каб нам ды яшчэ і параднііцца па суседстве! — во гэта было б здорава! *(Налівае ў шклянкі).* Давай! Хай і гэта збудзецца паміж намі. *(П'е).*

**Тодар** *(без энтузіязму)*: За дзяцей. Каб здаровымі былі. *(П'е).*

**Ахрэм**: Давай, брат, пацалуемся, га? Па-брацку! *(Падхопліваецца).* Прама цераз стол! Давай!

**Тодар** *(іранічна ўхмыляючыся)*: Як Брэжнеў з Чарненкам?

**Ахрэм**: Нават гарачэй! Як Францавіч са Сцяпанавічам! *(Са смакам цалуе Тодара ў губы).* А ты ведаеш, Тодзік, за што я цябе люблю?

**Тодар**: Ну ты ж сказаў, як запрашаў мяне сюды: і што розуму ў мяне на дзесяцярых, і душа залатая, і на язык востры...

**Ахрэм** *(зарагатаўшы)*: Га, каб ты быў здароў, каб ты! Усё правільна, між іншым. Можа, хіба наконт языка трохі перабольшыў. А так — усё правільна! Але не гэта галоўнае. Галоўнае — што ты мне верыш. Давяраеш мне. Зразумеў? Вось што галоўнае!

**Тодар**: Ну дык а як? Сябраваць і... не давяраць? Калі ў нас усё, як у добрай сям'і, дык і давер павінен быць...

**Ахрэм** *(пафасна):* Во! Ты сказаў залатыя словы! "Як у добрай сям'і"! Мы жывем як адна добрая, дружная сям'я. У нас амаль усё агульнае! *(На імгненне як бы задумаўся і трэснуў сабе па лбе даланёю).* Слу-у-у-хай, Тодзік! Мне прыйшла геніяльная ідэя! Ай-яй-яй, якая цудоўная ідэя! Як гэта мы раней не дадумаліся! Ну, брат, настаўляй вушы! Толькі давай спярша даканаем гэту родненькую. *(Разлівае астатак гарэлкі, выпіваюць).* Дык вось. Жывем мы, як адна сям'я — так? Так ці не?

**Тодар** *(трохі насцярожана)*: Ну... бадай што так... І зарплата ў нас амаль аднолькавая...

**Ахрэм**: Жыццё аднаго без другога і ўявіць не можам! Так? *(Уставіўся ў Тодара).* Ты кажы: так ці не?

**Тодар** *(не здагадваючыся, куды той хіліць):* Ну, вядома... Прывыклі, здружыліся... Хацелася б, каб назаўсёды...

**Ахрэм** *(перагнуўшыся цераз стол):* Дык вось! Скажы: нашто нам гэта сцяна? *(Паказвае кіўком галавы і рукою на сцяну).* Нашто яна тут нас раздзяляе? Трэба неадкладна яе знесці адсюль — каб і напаміну не было! Зразумеў? *(Рагоча).* Во — ідэя, ідрыт твае качарэжкі!

**Тодар** *(разгублена):* Нешта я... не кумекаю... Як — знесці?

**Ахрэм**: Як? Разбурыць і выкінуць як тую берлінскую ў Германіі! Выламім яе адгэтуль к чорту і знясем на сметнік! Каб і духу не засталося! Га? Здорава?

**Тодар**: І што тады... будзе?

(Працяг на стар. 14—15)

## Тэатр імя Івана Мележа



**Ужо больш за пяць гадоў былы народны тэатр у Мазыры працуе на прафесійнай аснове і носіць імя свайго земляка Івана Мележа. У рэпертуары мазырскіх акцёраў больш за дзесятак спектакляў, значную частку якіх складаюць дзіцячыя пастаноўкі. Адна з апошніх — "Беласнежка і сем гномаў", у якой заняты маладыя акцёры, нядаўнія выпускнікі народнага тэатра-студыі "Комікс" Паліна Баранская і Вадзім Дуброў.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Па п'есе маладога драматурга



**Група Брэсцкага тэатра драмы і музыкі паказала нядаўна прэм'еру спектакля па п'есе маладога драматурга Наталлі Марчук "Качка Гапа". Зробленая ў стылі беларускіх народных казак, п'еса прапаведуе дабрату, дружбу. У спектаклі заняты як вопытныя акцёры, так і моладзь.**

*На здымку: сцэна з новага дзіцячага спектакля.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## У гасцёўні Галубка

**У Мінску ў гасцёўні Галубка адбылося адкрыццё выставы "Уладары старажытнай Беларусі", на якой прадстаўлены 54 алейныя і графічныя творы з калекцыі Анатоля Белага. На выставе можна ўбачыць партрэты полацкіх князёў і Вялікага княства Літоўскага, а таксама — выдатнейшых канцлераў і гетманаў ВКЛ.**

**Перад прысутнымі выступілі А. Грыцкевіч, Г. Штыхаў, Р. Барадулін, якія ўспрынялі адкрыццё выставы "Уладары старажытнай Беларусі" як значную падзею ў культурным і грамадскім жыцці нашай сталіцы.**

**Кампазітар Ігар Лучанок выканаў свае песні на словы Р. Барадуліна "Трэба дома бываць часцей" і Я. Купалы "Спадчына".**

**На адкрыцці выставы прысутнічаў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц.**

**Н. К.**

## "Белая амфара-97"



**Пяць дзён у Віцебску праходзілі І Рэспубліканскі конкурс мадэльераў-дызайнераў адзення і абутку "Белая амфара-97" і І Рэспубліканскі конкурс манекеншчыц агенцтва мадэляў. Буйной падзеяй "Белай амфары" стала выстава-продаж вырабаў лепшых прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці рэспублікі.**

*На здымку: прэзентацыя вясельных сукенак мінскай фірмы "Юнона".*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# АХРЭМ І ТОДАР

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

**Ахрэм**: Як — што? Аб'ядваем жылую плошчу! Зробім агульнай тэрыторыю? У выніку — атрымаем страшэнны выйгрыш. І ты, і я. Асабліва ты, бо ў цябе кватэра — два пакоі, а ў мяне — чатыры. Ты будзеш карыстацца ўсёй плошчай — і сваёй і маёю! Уяўляеш?

**Тодар**: І што — кожны будзе хадзіць па абедзвюх кватэрах, як па адной? Куды захоча?

**Ахрэм**: Ну вядома! А што? Гэта ж здорава! Трэба — дык адразу, не пераходзячы лесвічнай пляцоўкі, у хатніх пантофлях ці нават басяком, ты валіш да мяне, я — да цябе. Любата! Што цябе бянтэжыць?

**Тодар**: Нічога не бянтэжыць, але... Я, гэта, прыкідваю... У мяне ўсяго два пакоі, але ж і дзіця ўсяго адно. А ў цябе ж, дзякаваць Богу, чацвёра, і ўсе хлопцы!

**Ахрэм**: Дык і што? Стане свабадней і тваёй дачцэ і маім рыштантам. Твая — сюды, мае — туды, сюды — туды, туды — сюды! Гэта ж выдатна! Поўная свабода руху! Абшчэнне без ніякіх перагародак! Яны і цяпер як родныя, а станусь яшчэ раднейшымі. Браток — не задумвайся! Давай! Пакуль няма жонак — за работу! Абрынем яе к чорту і пыл падмяцем, пакуль Дуня і Зося вернуцца! *(Хоча падняцца).*

**Тодар**: Пачакай ты!.. Скарэй ужо і за работу... Я хачу раскумекаць, што ж у нас выйдзе. Што ў суме на адзін пакой стане менш? Так? Гэты твой і гэны мой аб'яднаем — і стане адзін?

**Ахрэм**: Адзін, але які! Якая агульная для ўсіх зала будзе! Колькі прастору, ідрыт твае качарэжкі! Калі надарыцца ці табе ці мне гасцей сабраць — дык ты ж уяўляеш! Не будзем душыцца-ціскацца, як цяпер, што не павярнуцца. Яшчэ і для танцаў месца хопіць! Як у рэстаране!

**Тодар** *(песімістычна)*: Якія танцы! Тут жа перакрыццi нетрывалыя. *(Падымае вочы ўгору).* Скажы мне, суседзе, а хто тады з нас тут гаспадаром будзе? Як аб'яднаемся...

**Ахрэм** *(паблажліва)*: Тодар Піліпавіч! Пра што гаворка! Ты — гаспадар на сваёй тэрыторыі, я — на сваёй. Як і дагэтуль.

**Тодар**: А на гэтай, на агульнай, што аб'яднаем?

**Ахрэм**: А на гэтай будзем разам гаспадарамі — і мы з табою, і Дуняха з Зосяй. Яна ж агульная для нас будзе. Супольна і карыстацца будзем. Па вечарах — разам кавачку папіваць, разам тэлевізар глядзець. Гэта ж здорава! Дарэчы, нам не будзе патрэбы мець два тэлевізары. Аднаго хопіць. А другі *(падміргвае)* мы і загнаць можам.

**Тодар**: А калі вы ці мы захочам нейкую іншую праграму паглядзець? От як сёння было: табе дай футбол, а мяне — кіно захапіла.

**Ахрэм**: Ну, брат, на гэта ёсць агульнае для ўсяго свету правіла. Будзем галасаваць! Большасцю галасоў вырашаць будзем! Дэмакратычна! Тут ужо *(разводзіць рукамі)* нічога іншага мы не прыдумаем.

**Тодар** *(ківае галавой)*: Добра, яно сабе... Я дэмакратыю паважаю. Значыць, у зале мы гэта самае... А дзе, скажы, мая Алеся спаць будзе? Гэты ж пакой, за сцяною, лічыцца яе, мы з Зосяй — у тым, у меншым. А тады як будзе?

**Ахрэм**: Там жа і будзе спаць! А што?

**Тодар**: А ў цябе тут, у гэтым пакоі, хто спіць?

**Ахрэм**: Валік! Гэта яго пакой. Ён жа, лічы, кавалер ужо!

**Тодар**: А тады дзе ён будзе спаць?

**Ахрэм**: Тут і будзе! А што?

**Тодар**: Вось бачыш... Не атрымліваецца.... Двое маладых у адным пакоі... Сам разумееш.

**Ахрэм** *(рагоча)*: Вось чаго ты баішся!.. Слухай, браток! Калі нешта нейкае — дык хутчэй параднімся і толькі! Будзем не толькі сябрамі, а і сватамі. Тут жа ў вялікай зале і вясельны банкет справім. І адвядзем яе для маладых, хай тут і жывуць. Тут і нашы агульныя ўнукі паявяцца. Здорава! А мы, старыя, разам іх глядзець будзем. Уяўляеш? Дзве бабулі і два дзядулі кожны дзень пабач з унукамі! У адной фактычна кватэры. Бацькі з аднаго боку, бацькі з другога боку, маладая сям'я пасярод! Сямейная камуна! Брато-ок! Хопіць дыскутаваць! Ці ты яшчэ не пераканаўся?

**Тодар**: Яно то, можа, і няблага было б... Асабліва наконт унукаў. Каб разам іх тут, у дзядоўскім акружэнні... Але ж у цябе, апроч Валіка, яшчэ трое, як ты кажаш, рыштантаў...

**Ахрэм**: Дык і што? Баішся, што мае рыштанты, прыляцеўшы галодныя з вуліцы, зробяць набег на тваю кухню? Схопяць па кавалку хлеба? Пашастаюць у халадзільніку?

**Тодар**: Ды мне хлеба не шкада, схопяць — дык хай ядуць на здароўе. Ты ж і мяне і маю Зосю ведаеш...

**Ахрэм**: Дык а чаго баішся? Можа, думаеш, будуць акупіраваць твой туалет уранку? Захопяць, а ты будзеш у чарзе стаяць? Дык гэтага не будзе! Яны ў мяне не так выхаваны, браток! Наадварот, кажу табе ўжо зараз: карыстайцеся, калі ласка, і маім туалетам, і душам. Калі ласка! Усё па-сямейнаму! Усё па-брацку!.. Між іншым, калі па шчырасці, то пасля аб'яднання нам два туалеты не патрэбны. І аднаго хопіць. А другі маглі б перарабіць на кладоўку для ўсякага начыння... Га?

**Тодар** *(заківаў адмоўна галавой)*: Не, туалеты ўсё-такі... туалеты лепш хай два будуць. Знаеш, калі, не дай Бог, аварыйная сітуацыя, дык пакуль праз чатыры пакоі дабяжыш... Туалеты павінны быць асобныя.

**Ахрэм**: Ну, асобныя — дык асобныя! Я не настойваю. Добра! Цяпер яшчэ адзін прыклад — у карысць аб'яднання нашых плошчаў. Уяві, што ў тваю кватэру забраўся злодзей, рабаўнік. Пазваніў у дзверы, ніхто не адказаў, значыць, нікога няма дома. Раз — і залез! А таго не ведае, што ў суседняй кватэры я сяджу і што гэтай сцяны няма. Толькі ён пачаў арудаваць, пачаў шастаць — а я тут як тут!

**Тодар** *(падрабляючыся пад інтанацыю Ахрэма)*: Дык я — жых праз свае дзверы на пляцоўку, ды як дам лататы па лесвіцы — толькі ён мяне і бачыў! А калі б і дагнаў мяне — то ўжо цэлым бы з маіх рук не выйшаў!

**Ахрэм** *(незадаволена, хмура)*: Тодар Піліпавіч! Ты мне пачынаеш не падабацца. Рашаецца, можна сказаць, лёс нашай дружбы, нашага суседства, нашай будучыні, а ты — на хаханькі пераводзіш!

**Тодар**: Га, бач! Не па нутру! А як сам разыграў мяне з "брацені кам"?

**Ахрэм**: Не, ну ты разумееш! Ты разумееш, што мы зараз павінны з табой зрабіць? Гістарычную акцыю здзейсніць! А ты — жарцікі!

**Тодар**: Ну не кіпяціся, не кіпяціся... Я ж не супроць увогуле... Сапраўды, пры нашай дружбе, можа, гэта сцяна і не патрэбна тут. Толькі вось думаю... а што людзі скажуць? Ці не стануць смяяцца з нас?

**Ахрэм** *(адчуўшы, што Тодар паддаецца)*: Смяяцца? Ды ты што? Гэта геніяльны эксперымент! Убачыш, які рэзананс будзе! Як пачнуць пра нас пісаць і гаварыць! Ды браць з нас прыклад! У гісторыю, брат, увойдзем! Давай, падымайся! І Бог у помач!

**Тодар** *(выходзячы з-за стала)*: А як ты думаеш яе разбураць? Яна ж не з цэглы, каб праламаць і адбіваць кавалкамі...

**Ахрэм**: А мы яе абернем! Упромся, два такія здараўцы, паднацiснем — і яна пляснe! Гэта ж перагародка! Яна чуць ліпіць у пазах.

**Тодар** *(аглядае сцяну)*: А што гэта ў цябе за такі здаравенны цвік тырчыць? З такой шырокай плешкай. Для чаго ён тут?

**Ахрэм**: Карціна вісела некалі, дык унізе рама апіралася на гэты цвік. Зараз я яго выцягну, каб рук не абадраць, бо якраз жа ў цэнтры.

**Тодар**: А што яго выдзіраць, дарэмна мучыцца? Заганяй па плешку дый толькі. Усё адно ж сцяну выкідаць будзем.

**Ахрэм**: Правільна! Вось што значыць разумная галава на плячах! Мамэнт! — вазьму малаток у скрыныц. *(Выходзіць).*

**Тодар** *(хрысціцца)*: Божа, хоць бы Зося скарэй вярнулася! Мусіць, ён ачмурыў мяне, як тая цыганка цётку Ганну, што ўсё сала аддала ёй.

Вяртаецца з вялікім малатком у руцэ Ахрэм.

**Ахрэм**: Дай-ка ж прыцэліцца, каб ёменька, каб адразу. *(Гахае малатком па плешцы).* Вось так. Да адказу. Аж у сцяну плешка ўехала. *(Кладзе малаток на стол).*

**Тодар**: Пацэліў? Ты глядзі! Я думаў, разоў пяць гакнеш, пакуль уцэліш.

**Ахрэм**: Ну што — з Богам? Давай! Упіраймася — і слухай маю каманду. *(Становяцца тварам да сцяны і ўпіраюцца ў яе рукамі).* Увага! Лічу да трох. Раз-два-тры! *(Пхнуць. Сцяна не паддаецца).* Хвілінку! Давай яшчэ разок. Ну! Раз-два-тры! *(Пхнуць. Бачна, што Тодар не напружыўся, апёрся аб сцяну так, як п'яны, каб не паваліцца).*

**Тодар**: Мусіць, нічога не выйдзе... Нават і не думае скрануцца.

**Ахрэм**: Відаць, трэба з другога боку падналегчы, з твайго пакоя. Дай-ка я адсуну стол, і хадзем да цябе. *(Адцягвае стол на край пакоя).* Абрынем! Нідзе яна не дзенецца!

Пераходзяць у кватэру Тодара.

**Ахрэм** *(акінуўшы вокам сцяну)*: Слухай! І ў цябе ж тут здаравенны цвік тырчыць. Толькі без плешкі. Цікава, як ты яго заганяў? Плешкай унутр, у сцяну?

**Тодар** *(падыходзіць да Ахрэма)*: Што табе мярэшчыцца? Які цвік? Гм!.. Адкуль ён могтут узяцца? Зараз выцягну, абцугамі..

**Ахрэм**: А навошта цягнуць? Замалаточ у сцяну, як я, і хай сядзіць!

**Тодар**: Так, без плешкі выцягнуць яго цяжка. *(Бярэ малаток і заганяе цвік у сцяну. Глядзіць на Ахрэма).* Нешта вельмі лёгка пайшоў, як у гнілое ўсё роўна... *(Кладзе малаток на крэсла).*

**Ахрэм**: Ну — берымося! Давай! *(Упіраюцца рукамі ў сцяну. Тодар — толькі для прыліку).* Раз-два-тры! *(Пхнуць, пыхцяць, сцяна ні з месца. Ахрэм так напінаецца — аж завывае).*

**Тодар**: Не хоча... Вось табе і перагародка.

**Ахрэм** *(уздыхнуўшы)*: Не хоча... *(Задумаўся.)* Слухай, а давай паспрабуем так: плячом — штосілы і ў адно імгненне — гух! Га? Давай!

Размахнуліся і "гухнулі". Эфекту ніякага.

**Ахрэм**: А калі разбегчыся і штосілы нагой? Га? Толькі сінхронна! Каб у адно імгненне. Давай!

Адышліся на колькі метраў і пад каманду Ахрэма "раз-два-тры!" рванулі. Тодар адразу ж зачапіўся нагой за дыван і бразнуўся вобзем — так, што Ахрэм ажно спужаўся.

**Ахрэм**: Ты што, Тодзік? *(Памагае Тодару падняцца).* Што з табою?

**Тодар**: Усё ў парадку. Проста зачапіўся нагою во за гэту пасцілку.

**Ахрэм**: Пачула б Зося — яна б табе паказала пасцілку. Давай нанава! Толькі трэба гухнуць абсалютна сінхронна!

Разбегліся і "гухнулі". Сцяна і не задрыжэла.

**Тодар**: Ну што? Засталося яшчэ азадкамі гухнуць. Давай, паспрабуем. Праўда, азадкі нашы... і не генеральскія, і не міністэрскія. *(Падыходзіць да сцяны і стукаецца аб яе задам).*

**Ахрэм** *(памаўчаўшы, злосна)*: Хадзем да мяне і паспрабуем у іншы спосаб. Раз не паддаецца так — зробім інакш. *(Пераходзяць у пакой да Тодара).* Іншы спосаб такі: я зараз вазьму калун і абухом пачнем гахаць па краях, там, дзе перагародка ў пазы заходзіць. Як выб'ем з пазоў — яна тут жа і грымне! Пачакай хвілінку. *(Выходзіць).*

**Тодар** *(сам сабе, хапаючыся за галаву)*: І Зося як назло затрымалася недзе. Хоць бы ён таго калуна не знайшоў!

Вяртаецца з калуном у руцэ Ахрэм. Падыходзіць да сцяны.

**Ахрэм**: Тодзік! Хадзі сюды. Ты бачыш? Тут нейкая нячыстая сіла арудуе. Я ж загнаў гэты цвік па самую плешку — а ён ізноў тырчыць!

**Тодар**: А гэта, брат, такі самы цуд, як і з людзьмі бывае. Часам і чалавека загоняць некуды па самую плешку, а праз нейкі час глядзіш — ён ізноў тырчыць. Вунь колькі загнаных павылазіла! Аж не верыцца: як быццам жыццё назад вярнулася! Зноў тыя самыя і тырчаць, і крычаць, і камандуюць, і заклікаюць... А цвік гэты — адзін і той жа: ты яго туды, а я — адтуль. Каб пераканацца, загані яго яшчэ раз, а я збегаю пагляджу, ці вылез. *(Выходзіць).*

Ахрэм бярэ малаток і зноў заганяе цвік па плешку. Тым часам заходзіць у сваю кватэру Зося. Услед за ёю ўбягае і Тодар. Убачыў жонку і відочна ўзрадаваўся.

**Тодар**: Вярнулася?.. Пачакай секундачку, я тут гляну, ці вылез цвік са сцяны. *(Ідзе і глядзіць).* Вылез, канешне! А ён пытае, што за нячыстая сіла тут арудуе.

**Зося** *(з расчараваннем і засмучэннем)*: Тодзік! Ты ж п'яны! Ай, бессаромныя вочы твае! Пакуль мяне не было — дык ты сядзеў у Ахрэма і жлукціў?.. А што за цвік вылез? Навошта ён тут?

**Тодар** *(вінавата, але і бадзёра)*: Зосечка! Ты ж нічога не ведаеш! А тут такое

пачалося, такое нешта нечуванае!..

**Зося**: Што пачалося? Што?.. Божа, як ты напіўся! Ай, які сорам!

**Тодар:** Мы рашылі знесці прэч гэту сцяну і аб'яднаць нашы кватэры. Ты зразумела? Хадзі паглядзі, як мы будзем яе ліквідоўваць, зараз яна грымне. Хадзі-хадзі! *(Спяшаецца пайсці, Зося следам).*

**Зося**: Пачакай! Што ты мелеш, Тодзік? Што за дурныя жарты? Ці ты ўжо зусім мазгі адпіў?

**Тодар**: Хадзі-хадзі! Зараз пабачыш, якія тут жарты. *(Перабягае ў пакой да Ахрэма).* Вылез, канешне! Гэта адзін і той жа цвік!

**Ахрэм** *(зарагатаўшы)*: Во някемныя боўдзілы, га! Адзін па плешцы, другі па вастры — і ганяем туды-сюды ўпустую!.. Ну, а цяпер глядзі, што я буду рабіць. Гістарычны момант! Шкада, што фотакарэспандэнта няма. *(Бярэ калун і падыходзіць да краю сцяны).*

У гэты ж час у пакой зайшла і спынілася пры ўваходзе Зося. Мужчыны яе не бачаць. Ахрэм прыпаднята калун і нямоцна, як бы на пробу, ударыў абухом па сцяне.

**Зося** *(рвануўшыся да Ахрэма)*: Ляксеіч! Ты што — звар'яцеў? Што ты надумаў? Пакладзі на месца калун, Ляксеіч! Дай яго сюды, чуеш! Дай яго мне, дай! Дай, кажу! *(Хоча вырваць з рук Ахрэма калун. Той далікатна яе адпіхае).*

**Ахрэм**: Су-се-дач-ка! Хоць я цябе і вельмі паважаю, але сюды не лезь! Не лезь, а то, крый Бог, гэта самае... У нас эпахальная падзея! Тодзік, растлумач ёй, якую геніяльную ідэю мы ажыццяўляем.

**Тодар**: Дык я ўжо сказаў ёй!.. Зося, я ж табе сказаў, што мы пастанавілі ліквідаваць гэтую сцяну. Каб яна не раздзяляла нас. Мы ўжо ўсё абгаварылі, усе выгады. Будзем адзін да аднаго не праз тыя дзверы на пляцоўцы хадзіць, а проста з пакоя ў пакой, з кухні на кухню. У адных пантофлях ці нават у шкарпэтках.

**Зося** *(адышоўшыся, галасна, у роспачы)*: Ай-яй-яй, што яны вытвараюць! Такі дапіліся нарэшце, дасмакталіся! Паслухайце, ёлупні! А вы ў нас, у мяне з Дуняй, пыталіся, ці трэба нам такое аб'яднанне? А ў дзяцей нашых вы пыталіся? Яны ж ужо амаль дарослыя! Як вам магло такое ў галаву прыйсці?!. *(У залу).* І што гэта рабіць, людзі? Дзе шукаць паратунку? Сапсуюць жа кватэру, паразіты! Ды не толькі кватэру. Увесь дом у аварыйным стане! *(Зноў падступае да Ахрэма).* Ляксеіч, міленькі, ну аддай мне калун, аддай! Ну прашу цябе!..

**Ахрэм** *(сярдзіта)*: Зося! Не суньця пад руку, сказаў! Адыдзіся! Я пачынаю гахаць! *(Стукнуў другі раз, але таксама нямоцна).*

**Зося** *(да Тодара, са злосцю)*, Што ты стаіш, як істукан, Тодар?!. Зараз жа адбяры ў яго калун, чуеш?

**Тодар**: Так ён табе і аддасць, чакай!

**Зося**: Ну, п'яныя абармоты! Колькі ж трэба выпіць, каб да такой дурноты дайшло!.. (*Па-начальніцку* ),Дуня — дзе? У маці?

**Ахрэм** *(не павярнуўшыся да Зосі)*: У маці... А колькі мы выпілі, Тодзік? Мы ж ерунду выпілі! Га?

**Зося** (*ідзе да тэлефона на тумбачцы, набірае нумар)*: Добры дзень, Васілеўна. Гэта Зося тэлефануе. Дуня ў вас? Дайце, калі ласка. Дунечка, скарэй прыязджай дадому, бяда нас з табой спасціга *(захліпала ў трубку)*. Не, усе жывыя... Не, не абакралі... Мой і твой *(захліпала яшчэ мацней)*... не, не атруціліся... не, не пакалечыліся, горш, чым пакалечыліся. Не ведаю, што з імі. Відаць, звар'яцелі, а можа, дапіліся да белай гарачкі. *(Перастае хліпаць).* Яны сцяну разбураюць. Гэту, што раздзяляе нашы кватэры. Каб зрабіць адну агульную. Камуналку каб зрабіць. Ім мала, што жывем дзверы ў дзверы і не замыкаемся... Я не магу ім даць рады і не ведаю, каго выклікаць: ці міліцыю, ці хуткую дапамогу, каб у псіхушку забралі... Ганьбы ж не абярэмся, няслава пойдзе па горадзе... Як — ну і такой бяды? Дуня! Што ты гаворыш? Ты, можа, не зразумела? *(Выразна, моцна).* Яны разбураюць сцяну! Яны звар'яцелі!.. Ну прыязджай, Дунечка! Скарэй прыязджай! *(Кладзе трубку, сядзіць і маўчыць).*

**Тодар** *(да Ахрэма)*: Вось бачыш, браток... Мая душа такі чула, што тут мы нешта не тое...

**Ахрэм** *(злосна, перакрыўляючы)*: Душа, душа!.. Ануча, а не душа! Падупальцы вы, а не сябры-суседзі. Ну, нічога, скора самі папросіце, і ўсё разбурым, усё знясём!.. *(Круціць апушчанай на грудзі галавой, хістаецца і асоўваецца каля сцяны на падлогу. Калун выпадае з рук).*

Заслона.

1997, красавік

ВАНДРОЎКІ

Арлен КАШКУРЭВІЧ

# Дарога да дома Лакснеса

## 23 КРАСАВІКА СУСВЕТНА ВЯДОМАМУ ІСЛАНДСКАМУ ПІСЬМЕННІКУ, ЛАЎРЭАТУ НОБЕЛЕЎСКАЙ ПРЭМІІ ХАЛДАРУ ЛАКСНЕСУ СПОЎНІЛАСЯ 95 ГАДОЎ

Гэта быў самы доўгі дзень лета — Ёнгмеса, так называюць яго ісландцы. Я і мая жонка запрошаны на абед у дом самага любімага пісьменніка Ісландыі Халдара Лакснеса.

Дарога да дома пісьменніка бяжыць паўз зялёныя пусткі, маленькія фермы і шэрыя горы ўдалечыні, дзе ў расколінах яшчэ бялее нерасталы снег. Ідзе дробны дождж і сівая імгла ахутвае горы. За 30 кіламетраў ад Рэйк'явіка, на невялікім узгорку, на беразе пеністага ручая, які бруіцца па камянях, стаіць невялікі, двухпавярховы белы дом "Глюфрастэйн" — Камень цясніны. Непадалёк ад гэтага месца, ля падножжа гары, некалі стаяў хутар бацькі пісьменніка "Ласосевы мыс" — Лакснес. Сын узяў гэту назву сваім літаратурным псеўданімам.

Гэтай сустрэчы я чакаў шмат гадоў. Я марыў аб ёй з далёкага 1959 года, калі закончыў сваю дыпломную работу — ілюстрацыі да рамана "Атамная база" Х. Лакснеса. Я адкрыў для сябе дзівосную краіну высакародных, мужных людзей і вялікага самабытнага пісьменніка.

Работа захапіла мяне і мне захацелася прачытаць іншыя кнігі гэтага крыху дзіўнага, надзіва шчырага, праўдзівага пісьменніка, больш даведацца пра яго далёкую краіну. Былі прачытаны "Ісландскія сагі", раманы "Салка Валка", "Свет свету", трылогія "Ісландскі звон", зборнікі апавяданняў і, нарэшце, "Самастойныя людзі" — самы значны твор Лакснеса, за які ён атрымаў у 1955 годзе Нобелеўскую прэмію, сусветную вядомасць.

Сустрэча з Ісландыяй, пра якую раней і марыць было нерэальна, адбылася летам 1993 года. Я з жонкай прыляцеў у Ісландыю па запрашэнні Таварыства культурных сувязей МІР. Ісландскія сябры ведалі маю творчасць і маю цікавасць да іх краіны і вырашылі арганізаваць у Рэйк'явіку выставу маіх работ, а мяне, у сваю чаргу, пазнаёміць з краінай.

Ісландыя заўсёды вабіла мяне сваёй суровай, фантастычнай прыродай, тысячагадовай гісторыяй, самабытнай культурай. Я ведаў краіну толькі па фотаздымках ды рэпрадукцыях мастакоў, а цяпер я маю магчымасць убачыць яе сваімі вачамі, дыхаць яе празрыстым паветрам і, спадзяюся, мне ўдасца зразумець душу ісландскага народа.

Ісландцы — інтэлігентная нацыя. Кожны ісландзец не ўяўляе сябе без літаратуры. Нідзе літаратура так не ўплывае на духоўнае жыццё народа, як у гэтай краіне. Усе ісландцы ведаюць свае старажытныя сагі, якія з'яўляюцца асновай гістарычнай памяці нацыі. Кнігі Х. Лакснеса ёсць у кожным доме. У магазінах я бачыў шмат цудоўна выдадзеных кніг пісьменніка. На жаль, многія яшчэ не перакладзены ў нас, на Беларусі. У Ісландыю я прывёз некалькі кніг, выдадзеных у Мінску, у тым ліку "Атамную базу" Х. Лакснеса з маімі ілюстрацыямі. Гэта першае выданне кнігі ісландскага пісьменніка на беларускай мове. Пераклад зроблены Іванам Пташнікавым.

Пад'язджаем к дому. Побач растуць густа пасаджаныя нізкарослыя паўночныя бярозкі. Ісландскі гай! За імі, на пляцоўцы каля дома — басейн з празрыстай, блакітнаватай вадой. У ім плавае самотны аранжавы мяч. Каля яго — бронзавая фігура бягучага каня і велізарны камень. Напэўна, ён ляжаў тут і тысячу гадоў назад, да таго, як пабудаваны гэты дом.

На парозе нас гасцінна вітае Аўдур — жонка пісьменніка. Яна маладжавая, стройная, вельмі рухавая. З ёй мы ўжо пазнаёміліся на адкрыцці маёй выставы, дзе яна падарыла мне вялікі альбом пра жыццё і творчасць Халдара Лакснеса. Аўдур ведае нямецкую мову, і ў яе з маёй Людмілай добры кантакт. Лакснеса няма дома. Ён у санаторыі.



*Халдар Лакснес з жонкаю Аўдур*

Зайшоўшы ў вітальню, ужо адчуваеш, што трапіў у незвычайны дом. Мне ўсё тут цікава: і дошка XVII стагоддзя з выразанай на ёй стараісландскім шрыфтам малітвай (яна належала бацьку Аўдур), і вялізны, старадаўні куфар, акаваны жалезам. Над ім карціна. Я ведаю пэндзаль К'ярвала — знакамітага ісландскага жывапісца. На ёй выяўлены Іаан Хрысціцель. Карціна, расказвае жонка пісьменніка, вісела ў алтары адной старой кірхі, але прыхаджанам яна не падабалася, і Лакснес выкупіў яе за добрыя грошы.

Аўдур простая ў стасунках. З радасцю паказвае нам дом. Адразу ж запрашае на другі паверх, дзе знаходзіцца рабочы кабінет. Гэта — невялікі пакой, застаўлены кнігамі. Сярод іх творы Х. Лакснеса, выдадзеныя ва ўсім свеце, альбомы па мастацтве. Жывапіс на сценах. Каля высокага століка ён працуе стоячы. Над сталом у рамачках — фотаздымкі яго родных. З вакна бачны схіл гары і ледзь бачная скрозь завесу дажджу вузкая палоска акіяна.

Ва ўсім доме шмат твораў мастацтва — жывапіс, графіка. Шмат абстрактных палотнаў вядомай ісландскай мастачкі Ніны Трыгвадатыр. Спускаемся ў прасторную гасцёўню. Сцены аздоблены залацістай, паліраванай фанерай, і ад гэтага ўвесь пакой азораны цёплым святлом.

Каля раяля з раскрытымі нотамі І. С. Баха вісіць габелен, які я адразу прыняў за арыгінал. Выявілася, што гэта копія з сярэдневяковага арыгінала XV стагоддзя, памайстэрску выкананая маці Аўдур.

Гаспадыня пайшла на кухню рыхтаваць да абеда, а мы размясціліся на канапе каля шырокага акна на ўсю сценку, застаўленага кветкамі і кактусамі, якія нагадваюць мудрагелістую архітэктуру Гаўдзі. Паўсюль, на каміне, на маленькіх століках рэчы, прывезеныя з паездак па ўсім свеце. Сярэбраныя сервізы з Індыі, статуэткі з Афрыкі, лакавыя шкатулкі з Расіі — Халдар і Аўдур шмат падарожнічалі.

У гасцёўні вялікія скураныя крэслы. Адно вельмі нізкае, амаль ля самай падлогі, любімае крэсла Халдара Лакснеса. Як шмат у гэтым доме хочацца разгледзець і запомніць. Да ўсіх жа гэтых рэчаў дакраналася рука вялікага майстра.

Я падношу гаспадыні партрэт пісьменніка, зроблены нядаўна. Яна ставіць яго на столік побач з букетам кветак. Партрэт усім спадабаўся. Ён яўна ўдаўся, і я таксама задаволены.

За абедзенным сталом карыстаюся момантам і раблю некалькі хуткіх накідаў з Аўдур. Яна расказвае, як будаваўся гэты дом. Ён быў пабудаваны ў 1945 годзе. Быў вельмі добры праект, але, на жаль, кепскія будаўнікі...

Гартаем тоўсты альбом з фотаздымкамі. Колькі знакамітых людзей тут пабывала! Я прашу паказаць апошнія выданні Х. Лакснеса, і Аўдур прыносіць некалькі кніг. Гэта артыкулы, эсэ, дзённік пісьменніка, знойдзены нядаўна ў манастыры Сант-Морысдэ-Клерво ў Люксембургу, дзе ён быў паслушнікам у дваццатых гадах.

Творчы шлях пісьменніка быў няпросты. Лакснес выпраўляецца ў свет, каб дамагчыся дасканаласці і славы. Ён упітвае ў сябе адно вучэнне за другім. Ён прымае каталіцтва. Імкнецца атрымаць адказ на самыя

*(Працяг на стар. 16)*







*Ілюстрацыі А. Кашкурэвіча да рамана Х. Лакснеса "Самастойныя людзі"*

ПОШТА

# Вось так і жывём

Нягледзячы на ўсё і ўся, пісьменнік застаецца пісьменнікам: ён піша. І калі ён па-сапраўднаму сумленны чалавек, грамадзянін, то напісанае ім — не кан'юнктура, а ўдумлівы, аб'ектыўны аналіз свайго часу і аналіз паводзін у гэтым часе асобнага чалавека, групы людзей, плыні і г.д. Адзін выказваецца прозай, другі — вершам. І не важна, у якім жанры будзе напісаны дзённік нашых дзён ці мінуўшчыны сівой. Важна — праўда.

Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў налічвае зараз дваццаць актыўных "штыкоў". Добра тое ці дрэнна, што літаратары аддзялення як бы распылены па вобласці, але робяць яны ўсе ў меру сваіх магчымасцей і здольнасцей, уносячы сваю долю ў дзейнасць абласной пісьменніцкай арганізацыі. На некаторых аспектах нашай работы мне б і хацелася спыніцца, а заадно — параіцца, папрасіць (творчыя арганізацыі амаль заўсёды хадзілі з працягнутай рукой, а пра сённяшні дзень і гаворкі няма) дапамогі і разумення ў тых, хто мае ўладу і грошы.

Пачну, бадай, з самага адметнага, што зроблена за мінулы год. Так, упершыню не толькі ў вобласці, але і ў краіне разам з абласным аб'яднаннем па арганізацыі пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі пабачыў свет першы зборнік юных паэтаў Віцебшчыны "Крынічка", у якім прадстаўлены аўтары і аўтаркі — вучні чацвёртага — адзінаццатага класаў. Кніга — плён двух абласных конкурсаў юных паэтаў Прыдзвіння, прамое дачыненне да якіх мела і наша творчая арганізацыя.

Неардынарнай, па-сапраўднаму святочнай падзеяй стала адкрыццё помніка Еўдакіі Лось ля цэнтральнай бібліятэкі Віцебска. Адразу агаваруся — вобласць годна ўшаноўвае сваіх слынных землякоў. Пра апошняе сведчаць помнікі П. Броўку, М. Лынькову, У. Караткевічу (С. Полацкага і Ф. Скарыну трывожыць не будзем з-за даўнасці часу). Многія вуліцы, школы, бібліятэкі, калгасы носяць іх імёны.

Для выдання альманаха "Дзвіна" (Віцебшчына літаратурная) упраўленне фінансаў аблвыканкама выдзеліла 20 мільёнаў рублёў — дзякуй яму вялікі ад усіх нас за падтрымку. Але інфляцыя, каб на яе ліха, істота ненажэрная. І зараз выданне неабходнай (першы нумар "Дзвіны", выдадзены ў 1992 годзе, стаў бібліяграфічнай рэдкасцю, разышоўся імгненна) кнігі каштуе, па падліках выдавецкіх фінансістаў, больш за 90 мільёнаў рублёў. Зборнік ужо набіраецца. Ды дзе ж узяць гэтыя мільёны? Ёсць вялікае спадзяванне на Міністэрства культуры і наш родны аблвыканкам з яго фінансавым упраўленнем. Былі б багатымі нашы ганарары, скінуліся б неяк, а то самі пісьменнікі, аб чым і казаць сорамна, атрымліваюць літаральна капейкі. Некаторыя (непрацуючыя) падрабляюць дзе-нідзе. А між тым: хто ведае, можа, пад вокладкай нашай "Дзвіны" знаходзіцца другі будучы Быкаў ці Барадулін, Лось ці Караткевіч?..

Адбылося выязное пасяджэнне аддзялення ў Полацку, у цэнтры яго Полацка-Глыбоцкай філіі. Пагаварылі пра надзённае, рэкамендавалі для ўступлення ў творчы саюз В. Русілку, А. Нафрановіча, Ф. Ляшонка, Г. Варатынскую, В. Філіповіча. Дарэчы, сёння Г. Варатынская і Ф. Ляшонак сталі сябрамі СБП. Астатнія чакаюць свайго зорнага часу, бо прыёмны цэнз — высокі, хаця кніжак з кожным годам выдаецца ўсё больш і больш. І ў асноўным "самвыдам", а не дзяржаўным выдавецтвам "Мастацкая літаратура". І не віна наша ў тым, а бяда. Выходзіць, на вялікі жаль, так: сам складаю, сам друкую, сам... прадаю. І калі ўжо зайшла гаворка, дык усё ж згадаю тыя кніжкі, якія прыйшлі да чытача летась. Сярод іх зборнік вершаў "Трывога лёсу" аўтара гэтых радкоў, "А я люблю..." Тамары Барадзёнак, "У люстэрку" Людмілы Сіманёнак, "Лірыка" Васіля Філіповіча.

Летась упершыню разам з іншымі творцамі Віцебска мы адсвяткавалі першае свята "Сузор'е муз аў — 96". Былі лаўрэаты, медалі, прамовы, запэўніванні ў доўгім жыцці такой творчай падзеі, нават спадзяваліся зрабіць яе абласной, а яна ўзяла і... сканала. Сапраўды, як кажуць, добрымі намерамі вымашчана дарога ў пекла. Пытанне (і не рытарычнае) да гарадскога аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама: будзе свята ці не? Калі не, то што гэтаму замінае?

У мінулым годзе на Віцебшчыне пабывалі літаратары суседзі-смаляне Аляксей Мішын, Анатоль Запрагаеў, Ніна Сямёнава (памерла, зямелька ёй пухам!), Міхаіл Голешаў, а ў Смаленску — наш празаік Франц Сіўко. І вось на апошнім нашым пісьменніцкім сходзе мы віталі аднаўленне сяброўскіх сувязяў са смалянамі і... зірнулі далей: а як там жыве Зялёна Гура — пекная паненка-полька? Даўно ўжо не бачылі мы яе, а яна нас. А калісьці слаўна сустракаліся! І зноў закід да мясцовых уладаў: паспрыяйце сваім літаратарам у аднаўленні чаканых сустрэч — як з польскага, так і з беларускага бакоў. Вы ж і мы — за дружбу паміж славянамі. А палякі хто?

Рэгулярна выходзілі літаратурныя старонкі "Зарніцы", "Сябрына", друкаваліся вершы ў рубрыцы "На паэтычнай хвалі" ў газеце "Віцебскі рабочы". Прыемна было чуць падзяку пісьменнікаў у адрас рэдакцыі галоўнаму рэдактару газеты Уладзіміру Раманоўскаму, які прысутнічаў на сходзе і які папрасіў літаратараў-землякоў уздымаць на старонках газеты злабадзённыя пытанні, ставіць вострыя праблемы, бо слова пісьменніка патрэбна людзям.

Пра традыцыйныя караткевічаўскія чытанні, пушкінскія святы казаць не трэба: яны надзейна прыжыліся на Віцебшчыне і Аршаншчыне.

Аддзяленнем сумесна з упраўленнем культуры, абласным фондам культуры, гарадскімі аддзеламі культуры праведзены творчыя вечарыны Марыі Баравік (Падсвілле—Глыбокае), аўтара гэтых радкоў (Віцебск—Шуміліна—Ушачы) з нагоды іх 50-годдзя і Міколы Воранава (Шаркоўшчына) з нагоды яго 60-годдзя.

Яшчэ раз падкрэслівалася неабходнасць рэгулярных і змястоўных выступленняў пісьменнікаў у розных аўдыторыях і асабліва ў школах, тэхнікумах, ВНУ, бо справа з роднай мовай — кепская.

Вось пра гэта зацікаўлена гаварылі, сабраўшыся на свой сход, пісьменнікі Віцебшчыны. Барыс Беляжэнка абраны на сходзе намеснікам сакратара абласнога аддзялення СБП, Навум Гальпяровіч — старшыня Полацка-Глыбоцкай філіі. Для ўступлення ў наш творчы саюз рэкамендавана ладная купка нашых літаратараў.

**Алег САЛТУК,**
**сакратар абласнога аддзялення СБП**

# Дарога да дома Лакснеса

*(Працяг. Пачатак на стар. 15)*

складаныя пытанні жыцця. Хоча зразумець: якая мэта існавання на зямлі яго самога і чалавецтва ўвогуле. Правёўшы год у манастыры, ён пакідае яго. Лакснес разумее, што той, хто хоча стаць пісьменнікам, павінен шукаць крыніцу дасканаласці свайго мастацтва ў самім жыцці.

У першыя гады сваёй творчасці, блукаючы па краінах Заходняй Еўропы, ён спрабаваў сябе і ў экспрэсіянізме, і сюррэалізме. Хутка ён ад'язджае ў Амерыку, дзе пражыў два гады. Там, удалечыні ад радзімы, ён мацней адчуў ніці, што звязваюць яго з народам. Найглыбокая ісціна, спазнаная ім, заключаецца ў наступным: "Спазнаць свет — гэта значыць зноўку зразумець Ісландыю. Гэта значыць убачыць свае пытанні ў вачах кожнага чалавека. У света няма тайнаў, акрамя тайнаў чалавечага сэрца".

Намаганнямі сяброў Лакснес вяртаецца ў Ісландыю ўжо новым, свабодным чалавекам. На радзіме яму ўдаецца пераадолець свае ранейшыя супярэчнасці. Тут ён знаходзіць крыніцу, якая сілкавала яго далейшую творчасць. Ісландыя стала для яго вобразам усяго свету.

Пісьменнік увесь час шліфуе сваё майстэрства. Яго патрабавальнасць не ведае межаў. Ён імкнецца да дасканаласці. Аднойчы ён сказаў: "Я напісаў больш за 20 кніг. Але я думаю, што не змагу знайсці ў іх ніводнага сказа, добра зробленага ва ўсіх адносінах. Добра зробленая старонка за ўсё жыццё — гэта амаль цуд". І гэта гаворыць майстар, чые кнігі ведае і любіць увесь свет!

Аўдур Лакснес расказвае, што ў іх у Глюфрастэйне бывала шмат гасцей. Сярод іх кароль Швецыі Карл Густаў з каралевай, Улаф Пальме, Мсціслаў Растраповіч і многія іншыя вядомыя паэты, музыканты і мастакі. Аднойчы да нас заехаў, гаворыць яна, адзін амерыканец, які зрабіў прыпынак у аэрапорце ў Кефлавіку. Ён узяў таксі і прыімчаў да Лакснеса толькі дзеля таго, каб паціснуць яму руку. Другому госцю пісьменнік сказаў: "Што ты тут убачыш? У мяне ж няма вадаспада". — "Ты — сапраўдны вадаспад!" — адказаў госць.

І сапраўды, кніг, напісаных пісьменнікам, вельмі многа. Ягоная творчасць — гэта вадаспад таленавітых, наватарскіх твораў. Ён не трывае застылай формы. Ён, як паток, які вывяргаецца з глетчараў. У ім жывуць сілы прыроды, падобныя на раку, якая ламае ледзяныя покрывы. Кожным нервам ён адчувае трывогу часу. Ён заўсёды стаіць, высока ўзняўшы галаву, як сімвал барацьбы...

Праз некалькі дзён мы сустрэліся з Аўдур на выставе. Я зрабіў з яе некалькі накідаў. Пра адзін з іх яна гаворыць: " Гэта я, але занадта прыгожая". Але яна сапраўды прыгожая!

Яна прапаноўвае нам пагуляць па горадзе. Нягледзячы на ўзрост, яна ідзе стройнай, маладой хадой у туфлях на высокім абцасе. Як сапраўды элегантная дама, яна апранута крыху не па модзе. На ёй шырокае клятчастае паліто, аксамітны берэт з брошкай і маленькім пёркам. Мы гутарым, заходзім у шыкоўныя магазіны, кавярні. Яе ўсе ведаюць, ставяцца з увагай і пачцівасцю. Усё гэта сведчыць аб тым, які папулярны і любімы Халдар Лакснес у Ісландыі...

Праз некалькі дзён па накідах паспрабаваў зрабіць партрэт Аўдур Лакснес. Зрабіў некалькі варыянтаў. Здаецца, адзін атрымаўся. Гэта не проста праўдападобны партрэт з натуры, а хутчэй рамантычнае ўяўленне пра тое, як цікавую, абаяльную асобу, натхніцельку творчасці Лакснеса і яго анёлаахоўніка. Яна нашмат маладзейшая за яго і ўсё яе жыццё — клопат пра пісьменніка. Яе рукамі створаны гэты цёплы, утульны дом.

Неяк Людміла патэлефанавала Аўдур. (У іх склаліся цёплыя, сяброўскія адносіны). Даведаўшыся, што я зрабіў яе партрэт, яна адразу ж прыехала ў Рэйк'явік. Мы пілі каву, доўга гутарылі. Я падараваў ёй усе тры варыянты. Потым яна запрашае нас да сябе, і мы зноў едзем у гасцінны дом Лакснесаў.

Быў яркі сонечны дзень. Фіялетавыя цені бягуць па схілах гор. Гэтыя мясціны ўжо знаёмы нам. Аўдур у элегантных шэрых пальчатках грацыёзна вядзе машыну.

Па дарозе яна расказвае, што Лакснес сваімі творамі прынёс Ісландыі не толькі славу, але і вельмі шмат валюты. Але стаўленне да яго ў краіне было неадназначнае. Адзін час яму не маглі дараваць, што ён быў камуністам. Ён выйшаў з партыі, бо зразумеў, што многае ў Савецкім Саюзе робіцца не па-людску. Ён некалькі разоў пісаў пра гэта савецкаму кіраўніцтву, але не атрымаў ніякага адказу. У Ісландыі яго асуджалі за тое, што ён нібыта кепска ставіцца да сялян (на самай справе ён проста праўдзіва расказаў аб іх у сваім рамане "Самастойныя людзі"). Некаторыя нават былі супраць прысуджэння яму за гэты раман Нобелеўскай прэміі.

У доме пасля абеду мы доўга разглядаем шматлікія фотаздымкі Лакснеса. На твары яго добрая ўсмешка. За шкельцамі акуляраў — мудрыя вочы. Ён заўсёды бездакорна апрануты. Халдар любіць апранацца з густам, расказвае Аўдур. У яго нават быў свой кравец у Капенгагене. Ён любіць стракатыя пінжакі ў клетку і заўсёды носіць вельмі дарагі элегантны абутак.

У Лакснеса двое дачкі і трое ўнукаў. Яны жывуць побач за ручаём у маленькім дамку.

Пакуль Людміла памагае прыбіраць са стала, я выходжу ў двор. Якое чыстае, празрыстае паветра. Якая прастора для вачэй, для душы. Далёкія горы падаюцца зусім побач. Як, напэўна, хораша тут пішацца!

Спускаюся па камянях, парослых мяккім мохам, да ручая. Вакол камяні, камяні... Можна лёгка падвярнуць нагу. Зрабіўшы некалькі накідаў, я вяртаюся.

Хутка мы ад'язджаем у Рэйк'явік. Да пабачэння, дом Лакснеса. Вось мы пабывалі тут яшчэ раз.

Мы сустракаліся з Аўдур яшчэ пазней, у Халдара Лакснеса. Сустрэча была кароткая. Пісьменнік усмешлівы і добры. Ён вельмі слабы ў свае 92 гады і вымушаны шмат часу праводзіць у санаторыі. Дрыжачай рукой ён падпісаў мне кнігу, і яна разам з кавалкам лавы, якая пахла распаленай сэрай і халодным ветрам, была для мяне лепшым падарункам з усіх, што я прывёз з Ісландыі.

І вось вялікаму майстру ўжо 95. У знак удзячнасці за яго магутны талент да дня нараджэння пісьменніка я зрабіў серыю ілюстрацый да "Самастойных людзей". Да гэтай работы я ішоў больш за 30 гадоў. Вядома, работа яшчэ не закончана, многае наперадзе, але некалькі кампазіцый я паслаў Халдару Лакснесу. Раман "Самастойныя людзі" — гэта гераічная сага пра суровых, працавітых і гордых людзей, якія імкнуцца набыць свабоду і незалежнасць.

У гэтай кнізе праявілася адна з характэрных рысаў пісьменніка, якая заключаецца ва ўменні бачыць вялікае ў малым. Маленькая Ісландыя робіцца для яго вобразам усяго вялікага свету. І таму кнігі Халдара Лакснеса нясуць святло ўсім народам.

**Арлен КАШКУРЭВІЧ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2332-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2332-525, 2331-985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 2332-525 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2331-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2332-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2331-985 |
| паэзіі і прозы — | 2332-204 |
| музыкі — | 2332-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2332-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2332-462 |
| навін — | 2332-462 |
| мастацкага афармлення — | 2332-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2332-462 |
| бухгалтэрыя — | 2682-667 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 22.5.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2956/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12